# АЛЬМАНАХ СУЧАСНАЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

# pARTisan

**Заснавальнік Артур Клінаў**

**Рэдакцыйная рада:**
Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка,
Ігар Бабкоў, Лявон Вольскі,
Сяргей Дубавец, Валянціна Кісялёва,
Сяргей Харэўскі, Вольга Шпарага

**Ідэя праекту:** Артур Клінаў, Павел Лаўфэр
**Галоўны рэдактар:** Артур Клінаў
**Рэдактар:** Лія Кісялёва

**Redakcja polska:**
Paweł Laufer, Waldemar Tatarczuk, Magdalena Likowska
**Sekretarz projektu:** Katarzyna Plebańczyk
**Tłumaczenie na język białoruski:** Swietłana Kurs
**Tłumaczenia z rosyjskiego i białoruskiego:** Maryja Łucewicz-Napałkow

**Дызайн і вёрстка:** Маск & Feddenka Ryazanov's Fake Vintage Studio

**Адрас:**
вул. Чарвякова 18-63
220068 Менск, Беларусь
**e-mail:** arturklinov@yahoo.de



**На вокладцы:** Катажына Казыра, «Повязь крыві», 1995 / Katarzyna Kozyra, «Więzy krwi», 1995, fotografie, kol.. CSW Zamek Ujazdowski

enter: kultura. miesięcznik wymiany idei
ISSN 1689-7439



# pARTisan 18 An Actual







# Сваё сярод чужых

## Чужое сярод сваіх




Tonia Slabodchikova, project «Life is short», 2010
Тоня Слабодчыкава, праект «Жыццё кароткае», 2010

## Вадзім Дабравольскі

# Сваё сярод чужых. Чужое сярод сваіх



Жана Гладко, «Прысутнасьць», 2011
Żanna Hładko, «Prysutnasć», 2011

## ARTVILNIUS 11



*Праект «Яна ня можа сказаць НЕБА», падрыхтаваны галерэяю «Ў» для кірмашу сучаснага мастацтва ARTVILNIUS'11 (13.07.2011 — 17.07.2011), стаў ляўрэатам у намінацыі «Лепшая экспазыцыя замежнае галерэі». 28 ліпеня 2011 году ён быў запрапанаваны менскай публіцы й адразу ж выклікаў бурлівую грамадзкую рэакцыю. Што ёсьць падставаю посьпеху й чаму менавіта гэты праект прыцягнуў увагу міжнароднае арт-супольнасьці?*

Посьпех праекту «Яна ня можа сказаць НЕБА» на ARTVILNIUS'11, дзе ён ня толькі стаў ляўрэатам, але і прыцягнуў увагу прэзыдэнта Літвы, здаецца цалкам заканамерным. Куратары — **Аляксей Лунёў, Валянціна Кісялёва й Сяргей Шабохін** прывезьлі на кірмаш мастацтваў не калекцыю працаў «на продаж», але выставу з дакладна выяўленаю канцэпцыяй, такім чынам апрыёры адасобіўшы яе ад большасьці праектаў на ARTVILNIUS'11. Цэнтральную тэму праекту куратары вызначылі як унутраны эскапізм мастака «ва ўмовах варожае акупацыі»[1] ў Беларусі. Арганізатары перагледзелі ў межах беларускае рэчаіснасьці тэзыс пра тое, што сапраўдны творца мусіць добраахвотна зачыніцца ў вежы з слановае косьці. Паводле іхнага меркаваньня, у Беларусі адбываецца зусім ня добраахвотнае выгнаньне мастакоў з жыцьця грамадзтва. «Стратэгіі творчага выжываньня» ў гэтай сытуацыі й сталіся аб'ектамі экспанаваньня.

У вачох журы канцэпцыя праекту выглядала бяспройгрышна. Дзякуючы звароту да праблематыкі Беларусі (пра гэта наўпрост дэкляруецца ў анатацыі) выстава набыла пэўную прывабнасьць для замежнага гледача. Прычына гэтае прынаднасьці хаваецца ў тым, што *мы* (беларусы) і нашая краіна (Беларусь) не такія, як іншыя народы й краіны. Праз пэўныя гістарычныя акалічнасьці мы сапраўды іншыя. Насуперак пашыраным меркаваньням, мы карэнным чынам адрозьніваемся нават ад найбліжэйшых сяброў-ворагаў. Таму ўсё, так ці іначай зьвязанае зь Беларусьсю, за ейнымі межамі мае прыцягальнасьць *інакшасьці* (нездарма ж у галівудзкіх фільмах прыгажуні заўсёды захапляюцца *дзіўнымі* хлопцамі). Не падзяляючы скептыцызму Максіма Жбанкова на гэты конт, не магу не прывесьці ягоную трапную думку, што Беларусь для замежнікаў выглядае як «загадкавы запаведнік культурных мутацыяў»[2]. Пытаньне пра тое, кепска гэта альбо ўсё-такі тут ёсьць пэўны гістарычны шанец для нас, застаецца адкрытае[3].

Пасьля трыюмфу на ARTVILNIUS'11 праект «Яна ня можа сказаць НЕБА» экспанаваўся ў галерэі «Ў». Рэакцыя менскае публікі аказалася халаднейшая, зьявіліся нават заклікі «спаліць выставу й галерэю»[4]. Такая сытуацыя ёсьць вельмі тыповаю для менскага арт-асяродку. Заўзятыя крытыкі экспазыцыі ўзялі на ўзбраеньне свае звычайныя самарухальныя аргумэнты накшталт: «Гэта кепскае мастацтва, бо гэта не мастацтва», альбо «Гэта дрэннае мастацтва, таму што яно пра дрэннае». Пры гэтым «добрае» ў іхным разуменьні мастацтва дзіўным чынам супадае з тым, што ў заходняй культурнай традыцыі называецца дызайнам альбо ілюстрацыяй. Гэтыя крытыкі пачуваюцца абсалютна камфортна ў сваёй дарэфлексіўнай непрыязнасьці да мастацтва, якое не ўкладаецца ў іхныя крытэры. На супрацьлеглым полюсе грамадзкай думкі сканцэнтравалася кола людзей, якія ўскосна ці апасродкавана маюць дачыненьне да галерэі «Ў» і да гэтага праекту. Паміж процілеглымі берагамі распасьцерлася неабсяжнае мора *Маўклівае Беларускае Большасьці*, якая маўчыць пра ўсё, у тым ліку й пра мастацтва.

Маўклівая большасьць і ёсьць тыя самыя «ЯНЫ», якія зьяўляюцца ў адной з цэнтральных працаў выставы — **«Практыкі падпарадкаваньня» Сяргея Шабохіна**. Гермэтычнасьць эскапісцкае пазыцыі выразна выяўляецца праз дэманізацыю вобразу «іх» у суправаджальных тэкстах. На чорна-белых фатаграфіях невялікага фармату выступаюць сьляды «іхнае» прысутнасьці, застылыя ў паўсядзённых рэчах: савецкія зоркі, сьвірнавыя замкі, пустыя гнёзды для сьвяточных чырвона-зялёных сьцягоў і інш. Акрамя фатаграфіяў і тэкстаў Шабохін уводзіць у экспазыцыйную прастору й рэальныя элемэнты беларускае матэрыяльнае рэчаіснасьці, што дасталіся ў спадчыну ад сацыялістычнага мінулага: трубы, якія тырчаць зь сьценаў, успучаныя швы, забітыя зьлівы сьцёкі. Гэта здаецца асабліва ўдалаю знаходкай.

Іншаю працай, якая відавочным чынам аб'ектывізуе матэрыяльнасьць і нашую гісторыю, зьяўляецца рэды-мэйд **Аляксея Лунёва «Матчына сукенка»**. Гэты просты й тыповы прадмет, утылітарны й пазбаўлены таварнага фэтышызму (узгадайце, як спакусьліва выглядаюць дарагія тэлефоны ці аўтамабілі), выразна характарызуе свой час. Для нас, звыклых да агрэсіўнае сэксуальнасьці ў рэкляме й візуальным вобразе ў прынцыпе, падаецца парадаксальнаю яе адсутнасьць у жаночай сукенцы (сэксуальная прывабнасьць — гэта ж адзіна магчымы модус такое рэчы). Усьведамленьне таго дазваляе ўбачыць у рэды-мэйдзе Лунёва ня толькі матэрыяльнасьць гэтай рэчы, але празь яе й ідэі эпохі. І гэта становіцца магчымым дзякуючы працы



Уладзімер Лапо, «Тэкафрагмы», 2011
Vlad Lappo, «Tecofragms», 2011

ARTVILNIUS 11

куратараў, якія надалі прадмету побыту статус мастацкага твору, зьмясьціўшы яго ў выстаўную прастору й даўшы магчымасьць гледачам ідэйна асэнсаваць яго.

Экспазыцыя цалкам натуральна й лягічна пераходзіць ад рэвізіі (працы Шабохіна й Лунёва) да ейнае процілегласьці — рэлігійнае сьвядомасьці. У творы **«Прысутнасьць» Жана Гладко** арганізуе фатаграфіі рэлігійных атрыбутаў і сымбаляў, раздрукаваныя на тканіне, у шматслойную інсталяцыю, дзе яны накладаюцца адна на адну й інтэрфэруюць, утвараючы мудрагелістыя візуальныя камбінацыі. Тыя фатаграфіі, якія знаходзяцца на ніжнім слоі, застаюцца схаваныя ад гледача, і гэта падштурхоўвае да думкі пра тое, што менавіта яны ёсьць найбольш асабістымі вобразамі рэлігійных уяўленьняў мастачкі. «Прысутнасьць» можна разглядаць як мэтафару рэлігійнае сьвядомасьці XXI стагодзьдзя, якая ўжо пазбавілася дагматызму. І таму сталася магчымаю мастацкая апрапрыяцыя рэлігійных вобразаў. Разглядаючы, паглыбляючыся й пераходзячы на ніжэйшыя слаі інсталяцыі, глядач аднаўляе гэтую рэлігійную рэфлексію мастачкі (рэфлексія ж і ёсьць паглыбленьнем у сябе ў пазытыўным сэнсе).

Перагукаецца з ідэяю пэрсанальных вобразаў праца **Аляксея Лунёва «Асабістыя абразы»** («абразы» тут могуць трактавацца ў двух сэнсах). Твор складаецца з сэрыі ананімных фатаграфіяў, вырваных з газэтнага кантэксту, якія зьяўляюцца для мастака адначасова й асабістаю абразай, і крыніцаю натхненьня. Іншаю крыніцай натхненьня для ізаляванага суб'екту становіцца ён сам. У аўтапартрэтах **Гаспара дэ Ло** й **Аляксея Губарава** прасочваецца гэты бок ізаляцыі.

Дзьве працы мастака **А.Р.Ч.** і сэрыя **«Тэкафрагмы» Ўладзімера Лапо** рэпрэзэнтавалі маргінальнае вымярэньне эскапізму. Уцякаючы, гэтыя аўтары пераадольваюць пэўныя прымальныя для грамадзтва межы (позьнелац. marginalis — які знаходзіцца на мяжы) і апынаюцца ў тых сфэрах, куды не ступала нага ні мастака, ні гледача. Можна сказаць, што маргінальнае мастацтва заўсёды ёсьць радыкальна эскапісцкім, яно ж адзінае сапраўды ўцякае ад рэальнасьці. Сэрыя «Тэкафрагмы» Ўладзімера Лапо, напрыклад, улучае пасьмяротныя зьлепкі інсэктаў і пацука, адлітыя ў бронзе. Падобную манумэнталізацыю штодзённае й натуральнае сьмерці можна разглядаць як ідэальную антытэзу бронзавым мерцьвякам на цэнтральных плошчах Менску (мерцьвякам ня толькі ў літаральным сэнсе, але і ў ідэйным і сымбалічным).

Хоць праект выклікаў станоўчыя ўражаньні, у ім прысутнічала пэўная «калейдаскапічнасьць». Праз тое, што ўдзельнікі заявілі сапраўды шырокі дыяпазон разнастайных мастацкіх стратэгіяў, некаторыя працы было складана асэнсаваць у межах праблемы аўтарскага эскапізму. Узьнікала ўражаньне, што з такім самым посьпехам гэтую працу можна экспанаваць на ўсялякай іншай выставе з усялякаю іншаю канцэпцыяй. А гэта вельмі небясьпечнае адчуваньне для сучаснага мастацтва.

Рэзюмуючы, адзначу, што «Яна ня можа сказаць НЕБА» — сапраўды добрая выстава з актуальнаю канцэпцыяй, якая была агучаная ня толькі ў анатацыі, але і пры дапамозе мовы сучаснага мастацтва. На жаль, большасьць беларускіх наведвальнікаў усё яшчэ чакаюць ад экспазыцыяў прыгожага шоў, пазытыўнага спэктаклю, перастрэлкаў і пагоняў. Менавіта таму яны не змаглі паддацца мэлянхалічнаму зачараваньню гэтае выставы. Сучаснае мастацтва для большасьці застаецца незразумелым, непрыгожым і заснаваным на спэкуляцыях на палітычных і сацыяльных праблемах. У гэтым і ёсьць падстава парадаксальнае сытуацыі, калі беларускае мастацтва знаходзіць прызнаньне за мяжою, але ня дома[5]. Паміж сучаснаю культурай і беларускім гледачом узьнікла сьцяна адчужэньня. На шчасьце, у гісторыі ёсьць мноства станоўчых прыкладаў, якія даюць падставы для надзеі, што гэтае адчужэньне будзе пераадоленае. Вальтэру, напрыклад, давялося ня меней за шэсьць разоў уцякаць з роднае Францыі, дзеля таго каб у 84 гады вярнуцца канчаткова й з трыюмфам.

**«Яна ня можа сказаць НЕБА»**

**Другі міжнародны кірмаш сучаснага мастацтва ARTVILNIUS`11, ліпень 2011**
**Галерэя сучаснага мастацтва «У», жнівень 2011**

**Куратары: Валянціна Кісялёва, Аляксей Лунёў, Сяргей Шабохін**

**Удзельнікі: А.Р.Ч., Руслан Вашкевіч, Жана Гладко, Аляксей Губараў, Міхаіл Гулін, Уладзімер Лапо, Гаспар дэ Ло, Аляксей Лунёў, Тамара Сакалова, Ігар Саўчанка, Антаніна Слабодчыкава, Сяргей Шабохін**

1 З анатацыі да выставы «Яна ня можа сказаць НЕБА».

2 Верагодна, ня толькі выглядае гэткім чынам, але й зьяўляецца такім запаведнікам. Тых, хто ня згодны з дадзеным сьцьверджаньнем, адсылаю да фатаграфіяў з фэстывалю «Дажынкі-2011». Беларускія «вэнэры ў салямі» пэўна стаяць дзесьці ўбаку ад сусьветных культурных трэндаў.

3 Прыкладам пазытыўнага погляду на нашую інакшасьць зьяўляецца канцэпцыя Валянціна Акудовіча «Беларусь як постмадэрнісцкі праект».

4 З гэтым і іншымі падобнымі меркаваньнямі можна пазнаёміцца ў рэпартажы Эўрарадыё «Лепшую замежную выставу трэба спаліць. Ці адправіць у Вэнэцыю» (http://euroradio.fm/report/lepshuyu-zamezhnuyu-vystavu-treba-spalits-tsi-adpravits-u-venetsyyu-41659).

5 Можна ўзгадаць яшчэ адну нядаўнюю выставу «Opening the Door? Belarusian Art Today», якая атрымала выдатныя водгукі ў заходняй прэсе й процьму гнеўнае крытыкі ў нас.

# Swoje wśród obcych
# Obce wśród swoich

Wadzim Dabrawolski



Жана Гладко, «Прысутнасьць», 2011
Żanna Hładko, «Prysutnasć», 2011
+
Tonia Slabodchikova, 2011
Тоня Слабодчыкава, 2011

## ARTVILNIUS 11

*Projekt „Jana nie moża skazać NIEBA" („Ona nie może powiedzieć NIEBO") reprezentował galerię „Ŭ" na targach sztuki współczesnej ARTVILNIUS'11 (13–17 lipca 2011), gdzie został laureatem nominacji w kategorii „Najlepsza ekspozycja galerii zagranicznej". W dniu 28 lipca 2011 roku ekspozycja została zaprezentowana publiczności w Mińsku w galerii „Ŭ", wywołując gwałtowną reakcję. Co było przyczyną sukcesu i dlaczego właśnie ten projekt przyciągnął uwagę międzynarodowego środowiska artystycznego?*

Sukces projektu „Ona nie może powiedzieć NIEBO" na ARTVILNIUS'11 wydaje się całkiem uzasadniony. Projekt oprócz tego, że został laureatem, zwrócił także uwagę prezydenta Litwy. Kuratorzy – **Alaksiej Łuniou, Walancina Kisialowa i Siarhiej Szabochin** – przywieźli na targi sztuki kolekcję prac nie „na sprzedaż", lecz ekspozycję o wyraźnie określonej koncepcji, stawiając ją tym samym *a priori* na uboczu większości projektów pokazanych na ARTVILNIUS'11. Głównym tematem projektu kuratorzy uczynili wewnętrzny eskapizm malarza „w warunkach wrogiej okupacji «w Białorusi»"[1]. Grupa kuratorów zrewidowała w ramach rzeczywistości białoruskiej starą, lecz wciąż popularną w kołach akademickich tezę, mówiącą o tym, że „prawdziwy twórca" powinien dobrowolnie zamknąć się w wieży z kości słoniowej. Ich zdaniem na Białorusi odbywa się wcale niedobrowolne wygnanie artystów z życia społeczeństwa. „Strategie przeżycia twórczego" artystów będących w izolacji stały się właśnie obiektami wystawienniczymi.

W oczach jury koncepcja projektu wyglądała na stuprocentowo trafioną. Poruszając problematykę Białorusi (jest to wprost zadeklarowane w adnotacji), wystawa zyskała pewien specyficzny urok, ciekawy dla zagranicznego widza. Istota tego uroku kryje się w tym, że my (Białorusini) i nasz kraj (Białoruś) różnimy się od innych narodów i krajów. Z powodu pewnych okoliczności historycznych faktycznie jesteśmy inni. Wbrew powszechnej opinii zasadniczo różnimy się nawet od najbliższych przyjaciół-wrogów. Dlatego wszystko, co w ten lub inny sposób łączy się z Białorusią, poza jej granicami ma ten urok *inności* (przecież niebezpodstawnie w filmach hollywoodzkich ślicznotki zawsze zakochują się właśnie w *dziwnych* facetach). Nie podzielając sceptycyzmu w tej sprawie Maksima Żbankowa, nie mogę pominąć jego trafnej myśli o tym, że Białoruś dla obcokrajowców wygląda jak „zagadkowy rezerwat mutacji kulturowych"[2]. Pytania brzmią: Czy to źle i czy jednak jest dla nas pewna szansa historyczna? Na razie pozostają bez odpowiedzi[3].

Po triumfie na ARTVILNIUS'11 wystawa „Ona nie może powiedzieć NIEBO" została zaprezentowana w galerii „Ŭ". Reakcja mińskiej publiczności okazała się o wiele chłodniejsza, aż do uwag typu: „spalić ekspozycję i galerię"[4]. Taka sytuacja jest bardzo typowa dla mińskiego środowiska artystycznego. Zażarci krytycy wystawy walczą swoimi zwykłymi samonapędzającymi się argumentami typu: „jest to zła sztuka, ponieważ nie jest to sztuka" lub „jest to zła sztuka, ponieważ opowiada o złych rzeczach", przy czym „dobra sztuka" w ich rozumieniu w zadziwiający sposób pokrywa się z tym, co w zachodniej tradycji sztuki nazywają „designem" oraz „ilustracją". Ci krytycy czują się całkiem komfortowo w swej przedrefleksyjnej niechęci do sztuki niemieszczącej się w ustalonych przez nich kryteriach. Na przeciwległym biegunie opinii publicznej znalazła się grupa ludzi, którzy pośrednio lub bezpośrednio mają coś wspólnego z galerią „Ŭ" i tym projektem. Między tymi przeciwstawnymi podejściami znajduje się bezbrzeżne morze *Milczącej Białoruskiej Większości*, która milczy o wszystkim, w tym również o kwestiach sztuki.

Milcząca większość to właśnie ci sami *ONI* pojawiający się w jednej z ważniejszych prac wystawy – ***Praktyki padparadkawannia*** (*Praktyki podporządkowania się*) **Siarhieja Szabochina**. Hermetyczność pozycji eskapistycznej malarza wyraźnie objawia się poprzez demonizację wizerunku „ich" w tekstach towarzyszących. Na niedużych pod względem formatu czarno-białych zdjęciach pozostawia ślady „ich" obecności, utrwalone w codziennych sprawach: sowieckie gwiazdy, zamki do spichlerzy, puste uchwyty pod świąteczne czerwono-zielone flagi i inne. Poza zdjęciami i tekstami Szabochin wprowadza w przestrzeń ekspozycji także realne elementy białoruskiej rzeczywistości materialnej, pozostałej w spadku po przeszłości socjalistycznej – sterczące ze ścian rury, spęczniałe szwy, zapchane studzienki kanalizacyjne. Wydaje się to szczególnie udanym pomysłem.

Druga praca, która w sposób oczywisty obiektywizuje materialność i naszą historię, stanowiąca *ready-made*, to ***Suknia mamy*** **Alaksieja Łuniowa**. Jest to zwyczajny i typowy



Аляксей Лунёў, «Асабістыя абразы», 2011
Alexey Luniov, «Separate images», 2011

ARTVILNIUS 11

przedmiot, użytkowy i pozbawiony zwykłego fetyszyzmu towarowego (proszę sobie przypomnieć, jak kusząco wyglądają drogie telefony lub samochody), wyraźnie charakteryzuje swój czas. Dla nas, przyzwyczajonych do agresywnej seksualności w reklamie i obrazie wizualnym, zdaje się w zasadzie paradoksem jej brak w kobiecej sukience (przecież atrakcyjność seksualna jest jedynym możliwym modusem tej rzeczy). Uświadomienie tego pozwala zobaczyć w *ready-made* Łuniowa nie tylko jej materialność, lecz także stojące za nią idee epoki. Staje się to możliwe wyłącznie dzięki pracy kuratorów. To oni mogą przenieść eksponat z muzeum etnograficznego do muzeum sztuki współczesnej i pozwolić widzowi ideowo przemyśleć jego sens.

Ekspozycja całkiem naturalnie i logicznie przechodzi od rewizji kultury materialnej (prace Szabochina i Łuniowa) do jej przeciwieństwa – świadomości religijnej. W pracy ***Prysutnasć*** (*Obecność*) **Żanna Hładko** układa zdjęcia dewocjonaliów i symboli religijnych, wydrukowane na tkaninie, w wielowarstwową instalację, gdzie są one nakładane na siebie i pokrywają się, tworząc dziwaczne kombinacje. Zdjęcia w dolnej warstwie instalacji pozostają ukryte przed widzem, co nasuwa myśl o tym, że to właśnie one są najbardziej osobistymi obrazami świadomości religijnej malarki. „Obecność" można rozpatrywać jako metaforę świadomości religijnej w XXI stuleciu, która pozbyła się już dogmatyzmu obrazów religijnych. I dlatego możliwa stała się ich apropriacja artystyczna. Rozpatrując, zagłębiając się i przechodząc do dolnych warstw instalacji, widz odtwarza refleksję religijną malarki (przecież refleksja to właśnie *zagłębienie się w siebie* w pozytywnym sensie).

Do idei obrazów osobistych nawiązuje praca **Alaksieja Łuniowa** ***Asabistyja abrazy*** (*Obrazy osobiste*, przy czym „obrazy" mogą być traktowane dwuznacznie). Praca składa się z serii anonimowych zdjęć, wyrwanych z kontekstu gazetowego, będących dla malarza zarówno osobistą obrazą-zniewagą, jak i źródłem natchnienia. Innym źródłem natchnienia dla odizolowanego podmiotu jest on sam. W autoportretach Gaspara de Los i Alaksieja Hubarawa można prześledzić ten aspekt izolacji.

Dwie prace malarza **A.R.Cz.** oraz seria ***„Tekafragmy"*** **Uładzimira Łapo** reprezentowały wymiar marginalny eskapizmu. Uciekając, autorzy ci przekraczają niektóre akceptowane przez społeczeństwo granice (ang. *marginal* – graniczny) i trafiają do stref, gdzie nie stąpała jeszcze noga ani artysty, ani widza. Można mówić o tym, że sztuka marginalna zawsze jest radykalnie eskapistyczna, ponieważ jako jedyna faktycznie ucieka od rzeczywistości. Seria „Tekafragmy" Uładzimira Łapo to na przykład pośmiertne odlewy w brązie różnych owadów i jednego szczura. Podobną monumentalizację pospolitej i naturalnej śmierci można rozpatrywać jako idealną antytezę dla brązowych nieboszczyków na centralnych placach Mińska (nieboszczyków nie tylko w sensie dosłownym, lecz także ideowym i symbolicznym).

Mimo pozytywnego wrażenia, jakie wywiera projekt, jest w nim pewna „kalejdoskopowość". W związku z tym, że autorzy zadeklarowali naprawdę szeroką skalę różnych strategii artystycznych, trudno byłoby wniknąć w sens niektórych prac pod kątem tego, czy jest to „eskapizm autorski, czy przeżycia osobiste"? Można było odnieść wrażenie, że z takim samym sukcesem pracę tę można eksponować na dowolnej wystawie, z dowolną koncepcją, wypełniając nią przestrzeń ekspozycyjną. A to bardzo niebezpieczne dla odbioru sztuki współczesnej.

Reasumując, chcielibyśmy zauważyć, że „Ona nie może powiedzieć NIEBO" to naprawdę dobra wystawa sztuki współczesnej, z aktualną koncepcją, która została wyrażona nie tylko w adnotacji, lecz także językiem współczesnej sztuki. Niestety, większość białoruskich odbiorców wciąż oczekuje od ekspozycji ładnego widowiska, spektaklu, strzelaniny i pościgu. Właśnie dlatego nie potrafili się poddać urokowi tej wystawy. Sztuka współczesna na Białorusi wciąż pozostaje niezrozumiała, nieładna i spekulująca problemami politycznymi oraz społecznymi. I tu właśnie tkwi przyczyna paradoksalnej sytuacji, kiedy sztuka białoruska zyskuje uznanie za granicą, lecz nie w domu[5]. Między nią a białoruskim widzem wyrósł mur obcości. Na szczęście w historii jest mnóstwo pozytywnych przykładów świadczących o tym, że to wyobcowanie można zwalczyć. Wolter, na przykład, musiał przynajmniej sześciokrotnie uciekać z ojczystej Francji, aby w wieku 84 lat wrócić ostatecznie i triumfalnie.

1 Z adnotacji do wystawy „Ona nie może powiedzieć NIEBO".

2 Prawdopodobnie nie tylko „wygląda jak", lecz taka jest. Tych, którzy nie zgadzają się z tym twierdzeniem, odsyłam do zdjęć z festiwalu „Dożynki-2011". Białoruskie „Wenus w salami" wyraźnie tkwią gdzieś na uboczu światowych trendów kulturowych.

3 Прыкладам пазытыўнага погляду на нашую інакшасьць зьяўляецца канцэпцыя Валянціна Акудовіча «Беларусь як постмадэрнісцкі праект».

4 Z tymi i podobnymi opiniami można się zapoznać w Euroradio w reportażu Najlepszą zagraniczną wystawę należy spalić. Lub wysłać do Wenecji (http://euroradio.fm/report/lepshuyu-zamezhnuyu-vystavu-treba-spalits-tsi-adpravits-u-venetsyyu-41659).

5 Można wspomnieć inną niedawną wystawę „Opening the Door? Belarusian Art Today", która miała doskonałe recenzje w prasie zachodniej i druzgocącą krytykę u nas.

Пётар Касеўскі

# Палякі ў лягуне

Міжнародная біенале мастацтва ў Вэнэцыі становіцца — у тым ліку й дзякуючы традыцыйнаму ўжо фармату нацыянальных павільёнаў — спосабам распавесьці пра сябе, стварыць уласны імідж. Гэта працяг зьвязанай з Новым часам ідэі Сусьветных выставаў. Натуральна, сёньня ўжо складана марыць пра «стварэньне жывой карціны разьвіцьця чалавецтва», як з захапленьнем пісалі пра славутую выставу 1851 году ў Лёнданскім Крыштальным палацы. Аднак Біенале й надалей лічыцца адным з інструмэнтаў, якія выкарыстоўвае дзяржава. Гаворка ідзе пра культурную дыпляматыю з усімі ейнымі ўласьцівасьцямі.

Палітычнага й іміджавага вымярэньня Біенале нельга пераацаніць, калі разглядаць польскую прысутнасьць у Вэнэцыі ў апошнія гады (яе падрабязна апісала Яанна Сасноўска ў кнізе «Палякі на Біенале мастацтва ў Вэнэцыі, 1895–1999»). Гэта важная, хаця й не адзіная прычына таго, што палякі пачалі дамагацца самастойнай рэпрэзэнтацыі адразу пасьля набыцьця незалежнасьці ў 1919 годзе. Зрэшты, палякі бралі ўдзел у Біенале амаль ад самага пачатку. У першыя дзесяцігодзьдзі ейнага існаваньня свае працы яны паказвалі ў прадстаўніцтве краін-акупантаў, але вельмі хутка былі прыкладзеныя высілкі дзеля адасабленьня польскай прысутнасьці, бо ў гэтым убачылі шанец палітычнай рэпрэзэнтацыі ў сытуацыі адсутнасьці ўласнай дзяржавы.

З 1932 году Польшча мае ўласны павільён, у якім за выключэньнем часоў Другой сусьветнай вайны (і 1950 году, падчас апагею сталінізму) рэгулярна ладзіла выставы. 1990-я былі часам пераасэнсаваньня прысутнасьці ў Вэнэцыі. Адной з істотных праблемаў было вяртаньне пэўнасьці — асабліва пасьля 1980-х, калі камуністычныя ўлады разглядалі Біенале як элемэнт гульні зь незалежнай мастацкай супольнасьцю (удзельнічаць маглі толькі тыя, хто ня меў дачыненьня да байкатаваньня тагачаснай улады). Да гэтага вымярэньня — унутранага — дадаецца іншае, зьвязанае са спосабам пазначэньня прысутнасьці ўжо пасьля пераменаў 1989 году, або з новай формаю апавяданьня пра мастацтва ў Польшчы.

Асноўнае значэньне для падкрэсьліваньня польскай прысутнасьці на Біенале мелі прынятыя тады арганізацыйныя рашэньні: перадача галерэі «Захэнта» апекі над нацыянальным павільёнам і адначасова ўвядзеньне адкрытага конкурсу, вынікі якога зацьвярджае Міністэрства культуры. Гэта дапамагло пазбавіцца ад палітычных і партыйных повязяў. Ня меншае значэньне мелі рашэньні Анды Ротэнбэрг (куратаркі першых прэзэнтацыяў у польскім павільёне ў 1990-х), якія датычыліся формы польскай выставы. Яна вырашыла кожны раз прэзэнтаваць толькі аднаго творцу, што раней не было правілам. У 1993 годзе ейны выбар лёг на Міраслава Балку — усё больш заўважнага ў сьвеце маладога мастака, а ў 1995 годзе — на Рамана Апалку, які ўжо належаў да клясыкі польскага мастацтва другой паловы XX стагодзьдзя. Абодва выбары, раскрытыкаваныя ў Польшчы часткаю супольнасьці (асабліва вострая атака вялася ў выпадку Балкі), былі добра ацэненыя ў Вэнэцыі, а польскі павільён атрымаў міжнароднае прызнаньне. Пацьверджаньнем слушнасьці гэтых вырашэньняў быў выбар у 1999 годзе «Мужчынскай лазьні» Катажыны Казыры — мастачкі, якая дома выклікала моцныя спрэчкі. Польскі павільён — першы раз у ягонай гісторыі — атрымаў ганаровую адзнаку. Усё гэта вызначае рамкі (інстытуцыйныя etc.), у якіх праходзілі апошнія польскія прэзэнтацыі на Біенале.

**Рэпэтыцыя**

У 2005 годзе ў польскім павільёне паказалі фільм «Паўтарэньне» Артура Жміеўскага. Гэтае «паўтарэньне» нагадвала пра славуты экспэрымэнт Філіпа Зымбардо (Stanford Prison Experiment). Як і ў 1971 годзе, польскі мастак замкнуў групу мужчын у адмыслова абсталяванай «турме». Гэта было зроблена зь іхнай згоды (за ўдзел яны атрымлівалі заробак). Удзельнікі былі падзеленыя на дзьве групы: стражнікаў і вязьняў. Вязьні, забраныя з дому, апранутыя ў турэмныя камбінэзоны, трапілі ў камэры. Іншыя, стражнікі, атрымалі ўсе належныя прывілеі — ад формы да добрай ежы. І перадусім — атрымалі ўладу над вязьнямі. Над усім гэтым стаяў сам мастак, які ўзяў ролю дырэктара турмы. Усё адбывалася пры бесьперапынным кантролі камэраў (што нагадвала праграмы кшталту «Big Brother»).

Спачатку гэта нагадвала стэнфардзкі экспэрымэнт. Абедзьве групы хутка ўвайшлі ў прызначаныя ім ролі. Адны ўладарылі, другія падначальваліся. Стражнікі былі скрупулёзныя й фармалістычныя, а вязьні, у сваю чаргу, задзірыстыя, дэманстравалі сваю незадаволенасьць. Але ў гэтай сыстэме пачалі зьяўляцца трэшчыны. Удзельнікі, замест таго, каб падтрымліваць непазьбежную напружанасьць паміж вязьнямі й стражнікамі, пачалі шукаць спосаб фармаваньня ўзаемадачыненьняў, стварэньня правілаў супрацоўніцтва. Урэшце распачаўся бунт супраць сытуацыі, у якую яны трапілі, і супраць самога мастака. Як заўважыў потым Жміеўскі, «пачынаючы гэты экспэрымэнт, я думаў, што гэта будзе гісторыя толькі пра гвалт. Аднак высьветлілася, што ня менш уражвальнымі былі бесьперапынныя акты канфармізму». Аказалася, што ўдзельнікі спрабавалі захаваць сваю суб᾽ектыўнасьць.

Зымбардо, распачынаючы экспэрымэнт, выставіў тэзу пра радыкальную зьмену паводзінаў звычайных людзей у сытуацыі, калі яны робяцца ананімнымі й могуць абыходзіцца зь іншымі як з рэчамі. Ён паказаў, што ў пэўных умовах кожны можа ўвайсьці ў ролі катаў і ахвяраў, а адыгрываньне такіх роляў здольнае ўплываць на фармаваньне асобы. «Паталягічнасьць», падкрэсьліваў Зымбардо, можа стаць прыкметай кожнага (стэнфардзкі экспэрымэнт быў спынены праз шэсьць дзён з прычыны нарастаньня жорсткасьці «стражнікаў»).

У «Паўтарэньні» акцэнты значна ссунуліся ў параўнаньні зь першасным экспэрымэнтам. Аказалася, што праект польскага мастака датычыць ня толькі праблемы дэфініцыі чалавечых паводзінаў у акрэсьленых умовах, але й пытаньня ўлады. Тут зьяўляецца яшчэ адна рэч, якую часта згадваюць, крытыкуючы многія праекты Жміеўскага, — маніпуляваньне мастака, правакаваньне ім дзеяньняў, што дазваляюць яму атрымаць пэўныя веды пра паводзіны чалавека й характар улады.

Таму частка крытыкаў прызнала «Паўтарэньне» няўдалай працаю. Бо мастак жа ня здолеў паўтарыць экспэрымэнт Зымбардо, а сама канстатацыя, што чалавек па сваёй прыродзе ня злы, — досыць банальная выснова. Толькі зьвядзеньне «Паўтарэньня» да адзінага аспэкту было б вялікім спрашчэньнем. Больш цікавая хаця б заўвага Яанны Такарскай-Бакір, якая зьвярнула



1 Tokarska-Bakir J. O «Powtórzeniu» Artura Żmijewskiego: http://obieg.pl/teksty/5903.

2 Jeden do jednego. Rozmowa z Moniką Sosnowską i Sebastianem Cichockim o polskim pawilonie na 52. Biennale Sztuki w Wenecji [rozmawiał Krzysztof Pijarski]: http://www.obieg.pl/rozmowy/1442.

3 Zobaczyć siebie oczami innych. Z Krzysztofem Wodiczką rozmawia Bożena Czubak // Atlas Sztuki.#43.

4 Jarecka D. Sztuka wygrywania // Gazeta Wyborcza. 23.12.2010.

ўвагу менавіта на праблему ўлады. Фільм Жміеўскага, пісала яна, «паказвае сьвет, у якім аўтарытэты ўсё яшчэ існуюць, але яны максымальна аслабленыя»[1]. І дадае: думка пра тое, што «парадак прадукуе гвалт, завалодала намі, захопленыя ёю, мы забыліся, што яна зусім не адмяняе ранейшай, а менавіта той, што гвалт паўстае й зь бязладзьдзя, з занядбаньня парадку, з адсутнасьці ўлады».

Пытаньні пра характар улады тым больш істотныя, калі паглядзець на кантэкст, у якім было створанае «Паўтарэньне». Яно паўстала ў 2005 годзе. Гэта час ірацкай вайны, выкрыцьця здарэньняў у Абу-Грэйб, гарачых дэбатаў пра Гуантанама. Праца Жміеўскага ўпісваецца ў гэты кантэкст, а дадатковым элемэнтам было тое, — падкрэсьлівае Яанна Мыткоўска, тагачасны куратар павільёну, — што Філіп Зымбарда быў тады экспэртам абароны ў працэсах амэрыканскіх салдат, якія дапусьцілі зьдзекі ў дачыненьні да ірацкіх вязьняў.

### Будынак у будынку

Праз два гады польскі павільён запоўніла праца Монікі Сасноўскай. Паводле праекту мастачкі быў выкананы шкілет, які па форме нагадваў гандлёвыя ці прамысловыя будынкі 1960-х ці 1970-х. Толькі ён быў пазбаўлены амаль усяго: сьценаў, вокнаў, падлогі, — адзін каркас. Уся гэтая канструкцыя, аднак, не магла зьмясьціцца ў прасторы польскага павільёну. Трэба было яе дэфармаваць. Усё выглядала так, быццам было скамечана вялізнай сілай: сагнутая канструкцыя з павыгінанымі сталёвымі бэлькамі, лесьвіцы беглі ўва ўсе бакі, а балюстрады хваляваліся, як фіранкі на ветры.

Урэшце, усярэдзіне быў толькі аскепак будынку. Пры гэтым «1:1» Монікі Сасноўскай вельмі прадумана выкарыстоўваў наяўную прастору, пасаваў да канкрэтнай архітэктуры, якая паходзіла з 1930-х. Будынак аўтарства Брэна Дэль Гвідзічэ дамінуе, навязвае, прыгнятае, быццам хоча падкрэсьліць: я прадстаўляю ўладу (гэта добры прыклад афіцыйнай архітэктуры фашысцкай Італіі). Падчас папярэдняй Біенале Ганс Шабус (Hans Schabus) атачыў аўстрыйскі павільён, што стаяў непадалёк, новабудоўляй, якая быццам паглынула стары будынак. Мастак ня толькі хацеў схаваць мінуўшчыну павільёну, але і сьцерці ягоную фізычную форму. Сасноўская зрабіла інакш. Яна дазволіла архітэктуры павільёну дамінаваць. У даўнейшую прастору яна ўціснула сьляды пазьнейшага мастацтва, дэфармаваныя, абрэзаныя да вымярэньня, вызначанага афіцыйным нацыянальным павільёнам. «У гэтым праекце спаборнічалі ўтопіі розных эпох, прэзэнтаваныя двума рознымі архітэктурнымі стылямі»[2], — сказала мастачка ў размове з Кшыштафам Піярскім. Клясыцыстычны гмах, які паўстаў у фашысцкай Італіі, і позьні мадэрнізм часоў камуністычнай ПНР...

Зварот Сасноўскай да мадэрністычнай архітэктуры не выпадковы. У апошнія гады ўсё часьцей да яе зьвяртаюцца мастакі малодшага пакаленьня, вяртаючы з забыцьця ацалелыя будынкі або кансэрвуючы сьляды аб'ектаў, якія зьнішчылі на нашых вачах, як гэта сталася ў выпадку аднаго з найважнейшых твораў польскага мастацтва другой паловы XX стагодзьдзя — варшаўскага Супэрсаму, запраектаванага Ежы Грынявецкім з суполкай. «Усе дэбаты, якія вядуцца вакол разбурэньня або захаваньня паваенных будынкаў, іхнага прапагандысцкага значэньня, як у выпадку Палацу культуры й навукі (PKiN), аспэкту гуманізацыі шматпавярховых мікрараёнаў, і нават дыскусія вакол праекту Музэю сучаснага мастацтва (MSN) у Варшаве паходзяць ад экспэрымэнтаў з польскай мутацыяй мадэрністычнага сну», — сказаў Сэбастыян Ціхоцкі, куратар павільёну, у згаданай размове. Яны тычацца праблемы стаўленьня да мінуўшчыны, да часоў камунізму й ацэнкі той эпохі. Праект «1:1» Сасноўскай з гэтай пэрспэктывы стаўся голасам у дыскусіі пра польскую гістарычную памяць.

### Мы й яны

Іншую канцэпцыю польскага павільёну прапанавалі ў 2009 годзе. У цёмнай прасторы кідаліся ў вочы вялізныя вокны. У столі зьяўляўся ліхтар. Аднак усё гэта было ілюзіяй, створанай Кшыштафам Водзічкам. Ніхто, натуральна, не выбіваў дзірак у сьценах. За гэтымі ўдаванымі вокнамі зьяўляліся людзі. Выконвалі простыя штодзённыя справы, якія вызначалі іхны сацыяльны статус: мылі вокны, прыбіралі лісьце й сьмецьце, працавалі на будоўлі, даглядалі дзяцей. Гэта нелегальныя мігранты, з назвы працы — «Госьці». Яны распавядалі свае гісторыі. Там былі рабочы з Марока, Аліна з Украіны, Тон Ван Анг зь Віетнаму й шмат іншых. Працаўнікі ў Польшчы ці Італіі — іхныя гісторыі вельмі падобныя: цяжкасьці пераходу мяжы Эўразьвязу, эксплюатацыя працадаўцамі, стаўленьне паліцыі. Яны гавораць і пра звычайнае цяжкое жыцьцё ў чужой краіне, пра адарванасьць ад сям'і й сяброў.

Мастак шматкроць падкрэсьліваў, што ў сваёй працы хацеў дазволіць гэтым людзям публічна выступіць, жадаў даць ім голас у дэбатах, чаго — з прычыны свайго статусу — яны пазбаўленыя (гэтая тэма й надалей слаба прысутная ў грамадзкіх дыскусіях, у адрозьненьне ад Захаду, дзе праблема імігрантаў знаходзіцца ў самым цэнтры палемікі, але найчасьцей бязь іхнага ўдзелу). Яны маўчаць, у найлепшым выпадку ад іхнага імя гавораць іншыя. Аднак замглёныя шыбы нібы-вокнаў даюць нам магчымасьць бачыць толькі сьляды постацяў. Мы ня бачым твараў суразмоўцаў, іхных вачэй. Насамрэч мы іх зусім ня бачым. Застаемся ў аддаленьні. Мастак гэта ўсьведамляе й тлумачыць: я павінен быць ляяльны да сваіх суразмоўцаў, парушэньне іхнай ананімнасьці магло б стварыць ім праблемы, бо часта яны нелегальна знаходзяцца на тэрыторыі Эўразьвязу.

У «Гасьцях» вельмі рэзка праведзеная мяжа паміж «мы» й «яны». Тут няма ілюзіяў: мы толькі гледачы. Дадаткова гэты эфэкт узмацняецца эстэтычнай рафінаванасьцю працы Водзічкі. У зьвязку зь ёю можна прыгадаць іншую нядаўнюю працу — «Western Union: small boats» брытанскага мастака Айзэка Джульена (Isaac Julien), у якой ён паказаў нелегальных імігрантаў, што перапраўляюцца ў Эўропу на лодках. У ёй таксама дамінавалі прыгожыя кадры, а артыстычная вытанчанасьць была дадаткова падкрэсьленая зваротамі да мастацкіх і літаратурных традыцыяў, перадусім да «Гепарда» Джузэпэ Тамазі ды Лампэдуса (Giuseppe Tomasi di Lampedusa) і славутага кінафільму Лючына Вісконці (Luchino Visconti) паводле гэтага раману. Аднак гэтае аддаленьне гледача ад герояў твора Водзічкі не падкрэсьлівае дыстанцыі між «намі» й «імі». Можна сказаць, што яно хутчэй сьведчыць пра рэальны стан: імігранты нябачныя, бо мы ня хочам іх бачыць. Яны бываюць нам патрэбныя са шматлікіх прычынаў: эканамічных і нават палітычных, — але мы ня хочам іх запрашаць да размовы. На іншы аспэкт зьвяртае ўвагу сам мастак у інтэрвію, што ўзяла Бажэна Чубак, якая падрыхтавала паказ Водзічкі ў Вэнэцыі: «Брэхт перасьцерагаў нас ад эмацыйнай ідэнтыфікацыі, ад эмпатыі, важнейшыя адстароненасьць і нашае зьдзіўленьне ад пазнаваньня экзыстэнцыйных умоваў жыцьця чужых, што вядзе да разуменьня іхнай сытуацыі»[3]. Таму мастак спрабуе пазбавіць гледача ад пачуцьця фальшывай эмпатыі. Не дапускае, каб мы задаволіліся ўласным спачуваньнем, ілюзіяй простай далучанасьці. Але ці можа творца сёньня быць толькі назіральнікам або сьведкам? Не, хутчэй саўдзельнікам

Monika Sosnowska, «1:1», 2007
Моніка Сасноўска, «1:1», 2007

або тым, хто падзяляе віну. Таму ён ня можа заставацца па-за сытуацыяй, «дэлегаваць голас іншым», але і сам нясе адказнасьць за зло цяперашняга сьвету.

### ...і ўсе зьдзівяцца

Урэшце, польскі павільён у 2011 годзе. Тым разам туды трапіла Яэль Бартана (Yael Bartana). Дарота Ярэцка пісала пра гэтае рашэньне: «Тое пералом у нашай палітыцы мастацтва. Першы раз Польшчу на такой вялікай выставе прэзэнтуе мастачка з-за мяжы»[4]. Вядома, можна прыгадаць, што за два гады да таго ў нямецкім павільёне паказалі працу брытанскага мастака Лаяма Гіліка (Liama Gillicka), а ва ўкраінскім, апрача Ільлі Чычкіна, была японка Міхара Ясухіра (Mihara Yasuhiro), але ў традыцыі Біенале гэта хутчэй выключэньне, чым правіла. Нават краіны зь вельмі моцнай пазыцыяй у сьвеце мастацтва пры падборы творцаў хутчэй трымаюцца нацыянальных крытэраў.

Маладая ізраільская мастачка паказала кінатрылёгію «...і падзівіцца Эўропа». Дзеяньне першай часткі — «Мары кашмары» (2008) — адбываецца на варшаўскім Стадыёне Дзесяцігодзьдзя, дзе ў часы ПНР праходзілі важныя спартовыя імпрэзы, афіцыйныя ўрачыстасьці камуністычнай дзяржавы. Ад колішняй эфэктнай спаруды засталіся толькі руіны (цяпер і іх няма, а на тым месцы будуецца нацыянальны стадыён). Дзірван, трыбуны парасьлі бур'яном, толькі на «кароне» заўважныя сьляды жыцьця: там кіёскі гандляроў, парэштакі «Кірмашу Эўропа» — славутага торгу, які паўстаў на тэрыторыі стадыёну пасьля заняпаду камунізму.

На дзірван прыходзіць малады мужчына ў атачэньні моладзі. Гэта Славамір Серакоўскі, сустваральнік «Krytyki Politycznej», моцнага левага маладзёвага асяродку. Пачынае прамову. Запрашае 3 мільёны габрэяў, заклікае: «Вяртайцеся ў Польшчу, у вашую нашу краіну!» Гучаць словы пра дзірку ў сьвядомасьці, якая паўстала ў выніку зьнішчэньня польскіх габрэяў падчас Галакосту. Прамова вяртаецца да мінуўшчыны, але перадусім гаворыць пра будучыню: «Вярніцеся — і вы й мы ўрэшце перастанем быць выбранымі народамі. Абранымі для пакутаў, для прыманьня ранаў і нанясеньня ранаў. Вяртайцеся — і ўрэшце станем эўрапейцамі», — выгуквае Серакоўскі.

У другой частцы — «Мур і вежа» (2009) — маладыя людзі адраджаюць раён, пабудаваны некалі, пад канец 1930-х, габрэйскімі асаднікамі з Палестыны. Паставілі драўляную канструкцыю баракаў, вежы стражнікаў, паркан, які атачаў усю тэрыторыю. У фільме мы бачым маршы брыгад, супольную працу маладых людзей, адпачынак перасяленцаў. На варшаўскім Муранове, недалёка ад помніку Паўстанцам Героям гета, на месцы першага сутыкненьня з гітлераўцамі падчас паўстаньня 1943 году пабудавалі першы ў Эўропе кібуц.

Апошняя частка трылёгіі — «Замах» — мела прэм'еру ў Вэнэцыі. Фільм распавядае пра забойства правадыра, таго самага Славаміра Серакоўскага. Ён гіне ад рук невядомых. Мы не даведваемся, хто быў забойцам. Гэта мог быць польскі нацыяналіст, ізраільскі сіяніст, а можа, нейкі вар'ят. Бартана паказвае жалобныя ўрачыстасьці: працэсію, прамовы, труну зь целам забітага, перанос цела ў Залю Кангрэсаў, цырымонію на пляцы Пілсудзкага. Паўстае Рух габрэйскага адраджэньня ў Польшчы, мэтаю якога ёсьць вяртаньне габрэяў у краіну іхных продкаў. Сьмерць становіцца мітам, на якім закладаецца новая супольнасьць.

Можа ўзьнікнуць уражаньне, што мы глядзім на рэальныя падзеі, і адначасова ў цыклі ўвесь час зьяўляюцца звароты да даўняй стылістыкі, старых фільмаў з 1920–30-х гадоў. Увесь цыкль «...і падзівіцца Эўропа» глыбока ўгрунтаваны ў польска-габрэйскую мінуўшчыну. Ён закранае ня толькі праблему польскай і габрэйскай траўмы, але і шырэйшыя пытаньні: міты, зьвязаныя зь месцам, якое лічыш сваім, стварэньне супольнасьці й стасункі зь іншымі, з тымі, хто жыве побач, складаныя повязі паміж большасьцю й меншасьцю.

Ці можна гэтыя розныя прэзэнтацыі падвесьці да нейкага агульнага дзельніка? Гэта рызыкоўна, але ўсе яны закранаюць праблему палітычнасьці мастацтва (якая, аднак, не зьяўляецца адзіным вымярэньнем твораў). У выпадку кожнай вэнэцыянскай прэзэнтацыі гэта вельмі адрозная палітычнасьць, што ўзыходзіць да розных традыцыяў, а самі мастакі выбіраюць розныя стратэгіі: ад правакаваньня грамадзкіх акцыяў — у выпадку Яэль Бартаны, для якой чарговым крокам пасьля выставы ў Вэнэцыі будзе першы кангрэс Руху габрэйскага адраджэньня, што пройдзе падчас Бэрлінскай біенале ў 2012 годзе, — аж да працы Монікі Сасноўскай, якая прапануе гульню формаў зь візуальнага рэпэртуару мінуўшчыны, з поўным усьведамленьнем іхных грамадзкіх і палітычных суадносінаў.

У польскай культуры 1990-х вельмі важнай стала плынь мастацтва ангажаванага, якое не пазьбягае грамадзкай або палітычнай праблематыкі (яе доўга атаясамлівалі перадусім з крытычным мастацтвам). Аднак яна не адзіная. Бо раней у Вэнэцыю трапілі працы Станіслава Друждка, мастака, зьвязанага з рухам канкрэтнай паэзіі, або Лявон Тарасэвіч, які пастаянна распраўляецца з традыцыйным жывапісам. Пра іх таксама варта памятаць, разглядаючы польскую прысутнасьць на Біенале ў лягуне.



## Polacy na lagunie

Piotr Kosiewski



Międzynarodowe Biennale Sztuki w Wenecji staje się – także dzięki utrzymaniu historycznej już formuły pawilonów narodowych – sposobem opowiadania o sobie i tworzenia własnego wizerunku. Jest to kontynuacja wiążącej się z początkami nowoczesności idei Wystaw Światowych (z nich się przecież ono wywodzi). Oczywiście dziś trudno marzyć o tworzeniu żywego obrazu rozwoju ludzkości, jak z emfazą napisano o słynnej wystawie w 1851 roku w londyńskim Pałacu Kryształowym. Jednak Biennale nadal jest postrzegane jako jedno z narzędzi, którym dysponuje państwo. Chodzi o dyplomację kulturalną ze wszystkimi tego implikacjami.

Politycznego i wizerunkowego wymiaru Biennale nie należy bagatelizować, przyglądając się polskiej obecności w Wenecji w ostatnich latach (jej dzieje obszernie przedstawiła Joanna Sosnowska w książce Polacy na Biennale Sztuki w Wenecji 1895–1999). Był to ważny powód, chociaż nie jedyny, stojący za zabiegami o samodzielną reprezentację już po odzyskaniu przez Polskę niepodległości w 1919 roku. Polscy artyści uczestniczyli zresztą w Biennale niemal od samego początku. W pierwszych dekadach jego istnienia ich prace pokazywano w ramach prezentacji krajów zaborczych, ale bardzo szybko podjęto starania o wyodrębnienie polskiej obecności, widząc w tym szansę politycznej reprezentacji w sytuacji braku własnego państwa.

Od 1932 roku Polska ma własny pawilon, w którym z wyjątkiem okresu drugiej wojny (i 1950 roku, czyli apogeum stalinizmu) regularnie są przygotowywane wystawy. Lata dziewięćdziesiąte ubiegłego stulecia były okresem określenia na nowo obecności w Wenecji. Jednym z istotnych problemów było uzyskanie wiarygodności – zwłaszcza w okresie lat osiemdziesiątych, kiedy to Biennale było traktowane przez ówczesne władze komunistyczne jako element rozgrywki z niezależnymi środowiskami artystycznymi (na udział mogli liczyć tylko ci, którzy nie uczestniczyli w bojkocie ówczesnych władz). Do tego wymiaru – wewnętrznego – dochodził inny, związany ze znalezieniem sposobu zaznaczenia obecności już po przemianach 1989 roku, czyli nowego opowiedzenia o sztuce w Polsce.

Podstawowe znaczenia dla podkreślenia sposobu obecności Polski na Biennale miały podjęte wówczas decyzje organizacyjne: przekazanie sprawowania przez Galerię Sztuki Zachęta opieki nad narodowym pawilonem przy jednoczesnym wprowadzeniu obowiązku organizacji otwartego konkursu na prezentację (po czym dokonany wybór jest zatwierdzany przez Ministerstwo Kultury). Doprowadziło to do uniezależnienia się od politycznych i partyjnych uwikłań. Nie mniejsze znaczenie miały decyzje Andy Rottenberg, kurator pierwszych prezentacji w polskim pawilonie w latach dziewięćdziesiątych, dotyczące kształtu polskiej wystawy. Zdecydowała się ona na prezentowanie każdorazowo tylko jednego twórcy (co wcześniej nie było regułą), a jej wybór w 1993 roku padł na Mirosława Bałkę – coraz wyraźniej dostrzeganego na świecie młodego wówczas artystę, a następnie w 1995 roku na Romana Opałkę – należącego już do klasyki polskiej sztuki II połowy XX wieku. Oba wybory, krytykowane w Polsce przez część środowiska (szczególnie ostry atak był w przypadku Bałki), zostały dobrze ocenione w Wenecji, a polski pawilon uzyskał międzynarodowe uznanie. Potwierdzeniem tych wyborów było pokazanie w 1999 roku Łaźni męskiej Katarzyny Kozyry, artystki budzącej w kraju silne kontrowersje. Polski pawilon – po raz pierwszy w jego dziejach – otrzymał wyróżnienie honorowe. To wszystko wyznacza ramy (instytucjonalne etc.), w których odbywały się ostatnie polskie prezentacje na Biennale.

### Repetycja

W 2005 roku w pawilonie polskim pokazano film Powtórzenie Artura Żmijewskiego. Tytułowe „powtórzenie" nawiązywało do słynnego eksperymentu Philipa Zimbardo (Stanford Prison Experiment). Podobnie jak w 1971 roku polski artysta zamknął grupę kilkunastu mężczyzn w specjalnie zaaranżowanym „więzieniu". Stało się to za ich zgodą (za udział otrzymywali wynagrodzenie). Uczestnicy zostali podzieleni na dwie grupy: więźniów i strażników. Pierwsi, zabrani z domów, ubrani w więzienne kombinezony, trafili do cel. Drudzy, jako strażnicy, otrzymali wszystkie związane z tym przywileje – od mundurów po dobre jedzenie. I przede wszystkim dostali władzę nad osadzonymi. Nad całością czuwał sam artysta, który wszedł w rolę dyrektora więzienia. Wszystko to było pod stałą kontrolą kamer (co nasuwało podobieństwo z programami typu Big Brother).

Początkowo przypominało to stanfordzki eksperyment. Obie grupy szybko weszły w narzucone sobie role. Jedni sprawowali władzę, drudzy jej podlegali. Strażnicy byli skrupulatni i formalistyczni, więźniowie z kolei zadziorni, demonstrowali swoje niezadowolenie. Tylko że w tym układzie zaczęły się pojawiać „pęknięcia".

# Марта Рычкоўска
# Лякальныя калекцыі сучаснага мастацтва ў Польшчы



Dzięki uprzejmości Galerii «Arsenał»



У 2004 годзе польскае Міністэрства культуры стварыла праграму «Знакі часу». Ідэяй тагачаснага кіраўніка міністэрства Вальдэмара Дамброўскага было фармаваньне рэгіянальных калекцыяў, якія ў будучыні меліся стаць зародкам установаў, што займаліся б найноўшым мастацтвам. Калекцыі ствараліся лякальнымі Таварыствамі заахвочваньня мастацтва (Zachęty Sztuk Pięknych), якія знаходзяцца ў Аполі, Беластоку, Гданьску, Зялёнай Гуры, Катавіцах, Кельцах, Кракаве, Лодзі, Любліне, Ольштыне, Познані, Уроцлаве, Торуні, Чэнстахове й Шчэціне.

Стваральнікі праграмы «Знакі часу» абапіраліся на традыцыі Таварыстваў заахвочваньня мастацтва XIX ст. (адсюль скарочаная й гутарковая назва «Захэнта» (zachęta — заахвочваньне)). Ідэя фармаваньня рэгіянальных збораў мастацтва паўстала з францускага ўзору. У 1983 годзе тамтэйшае Міністэрства культуры й мастацтва стварыла 22 рэгіянальныя фонды сучаснага мастацтва (Fonds Regional d'Art Contemporain — FRAC). Іхнымі мэтамі былі заахвочваньне, падтрымка й прапаганда сучаснага мастацтва, а таксама збіраньне калекцыяў. Такім чынам яны цягам доўгіх гадоў стварылі ўласныя, часта вельмі цікавыя зборы, якія не замыкаліся ў сьценах установаў, а ўвесь час езьдзілі па сьвеце. Польская ідэя стварэньня рэгіянальных Захэнтаў зьвязвалася зь мясцовым кантэкстам. Як піша Паўліна Зарэмбска, «націск быў пастаўлены перадусім на пераадоленьне шматгадовага занядбаньня ў сфэры калекцыянаваньня сучаснага мастацтва. Прамоцыя мастацтва была таксама надзвычай патрэбная хаця б з прычыны недахопаў у інстытуцыянальнай базе, якіх не існавала ў Францыі. Стымулам да фармуляваньня праграмы «Знакі часу» былі й хібы ў візуальнай адукацыі, а таксама малая колькасьць галерэяў сучаснага мастацтва. Галоўную ідэю праграмы мы акрэсьлілі як «вяртаньне й аднаўленьне сучасных дачыненьняў *мастак — ягоны твор — грамадзянін*»[1]. Калекцыі, якія паўсталі ў выніку дзеяньня праграмы «Знакі часу», існуюць дагэтуль, нягледзячы на тое, што праграма ўжо не рэалізуецца. Кожная з калекцыяў мае ўласную спэцыфіку, залежную ад лякальнай палітыкі й разуменьня сваёй ролі ў фармаваньні мастацкага мэцэнацтву, у прапагандзе сучаснага польскага мастацтва. Прымаючца й рашэньні пра лякалізацыю будучых сядзібаў, спробы больш стабільнага засяленьня лякальных Захэнтаў. Сайт www.artkontakt.pl прэзэнтуе ўсе калекцыі ў лічбавым фармаце, дзякуючы чаму выразна выяўляюцца іхныя самабытнасьць і спэцыфіка.

Падляскае Таварыства заахвочваньня мастацтва ў Беластоку сабрала адну з самых зьменлівых калекцыяў, якая шпарка папаўняецца й зьяўляецца баромэтрам развіцьця актуальнага мастацтва. Пачатак калекцыянаваньня сучаснага мастацтва ў Беластоку зьвязаны зь Бюро мастацкіх выставаў, якое працавала ажно з 1965 году. Першая калекцыя была названая «Тры плыні. Рэалізм — Мэтафара — Геамэтрыя» (у яе зьбіраньні ўзяла ўдзел Бажэна Кавальска, дасьледчыца паваеннага мастацтва, аўтарка шматлікіх публікацыяў, спэцыялістка па геамэтрычнай абстракцыі). Пасьля зьмены палітычнага ладу дырэктаркай установы стала Моніка Шэўчык. Гэта быў пераломны момант для беластоцкіх збораў сучаснага мастацтва. З 1990 году Моніка Шэўчык стварае аўтарскую Калекцыю II галерэі «Арсэнал». Працы для калекцыі зьбіраліся нават тады, калі нацыянальныя музэі ў Польшчы занядбалі калекцыянаваньне й дакумэнтаваньне найноўшага мастацтва. На аснове Калекцыі II і паўстала Падляскае таварыства заахвочваньня мастацтва. Калекцыю II шматразова паказвалі на выставах у Польшчы (Нацыянальны музэй у Шчэціне, Дзяржаўная галерэя мастацтваў у Сопаце, галерэя «Хроніка» ў Бытаме), а таксама ў Страсбуры. У калекцыі знаходзяцца працы, істотныя для найноўшага польскага мастацтва — Кшыштафа Чарвінскага, Катажыны Казыры, Мікалая Смачыньскага, відэафільмы Юзэфа Рабакоўскага з памежжа 1980–90-х гадоў, праекты Дароты Нязнальскай, Зьбігнева Лібэры, Эльжбэты Яблоньскай, Конрада Кузышына. Падляскае таварыства заахвочваньня мастацтва, створанае ў 2004 годзе, у значнай ступені спрычынілася да ўзьнікненьня й далейшага развіцьця беластоцкай калекцыі. Сярод мастакоў падляскай Захэнты зьявіліся такія творцы, як Лаўра Павэла, Юліта Вуйцік, Моніка Сасноўска, Ян Сімон, Оскар Давіцкі, Ганна Мольска, Куба Банкоўскі, Мацей Курак, Малгажата Маркевіч, Робэрт Кусьміроўскі. Калекцыя, што знаходзіцца ў Падляскім таварыстве заахвочваньня мастацтва, адлюстроўвае мастацкія тэндэнцыі пасьля 2000 году, улучаючы працы творцаў маладога пакаленьня, дэбюты якіх прыпалі на канец 1990-х і пачатак XXI стагодзьдзя.

Паважную калекцыю найноўшага мастацтва сабрала й лодзінская Захэнта. Фармаваньне гэтай калекцыі зьвязанае з гістарычным і культурным кантэкстам Музэю мастацтваў у Лодзі. У міжваенныя гады Ўладзіслаў Стшэміньскі разам з групай «а.г.» падаў заяву пра стварэньне першай



Dzięki uprzejmości Galerii «Arsenał»



міжнароднай калекцыі сучаснага мастацтва ў аддзел культуры й асьветы гарадзкога магістрату Лодзі. Тады й была створаная Галерэя сучаснага мастацтва (у гарадзкім Музэі гісторыі мастацтва імя Юліяна й Казімера Барташэвічаў), якая лічыцца адной зь першых у сьвеце сталых музэйных экспазыцыяў мастацкага авангарду. Гэта быў пачатак зьбіраньня калекцыі лодзінскага музэю. У наступныя гады калекцыю ўзбагачалі новыя творы, у тым ліку й з калекцыяў Матэвуша Грабоўскага й Ёзэфа Бойса.

Своеасаблівасьць лодзінскай Захэнце надала выключнасьць калекцыі Музэю мастацтваў у сусьветным маштабе, а таксама той факт, што ў 1977 годзе тут паўстаў першы ў Польшчы аддзел фатаграфіі й новых мэдыяў. Мэтаю Захэнты ёсьць стварэньне дадатковай калекцыі, якая вяла б дыялёг з ужо наяўнай. Гэты дакладна сфармаваны кантэкст меў істотны ўплыў на падбор аўтараў, якія выкарыстоўвалі прасторавыя й гукавыя формы й магчымасьці лічбавых тэхналёгіяў. Зьбіраліся й творы, якія выразна апэлююць да месцаў і падзеяў, зьвязаных з Лодзьдзю. Лодзінскую калекцыю ствараюць працы, якія фармуюць канон польскага мастацтва на парозе XXI стагодзьдзя. Можна выразна прасачыць працэс адыходу ад выяўленчай і скульптурнай матэрыяльнасьці на карысьць эфэмэрыстычнай прыроды новых мэдыяў. Ён відавочны дзякуючы ўмеламу зьмешваньню твораў з памежжа клясычных тэхнік з памежжам фатаграфіі, інсталяцыі й відэа. Пра жыцьцяздольнасьць мастацтва сьведчыць непасрэднасьць ягонага ўзьдзеяньня, вынікам чаго зьяўляюцца нешматлікія невыяўленчыя творы, якія канцэнтруюцца на крытычнай рэвізіі сродкаў і дасьледаваньні іхнага дапасаваньня да сучаснасьці (Магдалена Москва, Томаш Цяцерскі, Рышард Васько). Мастакі ў сваіх працах ствараюць пэрцэпцыю розных узроўняў рэчаіснасьці, фармуючы спалучэньне паміж імі, закранаючы асаблівы від досьведу. Запіс такіх унікальных стасункаў паміж мастаком і атачэньнем паказалі Янна Райкоўска («Цяжарная нявеста, фантан і кастрычнік»), Агнешка Хайнацка (відэа «Кароткая гісторыя палёту»), Яцак Нягода (відэа «Пратэстоўнік»). Адным з матываў, відавочных у калекцыі, ёсьць дыялёг зь месцам і гісторыяй мастацтва, успрыманьне састарэлых сюжэтаў. Такім чынам, творцы пацьвярджаюць вартасьць мінуўшчыны й ейны ўплыў на сёньняшнія дасягненьні ў сфэры мастацтва. Гэтая тэма гучыць у творчасьці Лодзі Каліскай, Цэзарыя Бадзяноўскага, групы «Azorro».

Наступны кірунак мастацкіх пошукаў вызначае матыў, зьвязаны з маніфэставаньнем цялеснасьці, падарожжам да межаў цела й зь яго ўяўленьнем — ён зьяўляецца ў працах Зоф'і Кулік, Дамініка Леймана, Зьбігнева Лібэры, Ядвігі Савіцкай. Калекцыя Лодзінскага таварыства заахвочваньня мастацтва цяпер знаходзіцца ў дэпазыце Музэю мастацтва ў Лодзі.

Таварыства заахвочваньня сучаснага мастацтва ў Шчэціне, як пішацца на ягоным сайце, «зьвяртаецца да пераемнасьці й нязьменна істотных для стварэньня актуальнага пэйзажу польскага мастацтва фэномэнаў 1990-х, за зыходны пункт калекцыі Таварыства абрала 1989 год — момант палітычнай, гаспадарчай і сьветапогляднай зьмены, які зьмясьціў польскае мастацтва ў больш моцную й менш абмежаваную інтэракцыю з эўрапейскім мастацтвам, а таксама тэарэтычную рэфлексію, якая суправаджала гэтую інтэракцыю»[2]. Калекцыя канцэнтруецца вакол найбольш істотных зьяваў у польскім мастацтве, апэлюе да макрарэгіянальнай і эўрапейскай пэрспэктывы. Апісваючы сваю праграму, ейныя стваральнікі вылучаюць два асноўныя імпульсы, прысутныя ў мастацкай творчасьці: «патрэбу ачышчэньня мастацкага пасылу ад прасякнутага эмацыйнасьцю анэкдоту, а таксама патрэбу інтэнсыфікацыі ў сфэры мастацтва перажываньня экзыстэнцыйнай прыроды»[3]. У калекцыі шчэцінскай Захэнты знаходзяцца працы выбітных творцаў канону найноўшага мастацтва: Юзэфа Рабакоўскага, Эвы Партум, Наталі Лях-Ляховіч, Зыгмунта Рыткі, а таксама прадстаўнікоў новага пакаленьня Гжэгажа కламана, Лешка Кнафлеўскага, Зьбігнева Лібэры, Зузаны Янін, Ганны Баўмгарт, Богны Бурскай, Анэты Гжэшыкоўскай, Кубы Банкоўскага, Губэрта Чарапка й многіх іншых. Захэнта арганізуе цыклічны прагляд мастацтва маладых пад назваю «Скразьняк».

Умелае спалучэньне матываў, зьвязаных з адкрыцьцём лякальнасьці й акцэнтаваньнем унівэрсальных сэнсаў і тэндэнцыяў найноўшага мастацтва характарызуе й зборы люблінскай Захэнты. Гэтаксама, як лодзінская й шчэцінская, яна засяроджваецца на спалучэньні мясцовага й гістарычнага ў шырэйшым кантэксьце. Люблінская калекцыя абапіраецца на дзьве тэматычныя восі: «Першыя пакупкі вызначылі дзьве ключавыя пэрспэктывы, паводле якіх зьбіраюцца творы: адна — МАТЭРЫЯ (Ў) ПРАСТОРЫ — ахоплівае рэфлексію над анатоміяй

1 Zarębska P. Kolekcja Lubelskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych [w:] Siła Sztuki. Kolekcja Sztuki Współczesnej Lubelskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych [katalog wystawy]. Lubelskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych. Lublin, 2010. S. 33.
2 http://zachetaszczecin.art.pl/index.php?q=profil.
3 *Ibidem.*
4 http://www.zacheta.lublin.pl/IDEA_KOLEKCJI-1-30-5-60.html.
5 Lachowski M. Transgresje obrazu [w:] Siła Sztuki... S. 21.
6 http://www.zacheta.wroclaw.pl/kolekcja_o.html.

мастацкага вобразу, якая мае мадэрністычнае паходжаньне, над статусам вобразу, матэрыяй, яго прысутнасьцю ў прасторы; другая — МАСТАЦТВА ІДЭІ — ІДЭЯ МАСТАЦТВА — узыходзіць да традыцыі авангарду й зьвязанай зь ёю ідэяй «ангажаванага» мастацтва, рэалізаванага перадусім у паэтыцы канцэптуалізму»[4]. Дзьве гэтыя восі дазваляюць разьвіваць калекцыю ў розных кірунках. Гэта дапускае разнароднасьць мастацкіх прапановаў у сфэры сродкаў і пазыцыяў. Люблінская Захэнта пастулюе адсочваньне й апісаньне сучаснага мастацкага экспэрымэнту праз прызму мінуўшчыны й адначасна мінуўшчыны — праз прызму сучаснага экспэрымэнту, каб паказаць дынамічную прыроду мастацтва. Люблінская калекцыя мае адкрытую формулу, але прытым моцна ўгрунтаваную ў лякальны кантэкст. Ейны профіль ствараецца з улікам патэнцыялу як мясцовага, рэгіянальнага, так і польскага, і міжнароднага. Зыходнымі пунктамі для стварэньня калекцыі паслужылі дзейнасьць групы «Замак», а таксама плён люблінскіх галерэяў, у тым ліку «Белай», «Лябірынту» й BWA, «Конту», Цэнтру пэрформансу. Творам, які інаўгураваў люблінскую калекцыю, была «Белая карціна» Мікалая Смачыньскага. Праца гэтая стваралася ў 1996–2000 і 2004–2005 гадах. Яна сьведчыць пра шматгадовы творчы досьвед мастака, які быў адной з самых выбітных постацяў польскага мастацтва, зьвязаных зь Люблінам. Наступным мастаком, творы якога купілі ў люблінскую калекцыю, быў Уладзімеж Бароўскі (мастацкая кампазыцыя «Вока прарока» й «Адчувальнасьць да колеру. VIII Сынкрэтычны паказ»). У зборы трапілі таксама выяўленчыя працы Славаміра Марца, Лявона Тарасэвіча, Томаша Татарчыка, Станіслава Фіялкоўскага, канцэптуальныя творы Станіслава Дружджа, відэапраекцыі Дамініка Леймана, Юзафа Рабакоўскага, Элізы Гейлі, фатаграфія Дыэта Сэйлера, Наталі LL, аб’екты Міраслава Балкі, Тэрэсы Мурак, Ежы Бэрэся, Коі Камоі, Зьбігнева Варпэхоўскага, пэрформансы Евы Зажыцкай, Зыгмунта Пятроўскага, экспэрымэнты ў сфэры мовы й коду мастацтва Дарыюша Караля, Яраслава Казлоўскага. Марцін Лахоўскі, інтэрпрэтуючы форму люблінскай калекцыі, піша пра трансгрэсіі вобразу, упісаныя ў ейны характар: «Прынцыповыя пункты суадносінаў улучаюць авангардныя пошукі 1950-х, канцэптуальную традыцыю 1970-х, новыя сродкі й пэрформанс. Кожная з працаў калекцыі мае сваю асобную гісторыю, яе ствараў паасобны кантэкст, наноў інтэрпрэтавалі мінуўшчына й сучаснасьць, яна ставіла разнастайныя мастацкія пытаньні. Сабраныя ў калекцыі працы ствараюць чытэльную й разнастайную карціну пошукаў у XX і XXI стагодзьдзях у сфэры трансгрэсіі вобразу»[5]. Варта падкрэсьліць, што люблінская Захэнта мае ўласную галерэю (першапачаткова на вул. Рыбнай, 4, цяпер на Ліповай, 13) і ўвесь час пашырае калекцыю за кошт новых набыткаў. Адначасна яна вядзе адукацыйную дзейнасьць, ладзячы сэмінары й практыкумы. Люблінская калекцыя была найболыш поўна прэзэнтаваная ў 2010 годзе ў Львове падчас выставы «Моц мастацтва», якая адбылася ў тамтэйшым Палацы мастацтва (16 ліпеня — 15 жніўня 2010 году). Яе суправаджаў польска-ўкраінскі сымпозіюм, прысьвечаны стварэньню калекцыі сучаснага мастацтва, які закрануў мастацкія, фармальна-юрыдычныя й фінансавыя аспэкты.

Велікапольскае Таварыства заахвочваньня мастацтва адрозьніваецца ад астатніх: яно акцэнтуе тое, што закупленыя ім працы павінны экспанавацца ў публічнай прасторы. Калекцыя складаецца пераважна са скульптур і інсталяцыяў. Яны маюць на мэце надаваць гораду дадатковую прывабнасьць, прыцягваць турыстаў і знаўцаў у Познань, таму сьпісы твораў, якія маюць значэньне для сучаснага мастацтва, рыхтуюць супрацоўнікі Нацыянальнага музэю й дасьледчыкі. Першым посьпехам Велікапольскага таварыства заахвочваньня мастацтва было адкрыцьцё пастаяннай экспазыцыі Аліны Шапачнікавай у Познанскім нацыянальным музэі. Велікапольская Захэнта пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры выкупіла для Музэю карціну Анджэя Ўрублеўскага «Партызаны». Пад канец 2005 году таварыства набыло праект вядомага нямецкага творцы Хайнца Мака, які быў рэалізаваны ў 2006 годзе. 16-мэтровая скульптура-стэла згодна з пажаданьнем аўтара стаіць насупраць старога гмаху Нацыянальнага музэю. Яшчэ адна праца, купленая ў межах велікапольскай калекцыі й праекту «Познань — горад культураў», — гэта «Life is a story» Ізабэлы Густоўскай, разьмешчаная ў залі адлётаў аэрапорту «Лавіца». Паасобныя інсталяцыі ў публічнай прасторы, якія час ад часу ўзбагачаюць зборы велікапольскай Захэнты, паказваюць разнастайныя мастацкія стратэгіі ў дачыненьні з гарадзкім асяродзьдзем: эфэктныя аб’екты (Мацей Курак), экалягічныя праекты, якія зьліваюцца з атачэньнем (Ян Бэрдышак, Анджэй Банаховіч), пераасэнсаваная помнікавая скульптура (Сыльвэстар Амброзяк, Малгажата Капчыньска) і шмат іншых. Найноўшым набыткам Велікапольскай Захэнты ёсьць скульптура Давіда Чэрнага «Голем», усталяваная на Алеях Марцінкоўскага. Гэты праект аднаго з самых славутых чэскіх скульптараў, працы якога можна пабачыць у розных месцах Прагі, вельмі вылучае Познань. «Голем» уражвае вытанчанай мэтафорыкай — гэта ўнікальная праца ў параўнаньні зь іншымі творамі Чэрнага, выразнымі, часам скандальнымі.

Ніжняшлёнская (ніжнесылеская) Захэнта ва Ўроцлаве, апрача збору калекцыі, ставіць моцны акцэнт на стварэньне ў горадзе Цэнтру сучаснага мастацтва, які паўстае з мэтай збору, рэгістрацыі й паказу твораў, а таксама дзеля адукацыі й рэалізацыі дасьледчыцкіх праектаў у сфэры найноўшага мастацтва.

Калекцыя ўроцлаўскай Захэнты канцэнтруецца на выбраных мастацкіх зьявах, якія ствараюць падмурак арт-асяродзьдзя ў гэтым горадзе й адначасна характарызуюць новае мастацтва. Яна апелюе да «уласьцівай Уроцлаву традыцыі мастацкага пратэсту, у якую ўпісваюцца рух сэнсыбілістаў 1950-х гадоў, уроцлаўскі асяродак канцэптуальнага мастацтва 1960–1970-х, культурныя зьявы, зьвязаныя з вызваленчымі рухамі 1980-х і зьменамі пачатку 1990-х»[6]. У калекцыі ўроцлаўскай Захэнты знаходзяцца цікавыя й значныя відэапраекты Міраслава Балкі, Анджэя Дудка-Дзюрэра, Войцеха Гілевіча, Ганны Адад, групы «Галоўны судзьдзя», аб’екты групы «Люксус» (легендарнай уроцлаўскай трансавангарднай суполкі), выяўленчае мастацтва Басі Баньды, Дарыюша Караля, Анджэя Длужнеўскага, вялікамаштабныя інсталяцыі Томаша Даманьскага, Томаша Баера. Панарама розных выяўленчых сродкаў і падбор імёнаў паспрыялі стварэньню цікавай рэпрэзэнтатыўнай прызмы польскага мастацтва.

Іншыя таварыствы, якія зьбіраюць уласныя калекцыі найноўшага мастацтва, — гэта Паморская Захэнта ў Гданьску, рэгіянальнае таварыства заахвочваньня мастацтваў у Чэнстахове (якое засяроджваецца пераважна на жывапісе), Шлёнскае таварыства ў Катавіцах, Сьвентакшыская Захэнта ў Кельцах, Малапольская фундацыя «Музэй сучаснага мастацтва» ў Кракаве, Вармінска-Мазурскае таварыства заахвочваньня мастацтваў у Ольштыне, Апольская Захэнта, Любускае таварыства заахвочваньня мастацтва ў Зялёнай Гуры. Сем гадоў існаваньня мясцовых таварыстваў, якія калекцыянуюць сучаснае мастацтва, паказалі, як яны працуюць у сфэры польскай культурнай палітыкі й якія стратэгіі абіраюць. Кожнае зь іх мела на мэце стварэньне рэпрэзэнтатыўнай інтэрдысцыплінарнай калекцыі сучаснага мастацтва — і ў многіх выпадках гэтую задачу ўдалося рэалізаваць. Беластоцкая, люблінская, уроцлаўская, лодзінская, познанская, шчэцінская калекцыі вылучаюцца на фоне іншых багацьцем і разнастайнасьцю. Кожная з Захэнтаў спалучае лякальны кантэкст і ўсьведамленьне традыцыяў макрарэгіёну з больш шырокай, агульнапольскай і эўрапейскай пэрспэктывай. Праблема, якая паўстае падчас пашырэньня збораў, — гэта цэласнасьць, якая пры такіх крытэрах часта размываецца. Захэнты, здаецца, у гэтым выпадку абіраюць два шляхі — паказваюць мясцовую мастацкую традыцыю й знаходзяць для яе адэкватныя эквіваленты, а таксама адсочваюць тэндэнцыі ў польскім мастацтве апошніх гадоў. Калекцыі таксама адкрытыя для шырокага спэктру формаў і сродкаў, якімі карыстаюцца сучасныя мастакі.

Актуальнае мастацтва нязмушана пераадольвае межы суседніх сфэраў, абапіраючыся на гэтую разнастайнасьць. Захэнты ствараюць шматбаковую й шматаблічную праграму прамоцыі сучаснай культуры. Часта яны займаюцца адукацыйнай дзейнасьцю й імкнуцца абуджаць грамадзкую актыўнасьць на карысьць мастацтва. Дзякуючы сетцы рэгіянальных Захэнтаў зьбіраньне калекцыяў ажывілася, палепшылася цыркуляцыя найноўшага мастацтва ў польскай штодзённасьці.





Mack Ryazanov, project «Mixed-media at the Live-mode», 1995
Мак Разанаў, праект «Змешаная тэхніка ў побыце», 1995





# Lokalne kolekcje sztuki współczesnej w Polsce

Marta Ryczkowska





W 2004 roku polskie Ministerstwo Kultury utworzyło program „Znaki Czasu". Pomysł ówczesnego szefa tego resortu – Waldemara Dąbrowskiego – zakładał powstanie regionalnych kolekcji, mających w przyszłości stać się zalążkiem instytucji zajmujących się sztuką najnowszą. Kolekcje tworzyły lokalne stowarzyszenia Zachęty Sztuk Pięknych, które znajdują się w: Białymstoku, Częstochowie, Gdańsku, Katowicach, Kielcach, Krakowie, Lublinie, Łodzi, Olsztynie, Opolu, Poznaniu, Szczecinie, Toruniu, Wrocławiu i Zielonej Górze.

Tworząc program „Znaki Czasu", odwołano się do tradycji XIX-wiecznego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych (stąd potoczna i skrótowa nazwa: Zachęty). Pomysł tworzenia regionalnych zbiorów sztuki nawiązywał przede wszystkim do wzorców francuskich. W 1983 roku Ministerstwo Kultury i Sztuki utworzyło dwadzieścia dwa Regionalne Fundusze Sztuki Współczesnej (Fonds Regional d'Art Contemporain – FRAC). Ich celem było inspirowanie, wspieranie i promocja sztuki współczesnej oraz gromadzenie zbiorów. W ten sposób od lat z powodzeniem tworzą one własne, często bardzo interesujące kolekcje, które nie są zamknięte w murach instytucji, lecz stale podróżują. Polska idea tworzenia sieci regionalnych Zachęt wiązała się z lokalnym kontekstem. Jak pisze Paulina Zarębska: „Nacisk położono przede wszystkim na naprawę wieloletnich zaniedbań w zakresie kolekcjonowania sztuki współczesnej. Promocja sztuki była także niezwykle potrzebna ze względu na wyraźne braki chociażby w bazie instytucjonalnej, których nie było we Francji. Bodźce do sformułowania programu «Znaki Czasu» stanowiły również niedostatki w edukacji wizualnej oraz mała liczba galerii sztuki współczesnej. Główną ideę programu określano jako: «Przywrócenie i ożywienie relacji współczesny artysta – jego dzieło – obywatel»" . Kolekcje, które powstały w konsekwencji programu „Znaki Czasu", nadal istnieją, mimo że program nie jest już realizowany. Każda z nich ma swoją specyfikę, zależną od lokalnej polityki oraz postrzegania swojej roli w zakresie tworzenia mecenatu artystycznego i promowania polskiej sztuki współczesnej. Podejmowane są również decyzje odnośnie do lokalizacji przyszłych siedzib i próby bardziej sta-

bilnego osadzenia instytucjonalnego lokalnych Zachęt. Strona internetowa www.artkontakt.pl prezentuje wszystkie kolekcje w formie zdigitalizowanej, dzięki czemu wyraźnie zarysowuje się ich odrębność i specyfika każdej z osobna.

Podlaskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Białymstoku to jedna z najprężniej rozwijających się kolekcji, która stanowi barometr przemian sztuki aktualnej. Początki kolekcjonowania sztuki współczesnej w Białymstoku są związane z istniejącym od 1965 roku Biurem Wystaw Artystycznych. Pierwsza kolekcja została nazwana „Trzy nurty. Realizm – Metafora – Geometria" (w jej gromadzeniu miała udział Bożena Kowalska, badaczka sztuki powojennej, autorka licznych publikacji, specjalizująca się w abstrakcji geometrycznej). Po przemianach ustrojowych dyrektorką Galerii Arsenał została Monika Szewczyk. Był to moment przełomowy dla białostockich zbiorów sztuki współczesnej. Od 1990 roku tworzy ona autorską Kolekcję II Galerii Arsenał. Prace do kolekcji były pozyskiwane nawet w czasie, gdy muzea narodowe w Polsce zaniechały obowiązku kolekcjonowania – dokumentowania sztuki najnowszej. Na bazie Kolekcji II powstało Podlaskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych. Kolekcja II była wielokrotnie pokazywana na wystawach w Polsce (Muzeum Narodowe w Szczecinie, Państwowa Galeria Sztuki w Sopocie, Galeria „Kronika" w Bytomiu) oraz w Strasburgu. W kolekcji znajdują się prace istotne dla polskiej sztuki najnowszej – Krzysztof Czerwiński II Katarzyny Kozyry, Akcja równoległa i Biblioteka Mikołaja Smoczyńskiego, filmy wideo Józefa Robakowskiego z przełomu lat osiemdziesiątych i dziewięćdziesiątych, realizacje Doroty Nieznalskiej, Zbigniewa Libery Mistrzowie, Elżbiety Jabłońskiej, Konrada Kuzyszyna. Podlaskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych, utworzone w 2004 roku, przyczyniło się znacząco do uzupełnienia i dalszego rozbudowywania kolekcji białostockiej. Wśród artystów podlaskiej Zachęty pojawili się również tacy twórcy, jak: Laura Pawela, Julita Wójcik, Monika Sosnowska, Jan Simon, Oskar Dawicki, Anna Molska, Kuba Bąkowski, Maciej Kurak, Małgorzata Markiewicz, Robert Kuśmirowski. Kolekcja sztuki współczesnej, znajdująca się w Podlaskim Towarzystwie Zachęty Sztuk Pięknych, odzwierciedla tendencje w sztuce po 2000 roku, gromadząc prace artystów młodego pokolenia, których debiuty przypadły na koniec lat dziewięćdziesiątych i na początek XXI wieku.

Imponującą kolekcję dzieł sztuki najnowszej zgromadziła także łódzka Zachęta. Zbiory łódzkiej kolekcji Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych związane są z historycznym i artystycznym kontekstem Muzeum Sztuki w Łodzi. W latach międzywojennych Władysław Strzemiński wraz z grupą „a.r." postulował stworzenie w Polsce pierwszej międzynarodowej Kolekcji Sztuki Nowoczesnej. W 1931 roku przekazał w ramach depozytu kolekcję międzynarodowej sztuki nowoczesnej Wydziałowi Oświaty i Kultury Magistratu Miasta Łodzi. W tymże roku otwarto galerię sztuki nowoczesnej (w Miejskim Muzeum Historii i Sztuki im. Juliana i Kazimierza Bartoszewiczów), zaliczaną do pierwszych w świecie stałych muzealnych ekspozycji sztuki awangardowej. Był to początek gromadzenia zbiorów łódzkiego muzeum. W kolejnych latach kolekcja była sukcesywnie wzbogacana o nowe dzieła, m.in. ze zbiorów Mateusza Grabowskiego i Josepha Beuysa. Wyjątkowość kolekcji Muzeum Sztuki w skali światowej a także fakt, iż w 1977 roku powstał tu pierwszy w Polsce Dział Fotografii i Nowych Mediów nadały łódzkiej Zachęcie określony profil. Jej celem jest stworzenie równoległej, dopełniającej kolekcji, która nawiązałaby dialog z już istniejącą. Ten zdecydowanie określony kontekst miał istotny wpływ na wybór autorów i prac do kolekcji, wykorzystujących formy przestrzenne, dźwiękowe i możliwości technik cyfrowych. Pozyskano także prace, które w wyraźny sposób odwołują się do miejsc lub zdarzeń mających miejsce w Łodzi. Kolekcję łódzką budują dzieła, które tworzą kanon polskiej sztuki u progu XXI

1 Zarębska P. Kolekcja Lubelskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych [w:] Siła Sztuki. Kolekcja Sztuki Współczesnej Lubelskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych [katalog wystawy]. Lubelskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych. Lublin, 2010. S. 33.
2 http://zachetaszczecin.art.pl/index.php?q=profil.
3 *Ibidem.*
4 http://www.zacheta.lublin.pl/IDEA_KOLEKCJI-1-30-5-60.html.
5 Lachowski M. Transgresje obrazu [w:] Siła Sztuki... S. 21.
6 http://www.zacheta.wroclaw.pl/kolekcja_o.html.





wieku. Wyraźnie daje się zaobserwować proces odchodzenia od malarskiej i rzeźbiarskiej materialności na rzecz efemerycznej natury nowych mediów. Jest on widoczny dzięki umiejętnemu wymieszaniu dzieł z pogranicza klasycznych technik oraz z obszaru fotografii, instalacji i wideo. O żywotności malarstwa stanowi bezpośredniość jego oddziaływania, czego rezultatem są nieliczne realizacje okołomalarskie, które koncentrują się na krytycznej rewizji medium i badaniu jego przystawalności do czasów obecnych (Magdalena Moskwa, Tomasz Ciecierski, Ryszard Waśko). Artyści w swoich dziełach percypują na różnych poziomach rzeczywistości, tworząc połączenia między nimi, zaszczepiają w ten sposób szczególny rodzaj doświadczenia. Zapis takich unikalnych relacji pomiędzy artystą a otoczeniem pokazała Joanna Rajkowska (Ciężarna panna młoda, fontanna i zimny październik), Agnieszka Chojnacka (wideo Krótka historia lotu), Jacek Niegoda (wideo Kontestator). Jednym z wątków widocznych w kolekcji jest dialog z miejscem i historią sztuki, recepcja wątków, które przebrzmiały. W ten sposób artyści potwierdzają wartość przeszłości i jej wpływ na obecne dokonania w sferze sztuki. Ten temat pobrzmiewa w twórczości Łodzi Kaliskiej, Cezarego Bodzianowskiego, Grupy Azorro.

Kolejny kierunek artystycznych poszukiwań wyznacza wątek związany z manifestowaniem tożsamości, funkcjonowaniem cielesności, podróżą do granic ciała i jego przedstawień – pojawia się on w pracach Zofii Kulik, Dominika Lejmana, Zbigniewa Libery, Jadwigi Sawickiej. Kolekcja Łódzkiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych znajduje się obecnie w depozycie Muzeum Sztuki w Łodzi.

Stowarzyszenie Zachęty Sztuki Współczesnej w Szczecinie, jak informuje na swojej stronie internetowej, „odwołuje się do ciągłości i niezmiernie istotnych dla ukształtowania się aktualnego pejzażu sztuki polskiej fenomenów artystycznych lat dziewięćdziesiątych, za punkt wyjściowy kolekcji Stowarzyszenie przyjmuje rok 1989 – moment politycznej, gospodarczej i świadomościowej przemiany, który ulokował sztukę polską w kontekście silniejszych i mniej skrępowanych interakcji ze sztuką europejską i towarzyszącą jej refleksją teoretyczną” . Kolekcja skupia się wokół najbardziej istotnych zjawisk w sztuce polskiej – odwołuje się do perspektywy makroregionalnej i europejskiej. Opisując swój program, wyróżnia dwa podstawowe impulsy obecne w twórczości artystycznej: „potrzebę oczyszczenia komunikatu artystycznego z nacechowanej emocjonalnością anegdoty oraz potrzebę intensyfikacji w obrębie sztuki doświadczeń natury egzystencjalnej” . W kolekcji szczecińskiej Zachęty znajdują się dzieła wybitnych twórców kanonu sztuki najnowszej: Józefa Robakowskiego, Ewy Partum, Natalii Lach-Lachowicz, Zygmunta Rytki, oraz przedstawicieli młodszego pokolenia: Grzegorza Klamana, Leszka Knaflewskiego, Zbigniewa Libery, Zuzanny Janin, Anny Baumgart, Bogny Burskiej, Anety Grzeszykowskiej, Kuby Bąkowskiego, Huberta Czerepoka i wielu innych. Zachęta organizuje cykliczny przegląd sztuki młodych pod nazwą „Przeciąg".

Umiejętne łączenie wątków związanych z odkrywaniem lokalności i akcentowaniem uniwersalnych treści oraz tendencji sztuki najnowszej charakteryzuje również zbiory lubelskiej Zachęty. Podobnie jak łódzka i szczecińska skupia się ona na łączeniu działań związanych z miejscem i historią w szerszym kontekście. Lubelska kolekcja opiera się na dwóch osiach tematycznych: „Pierwsze zakupy wyznaczyły dwie kluczowe perspektywy, według których gromadzone są dzieła: jedna – MATERIA (W) PRZESTRZENI – obejmuje, mającą modernistyczny rodowód, refleksję nad autonomią obrazu malarskiego, jego statusem, materią, obecnością w przestrzeni; druga – SZTUKA IDEI – IDEE SZTUKI – nawiązuje do tradycji awangardy i związanej z nią idei sztuki «zaangażowanej», realizowanej głównie w poetyce konceptualizmu” . Dwie nakreślone wstępnie osie pozwalają na rozbudowę kolekcji w rozmaitych kierunkach. Nie determinuje ściśle kształtu całości i dopuszcza różnorodność propozycji artystycznych w zakresie mediów i postaw. Lubelska Zachęta postuluje śledzenie i punktowanie współczesnego eksperymentu artystycznego przez pryzmat przeszłości, a zarazem przeszłości przez pryzmat współczesnego eksperymentu, aby ukazać dynamiczną naturę sztuki. Lubelska kolekcja ma formułę otwartą, ale jest silnie zakorzeniona w lokalnym kontekście. Jej profil jest kształtowany z uwzględnieniem potencjału zarówno środowiskowego, regionalnego, jak i ogólnopolskiego i międzynarodowego. Punkt wyjścia do stworzenia kolekcji to działalność Grupy Zamek, a także dorobek lubelskich galerii, m.in. Białej, Labiryntu i BWA, Kont, Ośrodka Sztuki Performance. Dziełem, które zainaugurowało lubelską kolekcję, był Biały obraz Mikołaja Smoczyńskiego. Praca powstawała w latach 1996–2000 i 2004–2005. Jest świadectwem wieloletnich twórczych doświadczeń artysty, który był jedną z najwybitniejszych postaci polskiej sztuki ostatnich lat, związanym z Lublinem. Kolejnym artystą, którego dzieła zakupiono do lubelskiej kolekcji, był Włodzimierz Borowski (kompozycja malarska Oko proroka oraz Uczulanie na kolor. VIII Pokaz synkretyczny). W zbiorach znalazły się między innymi prace malarskie Sławomira Marca, Leona Tarasewicza, Tomasza Tatarczyka, Stanisława Fijałkowskiego, prace konceptualne Stanisława Dróżdża, projekcje wideo Dominika Lejmana, Józefa Robakowskiego, Elizy Galey, fotografie Dieta Saylera, Natalii LL, obiekty Mirosława Bałki, Teresy Murak, Jerzego Beresia, Koi Kamoi, Zbigniewa Warpechowskiego, performance'y Ewy Zarzyckiej, Zygmunta Piotrowskiego, poszukiwania w obrębie języka i kodu sztuki Dariusza Korola, Jarosława Kozłowskiego. Marcin Lachowski, interpretując kształt lubelskiej kolekcji, pisze o transgresjach obrazu, które są wpisane w jej charakter: „Zasadnicze obszary odniesień stanowią awangardowe poszukiwania malarskie lat 50., tradycja konceptualna lat 70., nowe media oraz sztuka performance. Każda z prac w kolekcji ma swoją odrębną historię, kształtował ją inny kontekst, na nowo interpretowała przeszłość i współczesność, stawiała odmienne artystyczne problemy. Zgromadzone w kolekcji prace tworzą czytelny i różnorodny obraz XX-wiecznych i XXI-wiecznych poszukiwań w obszarze transgresji obrazu" . Warto podkreślić, że Zachęta lubelska ma swoją galerię (pierwotnie ul. Rybna 4, obecnie Lipowa 13) i stale poszerza kolekcję o nowe nabytki. Prowadzi również działalność edukacyjną, organizując seminaria i warsztaty. Lubelska kolekcja została najpełniej zaprezentowana w 2010 roku we Lwowie podczas wystawy „Siła sztuki", która odbyła się w Lwowskim Pałacu Sztuki (16 lipca–15 sierpnia 2010). Towarzyszyło jej sympozjum polsko-ukraińskie poświęcone tworzeniu kolekcji sztuki współczesnej, odnoszące się do zagadnień artystycznych, formalnoprawnych i finansowych.

Wielkopolskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych wyróżnia się na tle pozostałych, kładąc nacisk na fakt, iż zakupione prace muszą być eksponowane w publicznym miejscu. Kolekcja składa się głównie z rzeźb i instalacji. Mają stanowić kolejną atrakcję, która będzie przyciągać turystów i znawców do Poznania, dlatego też listę prac, mających znaczenie dla dzisiejszej sztuki współczesnej, przygotowują pracownicy Muzeum Narodowego oraz badacze sztuki współczesnej. Pierwszym sukcesem Wielkopolskiego Towarzystwa Zachęty Sztuk Pięknych było otwarcie stałej ekspozycji dzieł Aliny Szapocznikow w poznańskim Muzeum Narodowym. Wielkopolska Zachęta, przy finansowym wsparciu Ministerstwa Kultury, wykupiła też dla Muzeum obraz Andrzeja Wróblewskiego Partyzanci. Pod koniec 2005 roku Towarzystwo zakupiło projekt znanego niemieckiego artysty Heinza Macka, który został zrealizowany w 2006 roku. Szesnastometrowa rzeźba – stela, zgodnie z wyborem twórcy, usytuowana jest naprzeciwko starego gmachu Muzeum Narodowego. Kolejną pracą zakupioną w ramach kolekcji wielkopolskiej oraz projektu Poznań Miasto Sztuki jest Life is a story Izabeli Gustowskiej, umieszczona w hali odlotów Portu Lotniczego Ławica. Poszczególne instalacje w przestrzeni publicznej, które cyklicznie zasilają zbiory wielkopolskiej Zachęty, pokazują rozmaite strategie artystyczne wobec przestrzeni miasta – spektakularne obiekty (Maciej Kurak), environmenty integrujące się z otoczeniem (Jan Berdyszak, Andrzej Banachowicz), przewartościowaną rzeźbę pomnikową (Sylwester Ambroziak, Małgorzata Kopczyńska) i wiele innych. Najnowszym nabytkiem wielkopolskiej Zachęty jest rzeźba Davida Černý'ego Golem, która stanęła w 2010 roku przy ruchliwych Alejach Marcinkowskiego. Realizacja najsłynniejszego czeskiego rzeźbiarza, którego prace można podziwiać w różnych miejscach publicznych w Pradze, stanowi dla Poznania duże wyróżnienie. Golem zaskakuje subtelną metaforyką – to unikalna praca na tle innych, wyrazistych i nieraz skandalizujących prac Černý'ego.

Dolnośląskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych we Wrocławiu oprócz gromadzenia kolekcji kładzie nacisk także na utworzenie we Wrocławiu instytucji kultury – Centrum Sztuki Współczesnej, powołanej w celu gromadzenia, ewidencjonowania i eksponowania dzieł sztuki, oraz na edukację i realizację projektów badawczych z obszaru sztuki najnowszej. Kolekcja wrocławskiej Zachęty koncentruje się na wybranych zjawiskach artystycznych konstytutywnych dla tradycji artystycznej środowiska wrocławskiego, a zarazem aktualizowanych w nowej sztuce. Wskazuje na „wyróżniającą Wrocław tradycję kontestacji instytucjonalnej i artystycznej, w którą wpisuje się ruch sensybilistów z lat 50., wrocławskie środowisko sztuki konceptualnej z lat 60. i 70. oraz zjawiska artystyczne związane z ruchami wolnościowymi lat 80. i przemianami początku lat 90." . W kolekcji wrocławskiej Zachęty znajdują się interesujące i istotne realizacje wideo Mirosława Bałki, Andrzeja Dudka-Dürera, Wojciecha Gilewicza, Hannah Adad, Grupy Sędzia Główny, obiekty Grupy Luxus (legendarnej wrocławskiej grupy transawangardowej), malarstwo Basi Bańdy, Dariusza Korola, Andrzeja Dłużniewskiego, wielkoskalowe instalacje Tomasza Domańskiego, Tomasza Bajera. Przekrój przez rozmaite media i trafny dobór nazwisk sprawia, że kolekcja stanowi ciekawą i reprezentatywną soczewkę dla polskiej sztuki.

Inne stowarzyszenia, gromadzące własne kolekcje sztuki najnowszej, to: Pomorskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Gdańsku, Regionalne Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Częstochowie (które skupia się głównie na malarstwie), Śląskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Katowicach, Świętokrzyskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Kielcach, Małopolska Fundacja Muzeum Sztuki Współczesnej w Krakowie, Warmińsko-Mazurskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych w Olsztynie, Opolskie Towarzystwo Zachęty Sztuk Pięknych, Lubuska Zachęta Sztuki Współczesnej w Zielonej Górze. Siedem lat istnienia lokalnych stowarzyszeń kolekcjonujących sztukę współczesną pokazało, w jaki sposób funkcjonują one w obrębie polskiej polityki kulturalnej i jakie przyjmują strategie. Każde z nich zakładało utworzenie reprezentatywnej interdyscyplinarnej kolekcji sztuki współczesnej – i w wielu przypadkach założenie to udało się zrealizować. Kolekcje białostocka, lubelska, wrocławska, łódzka, poznańska, szczecińska wyróżniają się na tle pozostałych bogatą, zróżnicowaną ofertą. Każda z nich łączy pierwiastek lokalny i świadomość własnych tradycji makroregionu z szerszą, ogólnopolską i europejską perspektywą. Problem, jaki pojawia się podczas poszerzania zbiorów, to spójność i jednolity charakter, który w obliczu takich kryteriów często ulega rozmyciu. Zachęty zdają się iść w tym przypadku dwutorowo – eksplorując lokalną tradycję artystyczną i znajdując dla niej adekwatne ekwiwalenty oraz śledząc tendencje w sztuce polskiej ostatnich lat. Kolekcje są również otwarte na szerokie spektrum gatunków i mediów, jakimi posługują się współcześni artyści. Aktualna sztuka nieskrępowanie przekracza granice sąsiednich dziedzin, opierając się na tej różnorodności. Zachęty tworzą wielostronny i wieloaspektowy program promocji współczesnej kultury. Często realizują także działalność edukacyjną i zmierzają do pobudzenia aktywności społecznej na rzecz sztuki. Dzięki sieci regionalnych Zachęt polskie kolekcjonerstwo ożywiło się i usprawniło cyrkulację sztuki najnowszej w polskim obiegu.

Тацяна Арцімовіч

# Антаніна Слабодчыкава: *эстэтыка па-за межамі эстэтычнага*













Tonia Slabodchikova, «Es ist da», 2010
Тоня Слабодчыкава, «Es ist da», 2010
+
Tonia Slabodchikova, «Plates», 2010
Тоня Слабодчыкава, «Талеркі», 2010

Шукаць прыгожае ў брыдкім, імкнуцца да прыгажосьці й адмаўляць яе, змагацца са страхамі, робячы іх тэмамі сваіх працаў, — творчасьць беларускай мастачкі Антаніны Слабодчыкавай такая ж супярэчлівая, як і ейны жыцьцёвы шлях.

Тоня не зьбіралася быць мастаком, але выпадкова скончыла Глебаўскую вучэльню. Вырашыла стаць графікам, таму што «не люблю алейныя фарбы», але паступіла на манумэнтальнае аддзяленьне Беларускай акадэміі мастацтваў. Потым раптам палюбіла акрыл, якім, выкарыстоўваючы малярскі валік, пачала размалёўваць велізарныя палотны. Выпадкова, у падарунак, зрабіла сваю першую кніжку ў тэхніцы каляжу, каб потым — таксама выпадкова — нажніцы, клей і папера сталіся для мастачкі асноўнымі працоўнымі прыладамі.

Тоня Слабодчыкава кажа пра імкненьне да чысьціні ў сваіх працах: «Ідэальная карціна для мяне — гэта максымальна ляканічны знак». Але ейныя працы, зачынаючыся як «знак», раптам абрастаюць пластамі фарбы, прадметамі, фактурамі. «Матэрыял вядзе мяне, — кажа Тоня. — Мне падабаецца спалучаць прадметы з розных кантэкстаў».

Ейныя акрылавыя палотны пабудаваныя на рэзкіх кантрастах яркіх, задзірлівых, кідкіх колераў: сіняга, жоўтага, чырвонага, зялёнага. Тоня сутыкае іх, напластоўваючы адзін на аднаго, затуляе іх абрыўкамі газэтаў і часопісных старонак, робіць надпісы й ставіць кляксы. Руйнуючы каноны прыгажосьці, сьмеючыся зь яе й абязьвечваючы яе, мастачка стварае сваю прыгажосьць, неабходную ёй для пераадоленьня «безгустоўшчыны» штодзённасьці. «Я магу вельмі прыгожа намаляваць. Але мне такой прыгажосьці ня хочацца. Мой крытэр прыгажосьці — гэта калі дзіўна, іранічна, неадназначна. Гэта, хутчэй, нэгатыў, хутчэй, не прыгожа. Я не люблю патас».

Ейныя «прынцэсы» не прапарцыйныя, не сэксуальныя, не разумныя. Агрэсіўныя й цынічныя, яны скрайне адкрытыя ў сваёй фізіялягічнасьці. Ейныя «прынцэсы» не замілоўваюць, але сьмяшаць і бавяць. І галоўнае — натуршчыцай для такога татальнага «высьмейваньня» становіцца не дзяўчына з глянцавай вокладкі ці экрану тэлевізару, а сама мастачка. Аб'ектам іроніі й увасабленьнем непрыгожасьці Тоня робіць найперш сябе. Можна сказаць — толькі сябе. Яна дасьледуе сваю злосьць, сваю фізіялёгію, сьмяецца з сваіх страхаў, пра якія адкрыта заяўляе як пра жаночыя. (Вось бачыць сябе дзяўчынка ў дзяцінстве Прынцэсай, а потым знаходзіць раптам мужа пад кустом, нараджае коўдру дзяцей, атрымлівае ордэн і памірае. Вось і казцы канец! «Мадонушка», адным словам.)

Тоня не баіцца таго, што яна жанчына. Стэрэатып пра кабету, якая ня можа быць мастачкай, ці крыўда на вызначэньне ейнай творчасьці як жаночай для Тоні ня ёсьць праблемаю. Яна кажа пра сваю жаночую эмацыйнасьць, пра тое, што як мастак не рэфлексуе з нагоды навакольных падзеяў. Таму ня лічыць сябе актуальным мастаком. «Тое, што я раблю, — гэта самаўсьведамленьне. Я мастак, які не ўзаемадзейнічае са сьветам літаральна. Я — жанчына й успрымаю ўсё найперш інтуітыўна, прапускаючы праз сваю нэрвовую сыстэму».

Працы Слабодчыкавай, як дзёньнікавыя запісы, распавядаюць пра ейныя дні, унутраныя перажываньні й вонкавыя падзеі жыцьця. Пэрыяд сталеньня й усьведамленьня сябе жанчынаю злучаны з увагай да свайго цела й падрабязным яго дасьледаваньнем. Стэрэатыпы функцыяў і прызначэньняў жанчыны ў грамадзтве — гаспадыня, палюбоўніца, маці — Тоня ў жорсткай форме інтэрпрэтуе, выкарыстоўваючы пазнавальныя знакі, якія непадрыхтаванага гледача часам могуць нават абурыць. Тут мастачцы як нельга лепш дапамагаюць глянцавыя часопісы, прыгажосьць якіх яна, па-новаму асэнсоўваючы, фрагмэнтуе й дамалёўвае.

Апафэозам выварочваньня жаночай сутнасьці стаўся аб'ект-пэрформанс «Выкрыцьцё жанчыны», створаны Слабодчыкавай сумесна з мастаком Міхаілам Гуліным. З пап'е-машэ яны склеілі грубы муляж жаночага цела, які на працягу акцыі «выкрывалі» і, суправаджаючы камэнтарамі, здабывалі зь «цела» ягонае зьмесьціва. «Зьместам» жанчыны займалася Тоня. І сапраўды, так груба адмаўляць і адначасова ўсхваляць жанчыну можа толькі жанчына. Постары зорак і мускулістых спартоўцаў, лялечкі й карункі, запісачкі, затушаная аб кавалак тлушчу цыгарэта, скрыль пячонкі ў рондалі, валасы й малаток, клізма, гумовыя пальчаткі — інтымны сьвет жанчыны падаецца бясконцым. Тоня ня ўтойвае таго, што ішла ад сябе й сваіх асабістых «таямніцаў», выкрыцьцё якіх патрэбнае перадусім ёй самой. «Я займаюся сабой і з самой сабой. Мастацтва для мяне — гэта спосаб стаць больш высакародная і пазбавіцца ад сваіх комплексаў».

Але працы Слабодчыкавай тым і дзіўныя, што, раздражняючы, забаўляючы, магчыма, спачатку зьдзіўляючы гледача, яны трапляюць у яго. Таму што гэта праўда — пра жанчыну, пра ейныя страхі й мары, жаданьні й учынкі, думкі й словы, якія ўвесь час супярэчаць адно аднаму, уступаюць у канфлікт, руйнуюць і ствараюць адначасова. Гэта жаночае мастацтва, найперш таму, што галоўныя ягоныя аб'ект і тэма — жанчына.

Але жанчына, як бы яна ні адлучала й ні зачыняла сябе ад зьнешняга асяродзьдзя, немагчымая безь яго. У працах Слабодчыкавай прысутнічаюць «іншыя»: мужчына як частка жаночай мары й рэальнасьці, дзіця як плён жанчыны й адначасова як яна сама, падзеі навакольнага сьвету, якія так ці інакш праточваюцца ў жаночую галаву і, праходзячы праз эмацыйную сфэру, выяўляюцца ў малюнках, знаках, словах.

Цацачныя салдацікі зь дзеткамі (аб'ект «Талеркі»), гумовае кола, што падмінае пад сябе плюшавыя цацкі й плястмасавых лялек (аб'ект «Кола»), мужчына й жанчына з пап'е-машэ (сумесная з Гуліным інсталяцыя «Бяз назвы») — гэта таксама страхі, але страхі, якія адлюстроўваюць тое, што адбываецца навокал, якія нараджаюцца ў выніку ўзаемадзеяньня з тымі «іншымі».

Аб'ект як форма мастацтва зьявіўся ў арсэнале Слабодчыкавай выпадкова. Яшчэ ў пэрыяд навучаньня ў Акадэміі мастачка стварыла аб'ект «Гербарый сьмерці» — схаваныя пад шкло, атачоныя з усіх бакоў штучнай травой пасмы валасоў (валасы як сакральны знак стануць потым адной з ключавых тэмаў у творчасьці Тоні). «Гербарый сьмерці» стаўся своеасаблівай кропкай адліку. Маленькая дзяўчынка памерла, а разам зь ёю сканалі ейныя дзіцячыя «сакрэцікі», якія зараз, зьмешчаныя пад шкло, могуць быць толькі аб'ектам памяці або спосабам пераадоленьня страху незваротнасьці часу.

Пасьля «Гербарыя сьмерці» прадмет у розных ягоных формах — папера, дробныя рэчы — увесь час зьяўляецца ў працах Слабодчыкавай. Паступова ён становіцца ўсё больш аб'ёмным і канкрэтным. «Мне важна, каб гэта можна было пакратаць», — гаворыць Тоня. Па-новаму мастачка ўбачыла прадмет, асабліва цацкі як прадметы, пасьля нараджэньня ейнай дачкі. У яе сталы сьвет ізноў увarваліся дзіцячыя «сакрэцікі» й лялечкі. Толькі зараз усё гэта ўспрымалася й асэнсоўвалася ўжо па-іншаму. Ня з гумарам ці іроніяй, але з адмысловым узрушэньнем і сумам. Надыйшоў пэрыяд «Чорных плямаў».

З тэмы сьмерці творчасьць мастачкі, у прынцыпе, і пачалася. Ужо ў «Гербарыі» яна, усьведамляючы гэта ці не, пачала ўмярцьвяць прадметы, зьмяшчаючы іх пад шкло. Далей Слабодчыкава «хуліганіла», дасьледуючы сябе й іншых праз акрыл і каляжы. У асобных працах — «Кола», «Талеркі» — узьнікае ўжо сталая інтанацыя мастачкі. І, нарэшце, тэма сьмерці становіцца цэнтральнай для маштабнага праекту Слабодчыкавай «Чорныя плямы».

Сьмерць для мастачкі — гэта «тое, чаго мы ня ведаем, напэўна, таму й баімся яе. Гэта вялікая таямніца, і яна мне цікавая». Сьмерць — ня толькі й ня гэтулькі як фізіялягічны працэс, але як пераход аднаго стану ў іншы, напрыклад, дзяўчынкі ў жанчыну, раставраэньне, зьнікненьне, страта памяці. Памяць у «Чорных плямах» — ключавая тэма: успаміны таксама ёсьць сьмерцю, яны складаюцца ў «гербарыі», ствараюць своеасаблівы натурморт, рэжуцца ў каляжы.

Адмысловае месца ў праекце займаюць штучныя кветкі. «Я іх не люблю, але яны нясуць нейкі дзіўны пасыл». Кветкамі запаўняюцца шкляныя скрыні й трохкутная адтуліна даху шафы, кветкамі Слабодчыкава «піша» сказ: «Гэта ёсьць тут» («Es ist da»). Гэтыя кветкі становяцца «букетам», якім мастачка каранue сьмерць. Тоня як быццам канчаткова развітваецца з істотнымі для яе тэмамі й страхамі.

Форма натурморту — мёртвых рэчаў — асноўная для гэтага праекту. На чорным тле мастачка складае, кампануе прадметы, выявы чалавека (выразка з часопісу ці маляваны партрэт), якія потым зьмяшчае ў раму з папяровых кветак. Так Слабодчыкава піша свае «Абраз», «Авэ Марыю», «Абсалютны сьвет». Гэта ейныя інтэрпрэтацыі сучаснай мадоны й касьмічнай пустэчы, якія, будучы мёртвымі ў рэальнасьці, ствараюцца мастачкай зь мёртвых фактураў — плоскіх, недарэчных, ляканічных. Яркія колеры, што трапляюць у палітру гэтых працаў, яшчэ больш адцяняюць пустэчу, ператвараючыся ў рэшце рэшт у «чорную пляму».

У выніку ў Слабодчыкавай атрымоўваецца прыйсьці да таго знаку, у форме якога яна заўсёды бачыла сваю ідэальную карціну. Гэта не выява сьмерці, але яе пазначэньне, знак ейнай прысутнасьці, баяцца якога ня тое каб бессэнсоўна... У прынцыпе, ня трэба баяцца. Таму што кананьне, прымаючы розныя формы й сэнсы, перасьледуе нас ад самага нараджэньня. Яно да канца неспасьцігальнае, яго часам цяжка прыняць і ўсьвядоміць. Але, прамоўленае, прагаворанае, яно раптам становіцца пацешным і сьмешным. Яно становіцца крыніцай жыцьця.

«Мастацтва дапамагае мне працаваць над сваімі страхамі. Калі я чагосьці баюся, пачынаю ўвесь час гэта паўтараць. Урэшце, прыручаю сябе не баяцца», — распавядае мастачка. Прызнаньне сваёй слабасьці ў выніку робіць Тоню моцнай, яно дапамагае ёй перамагаць. Гэтае прызнаньне, сіла, якую яно нараджае, і робіць Антаніну Слабодчыкаву ня проста актуальнай мастачкай. Ейныя адкрыцьці вучаць не баяцца глядзець усярэдзіну сябе, бачыць сябе й казаць пра тое, што ўбачыў. Казаць, каб перамагчы.



Tonia Slabodchikova, installation «No name», 2011
Тоня Слабодчыкава, інсталяцыя «Бяз назвы», 2011

# Вадзім Дабравольскі

# Мадэлюючы час. «Зааморфныя аб'екты» Аляксея Лунёва





**Тэкст-пераможца ў намінацыі «Лепшы артыкул пра твор беларускага мастака» праекту «На шляху да сучаснага музэю — 2011»**

*Праект «На шляху да сучаснага музэю — 2011» (кіраўнік — Ала Вайсбанд) арганізаваны нямецка-ўкраінска-беларускім таварыствам «Эўропа бязь межаў». Ён праходзіць у Беларусі зь 2009 году. У межах праекту акрамя конкурсаў куратараў (2009, 2010) і крытыкаў (2011) праводзяцца публічныя дыскусіі й круглыя сталы («Актуальнае беларускае мастацтва: погляд звонку й знутры», «Ці магчымае ў Беларусі сацыяльна арыентаванае мастацтва?» і інш.), адукацыйныя сэмінары й лекцыі. Арганізуюцца сустрэчы з знакавымі актуальнымі мастакамі. На сёньняшні дзень гэта адзіны ў Беларусі конкурс-праект, які дае маладым куратарам і крытыкам магчымасьць прафэсійнае рэалізацыі й далейшага творчага руху.*





Alexey Luniov, installation «Zoomorphic objects», 2009
Аляксей Лунёў, інсталяцыя «Зааморфныя аб'екты», 2009

Панятку «час» уласцівая ўнутраная амбівалентнасьць. З аднаго боку, час ажыцьцяўленьня фізычных працэсаў можа быць дакладна й адназначна зафіксаваны прыборамі. Ён праходзіць раўнамерна, лінейна зьвязваючы мінулае й будучыню праз імгненнае зараз. Зь іншага — індывідуальны досьвед часу сьведчыць пра тое, што ягоная плынь не аднародная. Ён можа запавольвацца, утвараючы тэмпаральныя лякуны, ці, наадварот, паскарацца, фармуючы імклівыя віры, у залежнасьці ад пэўных вонкавых умоваў і псыхалягічных станаў чалавека.

Такім чынам, катэгорыя часу відавочна распадаецца на два незалежныя складнікі: час фізычны й час, які перажывае індывід і які ня можа быць вымераны ў хвілінах і сэкундах, а фіксуецца ў нашых пэрсанальных адчуваньнях.

Для набыцьця досьведу падобнага кшталту неабавязкова паглыбляцца ў татальныя інсталяцыі, што ўзнаўляюць пэўны кантэкст, у межах якога было атрыманае аўтарскае адчуваньне (як, напрыклад, знакаміты «Чалавек, які вылецеў у космас з свае кватэры» Ільлі Кабакова). Цалкам дастаткова ўдалае мэтафары, што імпліцытна аднаўляла б істотныя рысы гэтага досьведу. Матэрыялізуючыся, такая мэтафара становіцца мадэльлю, якая невідавочна адсылае да свайго прататыпу. Падобнаю дакладна сканструяванаю мадэльлю індывідуальнага часу ёсьць інсталяцыя «Зааморфныя аб'екты» Аляксея Лунёва. Трапляючы ў яе, глядач атрымлівае магчымасьць набыць аўтарскі альбо падобны да гэтага досьвед часу.

***

Інсталяцыя Аляксея Лунёва складаецца з пасьлядоўнасьці зааморфных аб'ектаў — мультыпляў (ад анг. *multiple* — шматразовы, паўтаральны). Як і вынікае з назову, усе мультыплі паміж сабою ідэнтычныя. Аўтар выстаўляе іх у шарэнгу, раўнамерна разьмяшчаючы па ўсёй ейнай даўжыні. Яны выкананыя з пап'е-машэ, абгорнутыя тканінаю й нагадваюць схематычных антрапаморфных зайцоў.

Безумоўна, заяц як форма мультыпля ёсьць невыпадковым і шмат у чым архетыповым для Беларусі. Ён недвухсэнсоўна маркуе беларускі кантэкст і, такім чынам, кантэкстуалізуе інсталяцыю цалкам. Але моцны акцэнт на сымбалічным значэньні мультыплю залішні й шмат у чым дыскрэдытуе аўтарскую канцэпцыю, рэдукуючы яе да набору традыцыйных культурных сэнсаў і пошуку іх удалых камбінацыяў. Такі падыход істотна абмяжоўвае патэнцыял інсталяцыі Лунёва, радыкальна нівэлюючы ейны пачуцьцёвы аспэкт. Разам з сымбалічным зьместам «Зааморфных аб'ектаў» прынцыповым ёсьць іх візуальнае й пластычнае вырашэньне. Мультыплі ўяўляюць сабою хутчэй макет, накід пэўнае ідэі, прамежкавую мадэль, чымся завершаны аб'ект. Невыпадкова ў межах аўтарскае выставы «Мультыплікацыі» Аляксей Лунёў уключыў у экспазыцыю акрамя непасрэдна інсталяцыі красьлюнкі мультыпляў з інструкцыяю па іх стварэньні, якія яшчэ ў большай ступені ўпэўніваюць у тым, што гледачу прапануецца мадэль, а не эстэтычны арт-аб'ект. Антыдэкаратыўнасьць і ляканічнасьць пластычных формаў, лінейнасьць і рытмічнасьць арганізацыі прасторы не прадугледжваюць узьнікненьня актыўнага эстэтычнага водгуку ў гледачоў, але падкрэсьліваюць унутраную функцыянальнасьць інсталяцыі.

***

У аснове інсталяцыі Аляксея Лунёва ляжыць ідэя размнажэньня аб'ектаў, вядомая й распаўсюджаная арт-практыка, якая ўзбагачае прадмет дадатковымі сэнсамі. Аналізуючы фэномэн пасьлядоўнасьці, Жыль Дэлёз цытаваў тэзыс Юма: «Паўтарэньне нічога не зьмяняе ў паўтаральным аб'екце, але яно штосьці зьмяняе ў сьвядомасьці падчас яго сузіраньня». У выпадку інсталяцыі Аляксея Лунёва зьмена ў сьвядомасьці гледача адбываецца ў выніку таго, што сама пасьлядоўнасьць як спосаб арганізацыі элемэнтаў у прасторы аб'ектывізуецца. У прасторы інсталяцыі сымультанна існуюць два аб'екты: мультыпль і пасьлядоўнасьць мультыпляў, кожны зь якіх мае спэцыфічны пачуцьцёвы досьвед і сэнс. Іхнае спалучэньне ў межах інсталяцыі рэалізуе аўтарскую мадэль часу.

У анатацыі да выставы «Мультыплікацыі», у межах якой дэманстравалася інсталяцыя «Зааморфныя аб'екты», Аляксей Лунёў гаворыць пра тое, што фэномэн пасьлядоўнасьці для яго ідэнтычны працэсу перажываньня часу. Падобную ідэю выказвае й амэрыканскі арт-крытык Майкл Фрыд. Ён разглядае пасьлядоўнасьць як «натуральную мэтафару» нашага досьведу часу. Разьвіваючы гэтую ідэю, прыходзіш да таго, што ў пэўным сэнсе кожная матэрыяльная пасьлядоўнасьць аналягічная праміналиньню часу, таму што ўтрымлівае ў сабе ўнутраную імпліцытную тэмпаральнасьць. Ніводная дастаткова працяглая пасьлядоўнасьць ня можа быць схопленая гледачом у адзін момант, але раскрываецца для агляду паступова, элемэнт за элемэнтам. Пачуцьцёвы досьвед успрыманьня аказваецца разьмеркаваны ў часе, элемэнтарным адрэзкам якога становіцца працяглaсьць назіраньня адзінкавага аб'екту. А значыць, досьвед пасьлядоўнасьці набывае часавую каардынату. Пасьлядоўнасьць атрымлівае ў дадатак да трох прасторавых вымярэньняў відавочна адчувальнае часавае, якое залежыць ад уласьцівасьцяў як самой пасьлядоўнасьці, гэтак і ейнага элемэнтарнага аб'екту.

У гэтым кантэксьце мультыпль зьяўляецца атамарным элемэнтам, што вызначае структуру індывідуальнага часу. *Час зацьвердзявае ў выглядзе мультыпляў* (Марыс Бляншо). Іхная пасьлядоўнасьць — пачуцьцёва пазнавальная мадэль часу, але ня сам час, які па-ранейшаму застаецца нам не даступны. Характар пасьлядоўнасьці зааморфных аб'ектаў, ейныя дынаміка й рытм, а таксама сымбалічны сэнс адзінкавага мультыплю мадэлююць досьвед часу Аляксея Лунёва. Пры гэтым кожнаму гледачу прапануецца магчымасьць перажыць індывідуальны досьвед часу.

Невыпадковым у зьвязку з гэтым ёсьць і тое, што мультыплі зробленыя з газэтаў, абрыўкі якіх уважлівы глядач можа разабраць. Газэта як форма мас-мэдыя, якая прадугледжвае імгненную актуальнасьць і кароткатэрміновасьць, відавочна адсылае да тэмпаральнага вымярэньня паўсядзённасьці.

***

Калі пасьлядоўнасьць мультыпляў ёсьць мадэльлю досьведу часу, то ейныя асаблівасьці вызначаюць найбольш прынцыповыя рысы гэтага досьведу. Разгортваючыся ў прасторы, мультыплі ніяк не зьмяняюць ні адноснага разьмяшчэньня ў шыхце, ні сваёй формы. Перад гледачом ідэальна сталая пасьлядоўнасьць, якая хоць і абмежаваная фізычнымі памерамі інсталяцыі, аднак за кошт сталасьці й прадказальнасьці ўяўна працягвальная на бясконцасьць. Шарэнга мультыпляў не разьвіваецца, а пэрманэнтна самапаўтараецца. Час, што адпавядае падобнай пасьлядоўнасьці, таксама сталы. У такім часе не ўзьнікае разрыву паміж мінулым, цяперашнім і будучыняй празь іхную поўную ідэнтычнасьць. Маючы на ўвазе прыналежнасьць інсталяцыі да кантэксту Беларусі, можна дапусьціць, што ідэя падобнага часу мусіць быць пэўным чынам зафіксаваная ў дыскурсе, які нас акаляе.

*Гэтая ідэя* знаходзіць сваё адлюстраваньне ў канцэпцыі стабільнасьці — уладнае ідэалягічнае парадыгмы, якая лютуе ў Беларусі. *Гэтая ідэя* радыкальна адмаўляе прагрэс, але пасьпяхова аднаўляе сацыяльныя й палітычныя скамянеласьці мінулага тут і зараз. Такім чынам, час усярэдзіне беларускага кантэксту ня толькі запавольваецца й прыпыняецца, але рызыкуе зусім павярнуцца назад. Мінуўшчына страчвае сваю веліч, цяперашняе — накіраванасьць наперад, а будучыня — усялякую таямнічасьць, бо становіцца магчымаю толькі як «рэканструяванае мінулае» (Жак Рансьер). Індывід, які ня здольны супраціўляцца агрэсіі ўлады, становіцца падобны да мультыплю — стандартызаванай мадэлі, пастаўленай уладнаю рукой у шыхт. Шарэнга як спосаб арганізацыі пасьлядоўнасьці мультыпляў у інсталяцыі наўрад ці выпадковая — яна канатуе «нівэляваньне» й «падпарадкаваньне», уласьцівыя ўладнаму дыскурсу Беларусі.

***

Такім чынам, інсталяцыя Аляксея Лунёва дасягае максымальнае ступені кантэкстуалізацыі. Яна становіцца мадэльлю ня толькі часу, але й бацькоўскага кантэксту, аднаўляючы ў сабе ягоную сутнасьць і такім чынам урываючыся ў сфэру палітычнага. Але для мастака толькі такога, вузкага, асэнсаваньня мала. Ён ідзе далей і, мадэлюючы час у межах інсталяцыі, прапануе арыгінальны спосаб апасродкаваньня тэмпаральнае сутнасьці фэномэнаў навакольнае рэальнасьці ў мастацтве, адказваючы на актуальнае пытаньне сучаснасьці: «Што ёсьць часам тут і цяпер?»



Alexey Luniov, installation «Zoomorphic objects», 2009
Аляксей Лунёў, інсталяцыя «Зааморфныя аб'екты», 2009

*„Na drodze do współczesnego muzeum": tekst-zwycięzca w nominacji „Najlepszy artykuł o pracy białoruskiego malarza"*

*Projekt „Na drodze do współczesnego muzeum – 2011", zorganizowany przez niemiecko-ukraińsko-białoruskie stowarzyszenie „Europa bez Granic" (kierownik projektu to Ałła Weisband), jest realizowany na Białorusi od 2009 roku. W ramach projektu oprócz konkursów – kuratorów (lata 2009 i 2010) i krytyków (2011 rok)– odbywają się publiczne dyskusje i okrągłe stoły („Aktualna sztuka białoruska: spojrzenie zewnątrz i od wewnątrz", „Czy w Białorusi możliwa jest sztuka ukierunkowana socjalnie?" i inne), seminaria edukacyjne i wykłady. Organizowane są również, jak to było w tym roku, spotkania z wybitnymi białoruskimi współczesnymi malarzami. Obecnie jest to jedyny na Białorusi konkurs-projekt stale dający młodym kuratorom i krytykom możliwość realizacji zawodowej i odnoszenia dalszych sukcesów.*

# Modelując czas. *Obiekty zoomorficzne* Alaksieja Łuniowa

Wadzim Dabrawolski

*Tłumaczenie z rosyjskiego – Maryja Łucewicz-Napałkow*

Pojęcie „czasu" zawiera wewnętrzną ambiwalencję. Z jednej strony czas przebiegu procesów fizycznych może być dokładnie i jednoznacznie ustalony przez przyrządy. Płynie równomiernie, liniowo łącząc przeszłość i przyszłość przez chwilową teraźniejszość. Z drugiej strony doświadczenie indywidualne czasu świadczy o tym, że jego bieg nie jest równomierny. Może zwalniać, tworząc luki temporalne, lub odwrotnie – przyspieszać, tworząc rwące wiry, w zależności od warunków zewnętrznych i stanów psychologicznych człowieka.

Tak więc kategoria czasu w sposób oczywisty rozpada się na dwa niezależne składniki: czas fizyczny i czas przeżywany przez jednostkę. Ten ostatni nie może być mierzony w minutach i sekundach, jest on utrwalany w naszych indywidualnych odczuciach.

Aby zdobyć tego rodzaju doświadczenie, nie ma konieczności zagłębiania się w totalnych instalacjach, w szczegółach odtwarzających określony kontekst, w ramach którego autor zdobywał doświadczenie. (Jak na przykład słynna praca Człowiek, który odleciał w kosmos z własnego mieszkania Ilii Kabakowa). W zupełności wystarczy celna metafora, która by w sposób implicytny odtwarzała jego istotne cechy. Materializując się, taka metafora staje się modelem, który nie wprost odwołuje się do swojego prototypu. Podobnym, dokładnie skonstruowanym modelem czasu indywidualnego jest instalacja Obiekty zoomorficzne Alaksieja Łuniowa. Docierając do niej, widz uzyskuje możliwość odczuwania czasu – autorskiego lub podobnego do jego.

***

Instalacja Alaksieja Łuniowa składa się z wielu obiektów zoomorficznych – multipli (z ang. multiple – wielokrotny, powtarzalny). Jak wynika z nazwy, wszystkie multiple są identyczne. Autor ustawia je w szeregu, w którym są równomiernie rozłożone na całej jego długości. Są one wykonane z papier mâché, owinięte tkaniną i przypominają schematyczne, antropomorficzne zające.

Niewątpliwie „zając" jako postać-multipla nie jest przypadkowy i w wielu aspektach jest archetypowy dla Białorusi. Niedwuznacznie określa on specyficzny klimat białoruski i w ten sposób kontekstualizuje instalację jako całość. Jednak mocny akcent położony na symboliczne znaczenie multipli jest zbędny i w znacznej części dyskredytuje koncepcję autorską, sprowadzając ją do zestawu tradycyjnych sensów kulturowych i poszukiwania ich udanych kombinacji. Takie podejście istotnie ogranicza potencjał instalacji Łuniowa, radykalnie zmniejszając jej aspekt zmysłowy. Obok symbolicznej zawartości Obiektów zoomorficznych istotne jest jej wykonanie wizualne i plastyczne. Multiple to raczej makieta, szkic pewnej idei, model przejściowy niż obiekt skończony. Nieprzypadkowo w ramach wystawy autorskiej „Multyplikacje" Alaksiej Łuniow pokazał – poza samą instalacją – rysunki multipli z instrukcją ich tworzenia, które jeszcze bardziej przekonują o tym, że odbiorca widzi model, a nie estetyczny obiekt sztuki. Antydekoracyjność i lakoniczność form plastycznych, liniowość i rytmiczność organizacji przestrzeni wewnętrznej nie przewidują aktywnego odzewu estetycznego ze strony widza, lecz podkreślają funkcjonalność wewnętrzną instalacji.

***

U podstawy Obiektów zoomorficznych leży znany i powszechny w sztuce pomysł rozmnożenia obiektów, który wzbogaca powielany obiekt, nadając mu dodatkowy sens. Analizując fenomen sekwencji, Gilles Deleuze cytował tezę Hume'a: „Powtarzanie nic nie zmienia w powtarzanym obiekcie, lecz zmienia coś w kontemplującej go świadomości". W przypadku instalacji Alaksieja Łuniowa można mówić o tym, iż zmiany w świadomości widza zachodzą wskutek tego, że w przestrzeni obiektywizuje się sama sekwencja jako sposób organizacji elementów. W przestrzeni instalacji istnieją symultanicznie dwa obiekty – multiple i ich sekwencja, przy czym każdy z nich jest specyficznym doświadczenia zmysłowego i sensu. Ich połączenie w ramach instalacji realizuje model autorski czasu.

W adnotacji do wystawy „Multyplikacje", w ramach której przedstawiono instalację Obiekty zoomorficzne, Alaksiej Łuniow opowiada o tym, że fenomen sekwencji jest dla niego tożsamy z procesem przeżywania czasu. Podobną ideę głosi także amerykański krytyk sztuki Michael Frid. Rozpatruje sekwencję jako „naturalną metaforę" naszego doświadczania czasu. Rozwijając tę ideę, dochodzimy do tego, że w pewnym sensie każda sekwencja materialna jest analogiczna do biegu czasu dlatego właśnie, że zawiera wewnętrzną implicytną temporalność. Żadnej wystarczająco długiej sekwencji widz nie może objąć w jednej chwili, ukazuje się ona jego oczom kolejno, element po elemencie. Doświadczenie zmysłowe odbioru sekwencji, jak się okazuje, jest podzielone w czasie, którego elementarnym odcinkiem staje się czas trwania obserwacji danego obiektu. Wynika z tego, że doświadczenie sekwencji zyskuje współrzędną czasową. Sekwencja zawiera, jako uzupełnienie trzech wymiarów przestrzennych, wyraźnie odczuwalny wymiar czasowy, zależny zarówno od właściwości samej sekwencji, jak i jej obiektu elementarnego.

W tym kontekście pojedyncze multiple są elementem atomowym, określającym strukturę doświadczenia czasu indywidualnego. Czas utwardza się w postaci multipli (Maurice Blanchot). Ich sekwencja to zmysłowo-poznawczy model czasu, lecz nie sam czas, który nadal pozostaje dla nas niedostępny. Charakter sekwencji obiektów zoomorficznych, jej dynamika i rytm oraz sens symboliczny pojedynczego multipla modelują doświadczenie czasu Alaksieja Łuniowa. Przy tym każdy widz ma możliwość indywidualnego przeżywania czasu.

W związku z tym nieprzypadkowy zdaje się fakt, że multiple wykonano z gazet, których strzępom może się przyjrzeć uważny widz. Gazeta jako forma mediów, zakładająca chwilową aktualność i krótkotrwałość, w sposób oczywisty odsyła do temporalnego wymiaru codzienności.

***

Jeśli sekwencja multipli jest modelem doświadczenia czasu, jej szczegóły określają najbardziej zasadnicze cechy tego doświadczenia. Rozwijając się w przestrzeni, multiple w żaden sposób nie zmieniają ani swojej relatywnej pozycji w szeregu, ani swojej postaci. Przed widzem znajduje się idealnie stała sekwencja, która wprawdzie jest ograniczona wymiarami fizycznymi instalacji, jednak dzięki stałości i przewidywalności może być rozciągnięta w myśli do nieskończoności. Szereg multipli nie rozwija się, lecz stale się powtarza. Czas odpowiadający tego typu sekwencji także jest stały. W tym czasie nie powstaje wyrwa pomiędzy przeszłością, teraźniejszością a przyszłością, ponieważ są one absolutnie identyczne. Mając na uwadze powiązanie instalacji z kontekstem białoruskim, można założyć, że idea tego typu czasu powinna być w pewien sposób utrwalona w otaczającym nas dyskursie.

Ona znajduje odzwierciedlenie w koncepcji s t a b i l n o ś c i – ideologicznym paradygmacie władzy, szalejącym na Białorusi. Ona radykalnie odrzuca postęp, lecz z powodzeniem tu i teraz odtwarza społeczne i polityczne skamieliny przeszłości. Zatem czas wewnątrz kontekstu białoruskiego nie tylko zwalnia i zatrzymuje się, lecz ryzykuje całkowity powrót. Przeszłość traci swą wielkość, teraźniejszość – dążenie do przodu, a przyszłość – wszelką tajemniczość, ponieważ staje się możliwa wyłącznie jako „rekonstruowana przeszłość" (Jacques Rancière). Jednostka, która nie jest w stanie sprzeciwić się agresji władzy, upodabnia się do multipli – wypośrodkowanego modelu, ustawionego władczą ręką w szeregu. Szereg jako sposób organizacji sekwencji multipli w instalacji nie jest chyba przypadkowy, przecież jego konotacje to „pozbawienie indywidualności" i „podporządkowanie" właściwe dyskursowi władczemu Białorusi.

***

Tak więc instalacja Alaksieja Łuniowa osiąga maksymalny stopień kontekstualizacji. Staje się modelem nie tylko czasu, lecz także kontekstu rodzicielskiego, odtwarzając w sobie jego istotę, i tak wdziera się w strefę polityczną. Ale artyście nie wystarcza jedynie taka wąska interpretacja. Idzie dalej i, modelując czas w ramach instalacji, proponuje oryginalny sposób odczytywania istoty temporalnej fenomenów otaczającej rzeczywistości w sztuce, odpowiadając na aktualne pytanie: Czym jest „czas" tu i teraz?

pARTisan An Actual 18



Fragment zniszczonej wystawy Piotra Uklańskiego w Narodowej Galerii Sztuki Zachęta w Warszawie, 1999 ,
dzięki uprzejmości Działu Dokumentacji Narodowej Galerii Sztuki Zachęta w Warszawie.
Фрагмэнт зьнішчанай выставы Пятра Укляньскага ў галерэі «Захэнта», Варшава, 1999

# Адам Мазур
# Новыя зьявы ў польскай фатаграфіі пасьля 2000 году



Łukasz Trzciński, z cyklu «Nowa Europa» (Mołdawia), 2009–2010
Лукаш Тжціньскі, з цыклю «Новая Эўропа» (Малдова), 2009–2010

Здаецца, ключавым трэндам у сфэры фатаграфіі ёсьць вяртаньне фотадакумэнталістыкі пасьля дзесяцігодзьдзя сымбалічнага панаваньня мастацкай фатаграфіі й ейнай маруднай агоніі ў 1990-х. Разьвіцьцё дакумэнту ў Польшчы пэрыяду трансфармацыі — гэта й зьяўленьне групаў мастакоў (напрыклад, «Еленягурска школа», «Лятарнік»), і станаўленьне творчых індывідуальнасьцяў, зацікаўленых у раскрыцьці вобразу рэчаіснасьці, адрознага ад таго, які пануе ў камэрцыялізаванай поп-культуры. Гэты дакумэнтальны рух паходзіць ад г. зв. «элемэнтарнай фатаграфіі» 1980-х, якая вызначалася спробамі заняць унутраную пазыцыю, што дыстанцыявалася ад галоўнай плыні культуры. Варта зьвярнуць увагу на наяўнасьць падобнай фатаграфіі на істотнай з пэрспэктывы часу выставе «Вакол дэкады», дзе экспанаваліся «мастацкія дакумэнты» пакаленьня «старых дакумэнталістаў» Эвы Анджэеўскай, Ганны Бэаты Багдзевіч, Анджэя Я. Леха, Войцеха Завадзкага. Гэтая экспазыцыя выстаўлялася ў найважнейшых мастацкіх установах.

У Польшчы на пачатку мілеініюму мела месца своеасаблівая імплозія фармалістычных экспэрымэнтаў з памежжа дакумэнту, і гэты каляпс падрыхтаваў глебу для надыходу новага. Розьніцу паміж здымкамі, паказанымі на «Вакол дэкады», і зьяваю, што атрымала назву «новага дакумэнту», складае адчужэньне «старых дакумэнталістаў» ад грамадзтва й ягоных кіраўнічых мэханізмаў, тыповае для мастацкага тыпу фатографаў. Такі падыход да рэчаіснасьці адкінулі творцы, якія дасьпявалі ўжо ў новай мэдыйнай, насычанай вобразамі візуальнай культуры 1990-х. У новым дакумэнце не ідзе гаворка пра стварэньне альтэрнатыўных асобных прастораў. У адрозьненьне ад піктарыяльнай плыні, у якой дамінавала чыста фармальнае, заснаванае на імпрэсіі эстэтычнае перажываньне, новыя дакумэнталісты намагаюцца паказаць і прааналізаваць рэчаіснасьць і спосабы яе ўспрыняцьця. У новым дакумэнце, апрача яго повязяў з рэпартажам (Рафал Міляx, Ганна Бэдыньска), які адыходзіць на другі плян, істотным зьяўляецца аналітычны аспэкт дзейнасьці мастака. Аднак варта заўважыць, што пазыцыя новых дакумэнталістаў далёкая ад адназначнасьці. Эфэкты іхнай працы можна ўспрымаць як падрыхтаваныя да продажу прадукты, што кіруюцца правілам спэктаклю й гатовыя разнастаіць мэдыйныя шпалеры. Гэтую няпэўнасьць паглыбляе й удзел большасьці маладых людзей у рынку камэрцыйных мэдыяў, які забясьпечвае іх утрыманьне (Zorka Project, Зуза Краеўска й Бартэк Вячорэк, Ігар Амулецкі). Аднак калі пагадзіцца, што нельга звонку крытыкаваць сыстэму, заснаваную на спэктаклі, то ў новых дакумэнталістах можна ўбачыць і агентаў пераменаў, якія, па-першае, згараюць у штодзённых змаганьнях з функцыянэрамі гэтай самай сыстэмы, а па-другое, уздымаюць сваёй творчасьцю праблемы рэчаіснасьці й спэктаклю сьвету мастацтва, які ўтварае сабою субполе. У гэтым сэнсе патэнцыял дакумэнтальнага запісу не абмяжоўваецца бачаньнем і разуменьнем, але і — праз аналіз спосабаў пэрцэпцыі — рыхтуе гледача да перагляду статус-кво. Пры гэтым зьмены магчымыя толькі з дапамогаю мэдыяў. Гранічная пазыцыя новага дакумэнта стварае няпэўнасьць, прыцягвае ўвагу й можа прыводзіць да трансгрэсіі. У апошнія гады значныя посьпехі дэманстравалі мастакі, якія належаць да плыні новага дакумэнту, такія як Конрад Пустола, Нікаля Гросп’ер, Войцех Вільчык, Рафал Міляx (разам з калектывам «Sputnik Photos»), Анджэй Крамаж і Вэроніка Ладзіньска (і разам зь імі фатографы з суполкі «Vis-A-Vis»), Філіп Цьвік (і фатографы з «Napo Images»), Zorka Project, Пшэмыслаў Пакшыцкі, Кшыштаф Зеліньскі або дуэт Ян Смага й Анэта Гжэшыкоўска.

Празь некалькі гадоў, якія прайшлі з часу, калі маладое пакаленьне фатографаў заявіла пра сябе на зладжаных у 2006 годзе выставах «Новыя дакумэнталісты» й «Цяпер Польшча», відавочныя й пэўныя абмежаваньні гэтай спэцыфічнай фармацыі. Іншымі словамі, новы дакумэнт стаў у некаторай меры манерай, папулярным клішэ. Як пэўнае супрацьпастаўленьне гэтай зьяве можна прыгадваць Мікалая Длугаша й ягоны праект «Real Foto» (2007–2010). Сабраны на фатаграфічных аўкцыёнах фотакаталёг прадметаў штодзённага ўжытку захапіў мастацкіх крытыкаў, але быў горш прыняты фатаграфічнай супольнасьцю. «Real Foto» працягнуў праект Длугаша па зьбіраньні нудных паштовак часоў ПНР (альбом «Добрае надвор’е» хутка стаў культавым,

але і крытыкаваным за настальгічную аўру). У «Real Foto» настальгіі няма, таму крытыка засяродзілася на «ніякасці», сырасці й бессэнсоўнасці абраных аматарскіх здымкаў. Між тым Мікалай Длугаш паставіў сабе задачу ўпарадкаваць гармідар бясконцага каталёгу рэчаў, мірыядаў вобразаў, якія цыркулююць у сеціве і, пакуль іх не выберуць і не пакажуць, існуюць без карысьці й зьнікаюць праз імгненьне. Мастак паказаў і новую фармальную якасьць гэтых здымкаў, аўтэнтычных і прасякнутых духам часу. Іншымі словамі, здымкі Длугаша маюць быць не прыўкраснымі, але карыснымі. Карыснымі ў многіх сэнсах. Карыснымі, бо распавядаюць нам пра грамадзтва, культуру, эканоміку й эстэтыку, шмат гавораць і пра нас саміх. Постдакумэнтальная й постфатаграфічная стратэгія Мікалая Длугаша — гэта адна са спробаў зрабіць пераацэнку новага дакумэнту.

Зусім іншая прыкмета зьмены стасункаў маладых творцаў з рэчаіснасьцю — фэномэн стылізаванага гіпстэрскага фотаблогу, адным зь піянэраў якога ёсьць Куба Дамброўскі зь ягоным праектам «Accidents Will Happen». Сёньня Дамброўскі мае масу адданых фанаў і пасьлядоўнікаў як у сваім пакаленьні 30-гадовых («Szlaga» Міхала Шлягі, «Rafak Notes» Рафала Міляха), так і сярод малодшых фатографаў («Multicontrast» Кшыштафа Пахоляка, «Puresoftmetal» Якуба Рыневіча, «Mademoisellelelumpolelum» Аляксандры Лёскі, «Karwastan» Караліны Карваньскай, а таксама блогі Міхала Лучака, Давіда Місёрнага й іншых).

Для маладых фатографаў і фатаграфак, у адрозьненьне ад Длугаша, адсутнасьць непасрэднага доступу мастака да грамадзкай і эканамічнай рэчаіснасьці — зусім не праблема. У гэтай скрайне суб'ектыўнай візіі сьвету ўсё — пачынаючы ад інтымнага жыцьця, стасункаў з блізкімі, прафэсійнай працы, штодзённага побыту й заканчваючы адпачынкам — пададзенае апасродкавана праз новыя мэдыі, пераважна праз фатаграфію, але нярэдка й разрадзініц праз кароткае відэа. Сьвет здаецца апрацаваным, выстаўленым і створаным так, быццам адпачатку быў прызначаны для фіксацыі на фотаздымку й неадкладнага зьмяшчэньня ў сеціве. Гэткія блогі стоадсоткава ўпісваюцца ў адзначаную дасьледчыкамі візуальнай культуры зьяву настальгіі па сучаснасьці й ствараюць новую постдакумэнтальную іканасфэру, сплятаючы ў выніку спэцыфічную візуальную нарацыю. Эстэтыка «блогпэчварку», як акрэсьліў гэтую зьяву Якуб Сьвірч, пранізвае й творы мастакоў з кола Лукаша Рушніцы, Філіпа Завады, Кшыштафа Салярэвіча, то бок фатографаў з Уроцлаўскага Цэнтру творчых станаў (варта згадаць уроцлаўскія выставы «Біялёгія Хімія Фізыка» й перадусім «Некаторыя думаюць, што мы брыдкія», 2010), або характарызуе варшаўскую «Чуласьць», таварыска-галерэйную фармацыю, якая паўстала з ініцыятывы Паўла Эйбла, Вітка Орскага й Яна Замойскага. Фатаграфія блогераў пераглядае спосаб рэпрэзэнтацыі й ставіць істотныя пытаньні: а што, уласна кажучы, здымкі гавораць нам пра сьвет? Мастацкія — здаецца, няшмат. Немастацкія шмат гавораць пра эмоцыі й уражаньні аўтараў, пра прыгажосьць і ўзьнёсласьць — але пра сьвет? У гэтым кантэксьце традыцыйная прэс-фатаграфія здаецца нейкай перамаляванай, занадта каляровай або чорна-белай, скампанаванай так дасканала, што нібыта наўпрост прызначаецца для ўзнагароды й выставы. Урэшце, у блогавых здымках інфармацыі пра стан сьвету шмат, можа, нават зашмат. Але рэчаіснасьць навокал маладых аўтараў надалей застаецца нібыта затоенай і няўлоўнай, ледзь не зачараванай. Што важна, у гэтым сьвеце постдакумэнту ўжо няма гаворкі пра зьмены й грамадзкую заангажаванасьць, гэта вельмі асабісты, інтымны від візуальнай нарацыі, які падкрэсьлівае індывідуальную ўражлівасьць і замкнёнасьць, асаблівасьць уласнай візіі (нават набліжанай да візіі іншых блогераў).

Калі мы жывем у часы вяртаньня дакумэнталізму, а мастацкае фота пайшло на сьметнік, то ці азначае гэта, што мастакі перасталі цікавіцца фатаграфіяй? Наадварот. Напрыклад, горача прынятае ў 1990-х, заснаванае на новых сродках — у тым ліку на фатаграфіі — крытычнае мастацтва ня страчвае імпэту й у новым стагодзьдзі. Мастакі, якія ўздымаюць складаныя й балючыя тэмы, ахвотна карыстаюцца новымі сродкамі, у тым ліку фільмам і фота, каб дайсьці са сваім пасылам да шырокага гледача. Да таго ж пра пластычную й фармальную якасьць гэтай фатаграфіі магла сьведчыць зладжаная ў варшаўскім «Трусятніку» («Królikarni») Гжэгажам Кавальскім і Марыяй Сіткоўскай выстава «Скульптары фатаграфуюць» (2004). Ня толькі крытычны пасыл, але і рамесьніцкая спраўнасьць і аўтарэфлексія забясьпечылі моцную пазыцыю прадстаўнікам крытычнага мастацтва, якія паходзяць з майстэрні скульптуры прафэсара Гжэгажа Кавальскага пры варшаўскай Акадэміі мастацтва. Апрача ўжо прызнаных творцаў крытычнага мастацтва, якія ў 1990-х свабодна выкарыстоўвалі фатаграфію й фільм, такіх як Артур Жміеўскі, Катажына Гурна ці Катажына Казыра, на сучаснай арт-сцэне пасьля 2000 году зьявіліся маладзейшыя аўтары: Дарота Нязнальска, Караліна Брэгула, Караль Радзішэўскі. Менавіта інсталяцыя Нязнальскай «Pasja», якая складалася са здымку мужчынскага чэлесу, упісанага ў форму грэцкага крыжа, давяла да цкаваньня ў прэсе й асуджэньня мастачкі ў судзе першай інстанцыі. Да выбуху падобных эмоцыяў з боку публікі й да атакі скрайне правых палітыкаў дайшло й пры публікацыі ў межах «Кампаніі супраць гамафобіі» фотаздымкаў Катажыны Брэгулы — партрэтаў гомасэксуальных параў («Хай нас убачаць»). Караль Радзішэўскі прыняў іншую стратэгію, не такую, як у Нязнальскай і Брэгулы, і вырашыў выставіць здымкі з сэрыі «Підарасы» ў прыватнай кватэры (2005) і апублікаваць іх у рэдагаваным ім жа часопісе «Dik Fagazine». У сваёй ангажаванай, але моцна іранічнай, з элемэнтамі пастышу, творчасьці Радзішэўскі не абмяжоўваецца новымі сродкамі. Дзеля ўвядзеньня істотнай тэматыкі queer ён выкарыстоўвае жывапіс, малюнак і пэрформанс. Тэмы gender і queer (і шырэй — тоеснасьці суб'екта) дасьледуюць у сваёй творчасьці шматлікія маладыя мастакі: Мацей Асіка, Даніэль Румянцаў, Ойка Пэтэрсэн ці Аляксандра Бучкоўска («Маладзіцы», 2005, сумесна з Катажынай Брэгулай). У значнай меры менавіта дзякуючы дзеяньням прадстаўнікоў крытычнага мастацтва былі перасунутыя межы й каардынаты візуальнай культуры, якія да таго часу лічыліся стабільнымі. Цяпер на месцы крытычнай і фэміністычнай рэфлексіі ў мастацтве зьявілася плынь, якую тэарэтыкі назвалі посткрытычнай і постфэміністычнай. Гэта не азначае, што палітычныя матывы засталіся ў заняпадзе. Яны, хутчэй, сталі больш тонкімі й эстэтычнымі. Лібідальная энэргія сублімуецца ў мастацкай творчасьці ў даволі неакрэсьленыя, неадназначныя й нечаканыя формы, якія захапляюць і зацягваюць, адначасна падаючыся агіднымі (адбылася пераацэнка й катэгорыі агіднага). Пакуты й боль, абстрактна прадстаўленыя Агатай Багацкай у працах Дароты Нязнальскай, канкрэтызуюцца ў сымбалях прыгнёту, якія адначасова могуць быць інструмэнтамі садамазахісцкіх оргіяў. Гэтыя дзіўныя, прызначаныя для фатаграфаваньня аб'екты кампануюцца з эстэтычнымі, дзявоцкімі матывамі з фотаздымкаў Басі Сакалоўскай ці Ганны Арлоўскай. Вопратка, рэквізыт, сада-маза й сардэчкавая біжутэрыя пазначаюць суб'ект, фэтышысцкія фантазіі якога дамінуюць у шматлікіх фатаграфічных вобразах Маўрыцыя Гамуліцкага («Minimal Fetish», 2008–2010). У польскай фатаграфіі ўпершыню адкрыта зьяўляюцца выявы гермафрадытаў у працах Мацея Асікі, Барбары Канопкі (moRgan), Зьбігнева Лібэры, Анджэя Кармаша. Прыемнасьць пераадольваньня звыклых полавых роляў і канструяваньне ўласнай аповесьці пра каханьне й цялесны пожад гэткія ж відавочныя, як іхны матэрыяльны субстрат, прысутны на здымках унутры «даркрумаў» (называных і «fuck-room») Конрада Пустолы (2008–2009). Міражы аргіястычнай і антычнай асалоды там часам дапаўняюцца рэальнасьцю гетэрасэксуальнага аргазму, зафіксаванай Кубам Дамброўскім у выглядзе фотарэпартажу з пабіцьця сэксуальнага рэкорду сьвету (2002) і ў тыпалёгіі памежных публічных дамоў Ганны Бэдыньскай (2008).

Пачатак новага тысячагодзьдзя — гэта ў польскім мастацтве й рэдэфініцыя жывапіснай карціны, рост зацікаўленасьці жывапісам, асабліва рэалістычным. Праекты, якія належаць групе «Ładni», прывязваюцца ня столькі да самой рэчаіснасьці, колькі да ейных вобразаў. Можна сказаць, што мастакі, такія як Вільгельм Сасналь, Зьбігнеў Рагальскі, Марцін Мацеёўскі ці Рафал Буйноўскі, ствараюць карціны на базе фатаграфіі (або й самі фатаграфуюць). Аднак больш адэкватным было б сьцьверджаньне, што яны бяруцца, як гэта акрэсьліў адзін з крытыкаў, за «псыхааналіз» зафіксаваных у фатаграфіі вобразаў рэчаіснасьці й робяць гэта з ужываньнем жывапісных сродкаў. Сэрыя палотнаў Сасналя, створаных на аснове здымкаў Энрыке Мэтыні́дэса або малюнкаў Джэфа Ўола, праект «Віза» Буйноўскага ці карціны з фрагмэнтаў газэтных фота Мацеёўскага больш гавораць пра стан сучаснай візуальнай культуры, заснаванай на фатаграфіі й новых мэдыя, чым нават самы выразны фотаздымак.

З 1990-х можна прасачыць рост цікавасьці мастакоў да гістарычнай тэматыкі. Фэномэн, акрэсьлены крытыкамі як «дэгістарызацыя» (тэрмін Ізабэлы Кавальчык), часта абапіраецца на выкарыстаньне фатаграфіі, якая, бы машына часу, лепей прыдатная для працы ў прасторы паміж рэчаіснасьцю й ейнымі фантазмамі, міжмінуўшчынай і сучаснасьцю. Паўтарэньне жэстаў зь мінуўшчыны й пераўтварэньне вобразаў, своеасаблівых клішэ памяці прыцягваюць Робэрта Кусьміроўскага, Зьбігнева Лібэру, Ганну Баўмгарт, якая на падставе фатаграфіяў ствара надзвычай сугестыўныя скульптуры. У сваю чаргу, Пётар Укляньскі, група «Azorro» й Томаш Козак зьвяртаюцца да рэчаіснасьці мэдыйнага спэктаклю, які таксама жывіцца гістарычнай памяцьцю. Скандал, аднак, выклікалі ня толькі такія моцныя жэсты, як памятная прэзэнтацыя «Нацысты» ў залі Нарутовіча ў варшаўскай Захэнце. Паштоўкі Рафала Якубовіча, якія тычыліся мінуўшчыны адной фірмы, што валодала фабрыкамі пад Познаньню, з такой самай эфэктыўнасьцю ўключылі мэханізм выцісканьня непажаданых зьместаў. Больш дакумэнтальны падыход да Галакосту й ягоных сучасных наступстваў выяўляецца ў працах Эльжбэты Яніцкай («Няцотнае месца», 2003–2004) і Войцеха Вільчыка («Нявінная вока не існуе», 2008–2009).

Праз 170 гадоў пасьля вынаходства Дагерам фатаграфія ўсё яшчэ застаецца сучаснай, важнай часткаю рамяства як крытычнага мастака, зацікаўленага поп-культурай, гэтак і постканцэптуаліста, які дэканструюе гістарычныя клішэ.


Maciej Pisuk, z cyklu «Pod skórą. Fotografie z ulicy Brzeskiej», 2002–2011
Мацей Пісук, з цыклю «Пад скурай. Фатаграфіі з вуліцы Брэсцкай», 2002–2011



# Nowe zjawiska w fotografii polskiej po 2000 roku

Adam Mazur





Maciej Pisuk, z cyklu «Pod skórą. Fotografie z ulicy Brzeskiej», 2002–2011
Мацей Пісук, з цыклю «Пад скурай. Фатаграфіі з вуліцы Брэсцкай», 2002–2011

Kluczowym trendem, jak się wydaje, jest obserwowany od początku nowego wieku zwrot dokumentalny, który dokonuje się w fotografii po dekadach symbolicznej dominacji fotografii artystycznej i jej powolnej agonii w latach dziewięćdziesiątych XX wieku. Rozwój dokumentu okresu transformacji w Polsce to pojawienie się grup twórców (na przykład „Szkoła Jeleniogórska", „Latarnik") i rozwój pojedynczych osobowości zainteresowanych stworzeniem innego niż dominujący w skomercjalizowanej kulturze popularnej obrazu rzeczywistości. Ten dokumentalny ruch w latach dziewięćdziesiątych miał korzenie w tzw. fotografii elementarnej lat osiemdziesiątych, którą charakteryzowała próba zajęcia pozycji niejako zewnętrznej, pełnej dystansu wobec głównego nurtu kultury. Warto też zwrócić uwagę na obecność tego typu fotografii na istotnej z perspektywy czasu wystawie „Wokół dekady". Pokazano na niej takie właśnie „artystyczne dokumenty" pokolenia „starych dokumentalistów": Ewy Andrzejewskiej, Anny Beaty Bohdziewicz, Andrzeja J. Lecha, Wojciecha Zawadzkiego. Właśnie na tej ekspozycji, która pokazywana była w najważniejszych instytucjach sztuki w Polsce na początku milenium, miała miejsce swoista implozja formalistycznych eksperymentów z pogranicza dokumentu. Przygotowała ona grunt na nadejście nowego. Różnicę między zdjęciami eksponowanymi na „Wokół dekady" a tym, co zyskało miano „nowego dokumentu", można opisać jako dystansowanie się „starych dokumentalistów" od społeczeństwa oraz rządzących nim mechanizmów, typowe dla artystowskiego stylu fotografików. Takie podejście do rzeczywistości odrzucone zostaje przez twórców, którzy dojrzewali już w nowej zmediatyzowanej i nasyconej obrazami kulturze wizualnej lat dziewięćdziesiątych. W nowym dokumencie nie chodzi o kreację alternatywnych, osobnych przestrzeni. W odróżnieniu od nurtu piktorialnego, w którym dominowało czysto formalne, oparte na impresjach doświadczenie estetyczne, nowi dokumentaliści podejmują trud przedstawienia, ale także analizy rzeczywistości i sposobów jej postrzegania. W nowym dokumencie, mimo powinowactwa z reportażem (Rafał Milach, Anna Bedyńska), które schodzi na dalszy plan, istotniejszy jest aspekt analityczny działań twórców. Warto jednak zauważyć, że postawa nowych dokumentalistów daleka jest od jednoznaczności. Efekty ich pracy można traktować zarówno jak punkty oporu, jak i podlegające regułom spektaklu gotowe do sprzedaży produkty, mające urozmaicić medialną tapetę. Niepewność pogłębia także udział większości młodych artystów w rynku komercyjnych mediów zapewniający im utrzymanie (Zorka Project, Zuza Krajewska i Bartek Wieczorek, Igor Omulecki). Jeśli jednak przyjąć, że nie można z zewnątrz krytykować opartego na spektaklu systemu, to w nowych dokumentalistach należałoby dostrzec agentów zmiany, którzy, po pierwsze, spalają się w codziennych zmaganiach z funkcjonariuszami tegoż systemu, a po drugie – wprowadzają swoją twórczością problemy rzeczywistości do stanowiącego subpole spektaklu świata sztuki. W tym sensie potencjał zapisu dokumentalnego nie sprowadza się do obejrzenia i zrozumienia, ale także – przez analizę sposobów percepcji – przygotowuje odbiorcę do działania na rzecz rewizji status quo. Przy czym zmiana wydaje się możliwa jedynie poprzez media. Graniczna pozycja nowego dokumentu generuje niepewność, przyciąga uwagę i może prowadzić do transgresji. W ostatnich latach znaczące sukcesy artystyczne odnosili artyści kojarzeni z nurtem nowego dokumentu, tacy jak: Konrad Pustoła, Nicolas Grospierre, Wojciech Wilczyk, Rafał Milach (wraz z kolektywem Sputnik Photos), Andrzej Kramarz i Weronika Łodzińska (oraz inni fotografowie z kolektywu Vis-A-Vis), Filip Ćwik (i fotografowie z Napo Images), Zorka Project, Przemysław Pokrycki, Krzysztof Zieliński czy duet Jan Smaga, Aneta Grzeszykowska.

W ciągu kilku lat, które minęły od wtargnięcia poprzez zorganizowane w 2006 roku wystawy „Nowi dokumentaliści" i „Teraz Polska" młodego pokolenia fotografów, widać również pewne ograniczenia tej specyficznej postawy. Innymi słowy, nowy dokument stał się w znacznej mierze manierą, popularną kliszą. W pewnej kontrze do tego zjawiska usytuować można Mikołaja Długosza i jego projekt „Real Foto" (2007–2010). Zebrany na internetowych aukcjach fotograficzny katalog rzeczy codziennego i odświętnego użytku uwiódł krytyków sztuki, lecz gorzej został przyjęty przez świat fotografii. „Real Foto" kontynuował projekt zbierania przez Długosza nudnych pocztówek z PRL („Pogoda ładna" szybko stała się kultowym, ale też krytykowanym za nostalgiczną aurę albumem). W „Real Foto" nostalgii brak, więc krytyka szła w stronę wskazywania nijakości, surowości i braku sensu w wyborze amatorskich zdjęć. Tymczasem Mikołaj Długosz postawił przed sobą zadanie uporządkowania bałaganu niekończącego się katalogu rzeczy, miriadów cyrkulujących w sieci obrazów, które dopóki się ich nie wybierze i nie pokaże, wegetują bezużytecznie i znikają po chwili. Artysta wskazał również nową jakość formalną przypisaną tym autentycznym i oddającym ducha naszych czasów zdjęciom. Innymi słowy, zdjęcia Długosza nie mają być piękne, lecz użyteczne. Użyteczne na wiele sposobów. Użyteczne, bo mówią nam o społeczeństwie, kulturze, ekonomii i estetyce; mówią nam o nas samych. Postdokumentalna i postfotograficzna strategia Mikołaja Długosza jest jedną z prób przewartościowania nowego dokumentu.

Za zupełnie inną oznakę zmiany nastawienia młodych twórców do rzeczywistości należy uznać fenomen stylizowanego hipsterskiego fotobloga, którego jednym z pionierów jest Kuba Dąbrowski i jego projekt Accidents Will Happen. Dąbrowski ma dziś rzeszę oddanych fanów i naśladowców zarówno w swoim pokoleniu trzydziestolatków (Szlaga Michała Szlagi, Rafak Notes Rafała Milacha), jak i wśród fotografów młodszych (Multicontrast Krzysztofa Pacholaka, Puresoftmetal Jakuba Ryniewicza, Mademoisellelelumpolelum Aleksandry Loski, Karwastan Karoliny Karwańskiej, a także blogi Michała Łuczaka, Dawida Misiornego i innych).

Dla młodych fotografów i fotografek – inaczej niż dla Długosza – brak bezpośredniego dostępu fotografa do rzeczywistości społecznej i ekonomicznej nie jest żadnym problemem. W tej skrajnie subiektywnej wizji świata wszystko – od życia intymnego, relacji z bliskimi, przez pracę zawodową i życie codzienne, a na relaksie i wypoczynku kończąc – jest zapośredniczone w nowych mediach, głównie fotografii, ale nierzadko także krótkich formach wideo. Świat wydaje się przetworzony, ustawiony i stworzony tak, jakby był przeznaczony od początku do utrwalenia na fotografii i natychmiastowego udostępnienia poprzez sieć. Stuprocentowo wizualne blogi wpisują się w obserwowane przez badaczy kultury wizualnej zjawisko nostalgii za współczesnością i tworzą nową postdokumentalną ikonosferę, składając się w sumie na specyficzną, wizualną narrację. Estetyka „blogowego patchworku", jak zjawisko określił Jakub Śwircz, przenika również estetykę wystaw z kręgu Łukasza Rusznicy, Filipa Zawady, Krzysztofa Solarewicza, czyli fotografów z Wrocławskiego Ośrodka Postaw Twórczych zebranych na wrocławskich wystawach „Biologia Chemia Fizyka" i przede wszystkim „Niektórzy myślą, że jesteśmy brzydcy" (2010), czy też charakteryzuje warszawską „Czułość" powstałą z inicjatywy Pawła Eibla, Witka Orskiego i Jana Zamoyskiego ideę galeryjno-towarzyską. Fotografia blogerów przewartościowuje dotychczasowe sposoby reprezentacji i stawia istotne pytanie, co właściwie zdjęcia mówią nam o świecie? Te artystyczne, jak się wydaje, niezbyt wiele. Te nieartystyczne zaś sporo o emocjach i wrażeniach autorów, o pięknie i wzniosłości, ale o świecie? W tym kontekście tradycyjna fotografia prasowa wydaje się jakby przerysowana,



Maciej Pisuk, z cyklu «Pod skórą. Fotografie z ulicy Brzeskiej», 2002–2011
Мацей Пісук, з цыклю «Пад скурай. Фатаграфіі з вуліцы Брэсцкай», 2002–2011

zbyt kolorowa lub czarno-biała, zakomponowana tak doskonale, że nadająca się wprost na nagrodę i wystawę. W sumie w zdjęciach blogowych informacji o stanie świata jest również sporo, może nawet zbyt dużo. Ale rzeczywistość dookoła coraz młodszych autorów wciąż pozostaje jakby przyczajona i nieogarniona, wręcz zaczarowana. Co istotne, w tym świecie postdokumentu już nie chodzi o zmianę i zaangażowanie społeczne, to bardzo wsobny, intymny rodzaj wizualnej narracji podkreślającej indywidualną wrażliwość i zamknięcie, osobność własnej wizji (nawet jeśli w sumie dość zbliżonej do innych blogerów).

Jeśli żyjemy w czasach zwrotu dokumentalnego, a fotografia artystyczna odeszła do lamusa, czy oznacza to, że artyści przestali interesować się fotografią? Przeciwnie. Na przykład niezwykle gorąco przyjmowana w latach dziewięćdziesiątych bazująca na nowych mediach – w tym fotografii – sztuka krytyczna nie traci impetu także w nowym stuleciu. Artyści podejmujący trudne i drażliwe tematy chętnie sięgają po nowe media, jak film i fotografia, by dotrzeć ze swoim przekazem do szerokiego odbiorcy. Jednocześnie o jakości plastycznej i formalnej tej fotografii świadczyć mogła zorganizowana w warszawskiej Królikarni przez Grzegorza Kowalskiego i Marylę Sitkowską wystawa „Rzeźbiarze fotografują" (2004). Nie tylko krytyczny przekaz, ale także sprawność warsztatowa i autorefleksyjność zapewniły artystom sztuki krytycznej, wywodzącym się z pracowni rzeźby prowadzonej na warszawskiej ASP przez profesora Grzegorza Kowalskiego, dominującą pozycję. Oprócz uznanych już twórców krytycznych posługujących się w latach dziewięćdziesiątych swobodnie fotografią i filmem, takich jak Artur Żmijewski, Katarzyna Górna czy Katarzyna Kozyra, na scenie sztuki współczesnej po 2000 roku pojawiają się artyści młodsi, jak: Dorota Nieznalska, Karolina Breguła, Karol Radziszewski. Właśnie składająca się m.in. z fotografii męskiego członka wpisanego w kształt krzyża greckiego instalacja Nieznalskiej, zatytułowana Pasja, doprowadziła do nagonki medialnej i skazania artystki w sądzie pierwszej instancji. Do wybuchu podobnych emocji ze strony publiczności i ataków skrajnie prawicowych polityków dochodziło także w wypadku upublicznienia w ramach działań „Kampanii przeciw homofobii" fotografii Karoliny Breguły przedstawiających portrety homoseksualnych par („Niech nas zobaczą"). Karol Radziszewski przyjął inną strategię niż Nieznalska czy Breguła i zdecydował się eksponować zdjęcia z serii „Pedały" we wnętrzu prywatnego mieszkania (2005) oraz publikować w redagowanym przez siebie zinie „Dik Fagazine". W swojej zaangażowanej, ale także mocno ironicznej, wręcz pastiszowej twórczości Radziszewski nie ogranicza się do nowych mediów, lecz do wprowadzenia istotnej tematyki queer, wykorzystuje także malarstwo, rysunek i performence'y. Tematy gender i queer (i szerzej tożsamości podmiotu) eksplorują w swojej twórczości liczni młodzi fotografowie, jak: Maciej Osika, Daniel Rumiancew, Oiko Petersen czy Aleksandra Buczkowska (Mężatki, 2005, wraz z Karoliną Bregułą). W znacznej mierze właśnie dzięki działaniom artystów sztuki krytycznej dokonało się przesunięcie ram poznawczych i koordynatów kultury wizualnej do tej pory uznawanych za stabilne. Obecnie w miejsce refleksji krytycznej i feministycznej pojawiła się w sztuce twórczość przez teoretyków nazywana „postkrytyczną" i „postfeministyczną". Nie znaczy to, że zarzucone zostały wątki polityczne. Raczej uległy one wysubtelnieniu i pewnej estetyzacji. Libidalna energia sublimowana jest w produkcji artystycznej w dość nieokreślone, niejednoznaczne i nieoczekiwane formy, które uwodzą i wciągają, zdając się zarazem odpychającymi (nastąpiło także przewartościowanie kategorii wstrętu). Cierpienie i ból, abstrakcyjnie przedstawiane przez Agatę Bogacką, w pracach Doroty Nieznalskiej konkretyzują się w symbolach opresji, które mogą być także ekwipunkiem sadomasochistycznych orgii. Te dziwne przeznaczone do sfotografowania obiekty komponują się z estetycznymi, dziewczęcymi motywami z fotografii Basi Sokołowskiej czy Anny Orłowskiej. Ubrania, rekwizyty sadomaso i sercowa biżuteria zastępują podmiot, którego fetyszystyczne fantazje dominują w wielu fotograficznych obrazach Maurycego Gomulickiego (Minimal Fetish, 2008–2010). W polskiej fotografii pojawiają się w sposób otwarty po raz pierwszy w historii przedstawienia hermafrodytów Macieja Osiki, Barbary Konopki („moRgan"), Zbigniewa Libery, Andrzeja Karmasza. Przyjemność przekraczania utartych ról płciowych i konstruowania własnej opowieści o miłości i cielesnym pożądaniu jest równie ewidentna co jej materialny substrat obecny na zdjęciach wnętrz „darkroomów" (zwanych również „fuck-roomami") Konrada Pustoły (2008–2009). Przybytki rozkoszy orgiastycznej i antycznej zarazem uzupełniane są realnym heteroseksualnej rozkoszy kopulacji udokumentowanej przez Kubę Dąbrowskiego w postaci fotoreportażu z bicia seksualnego rekordu świata (2002) i typologiach przygranicznych domów publicznych Anny Bedyńskiej (2008).

Początek nowego milenium to w sztuce polskiej także redefinicja obrazu malarskiego, wzrost zainteresowania malarstwem, zwłaszcza realistycznym. Szczególnie przedstawienia kojarzone z kręgiem grupy Ładnie odnoszą się nie tyle do samej rzeczywistości, co raczej do jej obrazów. Można powiedzieć, że malarze, tacy jak: Wilhelm Sasnal, Zbigniew Rogalski, Marcin Maciejowski czy Rafał Bujnowski, tworzą obrazy na bazie fotografii (lub wręcz sami fotografują). Jednak bardziej adekwatne byłoby stwierdzenie, że podejmują się – jak uchwycił to jeden z krytyków – „psychoanalizy" zapośredniczonych w fotografii obrazów rzeczywistości, a czynią to przy użyciu środków malarskich. Seria płócien Sasnala namalowanych na bazie zdjęć Enrique Metinidesa czy rysunków nawiązujących do Jeffa Walla, projekt Wiza Bujnowskiego czy obrazy fragmentów zdjęć prasowych Maciejowskiego mówią więcej o kondycji opartej na fotografii i nowych mediach współczesnej kultury wizualnej niż niejedno zdjęcie.

Od lat dziewięćdziesiątych można obserwować przybierające na sile zjawisko podejmowania przez artystów tematów historycznych. Fenomen definiowany przez krytykę jako „dehistoryzacje" (termin Izabeli Kowalczyk) często przybiera postać działania z mediami, w tym fotografią, która jako wehikuł najlepiej nadaje się do pracy w przestrzeni pomiędzy rzeczywistością i jej fantazmatami, między przeszłością i teraźniejszością. Powtarzanie gestów z przeszłości i przetwarzanie obrazów, swego rodzaju klisz pamięci, nurtuje Roberta Kuśmirowskiego, Zbigniewa Liberę czy Annę Baumgart, która na podstawie fotografii tworzy niezwykle sugestywne rzeźby. Z kolei Piotr Uklański, Grupa Azorro i Tomasz Kozak odnoszą się do rzeczywistości spektaklu medialnego, który także karmi się pamięcią historyczną. Skandal jednak dotyczy nie tylko tak silnych gestów, jak pamiętna prezentacja „Nazistów" w Sali Narutowicza w warszawskiej Zachęcie. Pocztówki Rafała Jakubowicza, które odnosiły się do przeszłości jednej z firm posiadających fabrykę pod Poznaniem, z równą skutecznością uruchomiły mechanizm wyparcia niepożądanych treści. W zdecydowanie bardziej dokumentalny sposób do Holokaustu i jego współczesnych konsekwencji odnoszą się Elżbieta Janicka (Miejsce nieparzyste, 2003–2004) i Wojciech Wilczyk (Niewinne oko nie istnieje, 2008–2009). Ponad 170 lat od wynalazku Daguerre'a fotografia wciąż jest medium nowoczesnym, istotną częścią warsztatu artysty krytycznego, zarówno zainteresowanego kulturą popularną malarza, jak i dekonstruującego historyczne klisze postkonceptualisty.

# Караль Сянкевіч

# «Кавальня». Групавая творчая асоба







Artur Żmijewski, Paweł Althamer, «Wybory.pl», 2005
fot. dzięki uprzejmości Fundacji Galerii Foksal, Warszawa.
Артур Жмієўскі, Павел Альтгамэр, «Выбары. pl», 2005
+
Jacek Markiewicz, «Bez tytułu», 1993, kadr z filmu, fot. Archiwum Kowalni,
dzięki uprzejmości Muzeum Sztuki Nowoczesnej, Warszawa.
Яцэк Маркевіч, «Бяз назвы», 1993, кадар зь фільму, фота: архіў «Кавальні»

Павел Альтгамэр, Катажына Казыра й Артур Жміеўскі належаць да найбольш пазнавальных польскіх мастакоў. Гэтая тройка пазнаёмілася ў майстэрні Гжэгажа Кавальскага на аддзяленьні скульптуры Варшаўскай Акадэміі мастацтва. Майстэрню называлі «Кавальняй».

Пра яе загаварылі прынамсі з 1990-х, а «славутай» яна стала ў 1993 годзе, калі вакол дыплёмнай працы Казыры выбухнуў мэдыяскандал. Ейная скульптура «Піраміда жывёлаў» складалася з пастаўленых адно на адно чучалаў каня, сабакі, ката й пеўня. Каня мастачка выбрала сама й замовіла ягонае ўсыпленьне. Галасы абурэньня належалі ў асноўным абаронцам правоў жывёлаў. Але гэты сьвяты гнеў яшчэ больш выразна выкрыў крывадушнасьць грамадзтва — хаваньне сьмерці ў сучаснай культуры за заслонаю табу.

Менавіта са скандалам зьвязвалі «Кавальню» ў 1990-х. Але ў тыя часы праз гэтую прызму ўспрымалі ўвогуле ўсё г. зв. крытычнае мастацтва, у плынь якога ўпісвалася творчасьць вялікай групы выпускнікоў «Кавальні». Яцэк Маркевіч, які абараніў свой дыплём у 1993 годзе, у той самы дзень, што й Казыра, яшчэ студэнтам «праславіўся» працамі з выкарыстаньнем мэнструальнай крыві, цыклем фотаздымкаў, дзе ён займаўся ананізмам. Яго дыплём быў накіраваны на канфрантацыю публікі, сярод якой былі супрацоўнікі ягонай фірмы й ягоны бацька, зь фільмам, дзе мастак кахаўся з расьпяцьцем. Казыра праз некалькі гадоў пасьля гучнага дыплёму выканала «Лазьню», фільм, зьняты схаванай камэрай у жаночай лазьні, а потым паказаную на Біенале ў Вэнэцыі «Мужчынскую лазьню», якую стварыла паводле таго самага прынцыпу, толькі ў галоўнай ролі выступіла сама мастачка, замаскаваная пад мужчыну з прыклееным чэлесам. Яна хадзіла ў лазьні сярод аголеных мужчын. Палеміку ўзбуджалі і працы Артура Жміеўскага, у якіх ён запісваў і здымаў людзей хворых і скалечаных («Вока за вока», «Караліна»). Падобную тэматыку, асабліва датычную «цела й улады», дасьледавалі й выпускнікі ды выпускніцы «Кавальні» Катажына Гурна, Моніка Зеліньска, Яцэк Маліноўскі.

У 2005 годзе Цэнтар сучаснага мастацтва «Ўяздоўскі замак» у Варшаве запрасіў Паўла Альтгамэра, Катажыну Казыру й Артура Жміеўскага падрыхтаваць індывідуальныя выставы, якія адкрывалі б праект «У самым цэнтры ўвагі» — расьпісаны на год цыкль прэзэнтацыяў найважнейшых постацяў польскай сцэны візуальных мастацтваў. Аднак адкрыцьця трох заплянаваных выставаў не адбылося. Казыра паказала праект, які зацікавіў СМІ, — шматканальнае відэа «Пакараньне й злачынства». Мастачка зьняла групу вар'ятаў, што экспэрымэнтавалі з выбуховымі сродкамі, якімі валодалі незаконна. Але Альтгамэр і Жміеўскі змовіліся й замест сваіх індывідуальных паказаў прапанавалі паўтарыць у залях Цэнтру заданьне з майстэрні Кавальскага, толькі на трохі зьмененых прынцыпах. Да ўдзелу запрасілі калегаў і каляжанак з майстэрні. Праект назвалі «wybory.pl».

Заданьне, пра якое ідзе гаворка, «Сумесны абшар, уласны абшар», у скароце з польскага OWOW, стала распазнавальным знакам «Кавальні». Кавальскі рэалізаваў яго з 1980-х, спачатку сумесна зь Віктарам Гутам, калі выкладаў на аддзяленьні прамысловага дызайну, а потым у майстэрні на аддзяленьні скульптуры Акадэміі мастацтваў у Варшаве, якую пераняў ад свайго майстра й настаўніка Ежы Янушкевіча й якую вядзе дагэтуль. OWOW — гэта практыкаваньне, што супольна выконваюць усе студэнты, але таксама й прафэсар са сваімі асыстэнтамі. Яно разьлічанае не на завершаны твор, нават калектыўны, а на сам працэс, дзеяньне. Працэс заснаваны на невэрбальнай камунікацыі. Падчас некалькіх сэсіяў, працяглых спатканьняў у майстэрні нельга ўжываць словаў, адно жэсты й усялякія магчымыя візуальныя сродкі, якія толькі прыходзяць у галаву. Дакумэнтацыю гэтых дзеяньняў можна часам параўнаць з пэрформансамі, часам — з групавымі хэпэнінгамі, а часам — з імправізаванымі акцыямі й нават з тэатрам танцу. Кожным разам заданьне набывае іншы, адрозны, незаплянаваны характар, залежны ад першапачатковых умоваў і — у большай ступені — ад канфігурацыі асобаў. Заданьне дазваляе побач з «агульным абшарам» замыкацца й ва «ўласным абшары», зарэзэрваваным як прыватнае поле, а таксама дае магчымасьць заключаць дамоўленасьці, датычныя ўзаемадачыненьняў паміж адным і другім абшарамі.

OWOW выразна дэманструе асноўныя прынцыпы дыдактыкі Кавальскага. Прафэсар сьледам за Янушкевічам, спадчыну якога ён творча разьвівае, называе яе дыдактыкай партнэрства. Гэтаксама, як студэнты вучацца ў прафэсара, падкрэсьлівае Кавальскі, прафэсар вучыцца ў студэнтаў, нягледзячы на тое што гэта ён выстаўляе адзнакі й вызначае зьмест заданьняў. Падставай ёсьць роўнасьць, свабода — сьветапоглядная й у выбары сродкаў. У цэнтры ўвагі тут стаіць чалавек, ці то Я-мастак, ці то Іншы. Як падкрэсьлівае Кавальскі, людзкія адчуваньні заўжды важнейшыя за мастацтва.



Paweł Althamer, «Czas – przestrzeń – woda», 1990–1991,
fot.: Archiwum Kowalni , dzięki uprzejmości Muzeum Sztuki Nowoczesnej, Warszawa
Павел Альтгамэр, «Час – прастора – вада», 1990–1991, фота: архіў «Кавальні»



Але «Кавальня» — гэта выключэньне ў Акадэміі, дзе гадамі скульптура застаецца скульптурай, а карціна — карцінаю. У апошнія гады гэта пачало зьмяняцца, калі паўстала Аддзяленьне мастацтва мэдыяў і сцэнаграфіі, на якім таксама выкладае Кавальскі, але «Кавальня» й надалей застаецца выспай у акіяне акадэмізму. Процілегласьцю «дыдактыкі партнэрства» для Кавальскага ёсьць «майстэрня майстра». У кантэксьце сваёй майстэрні ён кажа пра «стварэньне артыстаў», разьвіцьцё творчых асобаў, у кантэксьце «майстэрскай майстэрні» — пра «вывучэньне мастацтва».

Імпрэза Альтгамэра й Жміеўскага «wybory.pl» у Цэнтры сучаснага мастацтва была спробай пераносу OWOW у шырэйшы кантэкст. Акцыя распачалася ў групе былых студэнтаў Кавальскага за месяц да адкрыцьця «выставы». Працэс, выпешчаны ў межах майстэрні, дагледжаны, абаронены ад дэструкцыі (каб падтрымаць камунікацыю), тут рассыпаўся. Даходзіла да зьнішчэньня, а таксама ўвядзеньня «стыхіі рэчаіснасьці» ў выглядзе запрошаных звонку гасьцей, якія не паважалі ані правілаў, ані сытуацыі. Адной са «стыхіяў» былі малыя зь дзіцячага садку, якія нішчылі ўсё, што бачылі на сваім шляху. Таму многія ўдзельнікі выйшлі з гульні. Парадаксальна, але «пераможна» выходзілі з гэтай сытуацыі мастакі, якія замыкаліся ва «ўласных абшарах», як Яцэк Адамас, што падчас рэпэтыцыяў «wybory.pl» трымаў галадоўку, ці Моніка Зеліньска (Мамзэта), якая пакінула па сабе сьлед у выглядзе раздрукоўкі УГД з фотаздымкам ейнага ненароджанага яшчэ дзіцяці.

Пасьля акцыі «wybory.pl» на старонцы «Піктаграмы» распачалася дыскусія паміж Жміеўскім і Кавальскім. Жміеўскі крытыкаваў акадэмічную майстэрню за адмежаваньне ад усяго вонкавага. Для гэтай крытыкі ён ужываў акрэсьленьне, якое ў адным з інтэрвію стварыў сам Кавальскі, — «бурбалка ў рэчаіснасьці». Для Кавальскага «бурбалка», асабліва ў кантэксьце неспрыяльнай атмасфэры 1980-х, спараджала пачуцьцё свабоды дзейнасьці. Для Жміеўскага — абмяжоўвала працэс пазнаньня. «Адасабленьне дзеяньня ад зьнішчэньня, — пісаў Жміеўскі, — зьбядняе нашыя веды пра мэханізмы дэструкцыі — мы ня вучымся нішчыць. Мы выціскаем злосьць і агрэсію, якія заўжды вяртаюцца — але ўжо як дэманы».

Альтгамэра й Жміеўскага можна назваць прадаўжальнікамі ідэяў Кавальскага, але ў больш шырокім кантэксьце. Хаця мастакі неаднаразова супрацоўнічалі, іхныя пазыцыі знаходзяцца на скрайніх полюсах мастацкага спэктру.

Пра абодвух можна казаць у кантэксьце мастацтва, заснаванага на саўдзеле, але Жміеўскі блізкі да ідэі антаганістычнай супольнасьці або дэмакратыі, як яе разумее Шанталь Муфэ (Chantal Mouffe), Альтгамэр жа, здаецца, намагаецца кіравацца ўтапічнай, уяўнай ідэяй супольнасьці-нятоеснасьці, апісанай Джорджыа Агамбэнам (Giorgio Agamben). Жміеўскі ставарае канфліктныя сытуацыі, быццам адпачатку асуджаныя на паразу. У 2007 годзе ён сутыкнуў міжсобку на сэмінарах, заснаваных на невэрбальнай камунікацыі, чатыры бакі: левую моладзь, маладых габрэяў, скрайне правую Ўсяпольскую Моладзь, жанчын, якія ідэнтыфікаваліся з касьцёлам. Дайшло да ўзаемнага пазнаваньня, але не да паразуменьня — фільм «Яны» заканчваецца пажарам. Аднак, калі Жміеўскі адважыўся паўтарыць славуты турэмны экспэрымэнт доктара Зымбарда, супрацьпастаўленыя групы вязьняў і стражнікаў змовіліся... супраць мастака, які стварыў для іх такую сытуацыю.

Альтгамэр як мастак хістаецца на тонкай рысе, нібыта шукаючы раўнавагі між «уласным абшарам» і «агульным абшарам». Ва «ўласным абшары» ён зьдзяйсьняе мэнтальныя падарожжы ўглыб сябе. Падчас навучаньня гэта часта былі пэрформансы, якія палягалі на адчужэньні ад цялесных імпульсаў, калі ён, як сьнегавік, сядзеў некалькі гадзінаў на марозе або калі ягонае цела знаходзілася ў плястыкавым пакеце, напоўненым вадой. Для такога «адразаньня» ад рэчаіснасьці яму служылі таксама наркотыкі. У «агульным абшары» Альтгамэр дзейнічае як шаман, напрыклад, у сваёй раённай супольнасьці, але не зьяўляецца правадыром племені, хутчэй, дапамагае іншым вызваліць запасы іхнай крэатыўнасьці або паглядзець на рэчаіснасьць з новай пэрспэктывы.

Альтгамэра й Жміеўскага, а таксама іншых студэнтаў «Кавальні», хаця й у меншай ступені, аб'ядноўвае мысьленьне пра мастацтва й гледачоў або ўдзельнікаў як пра своеасаблівую супольнасьць. Этас мастацтва, які перадае Кавальскі, абапіраецца на пераканаьне, што мастацтва ёсьць адным са сродкаў камунікацыі, альтэрнатыўным тым, якія ўжываюцца штодня, напрыклад, СМІ, але адкрытым для іншых сэнсаў і інтуіцыі. Гэтаму вучыць, напрыклад, OWOW. Ён дае ўсьведамленьне, што мастацтва ня дзейнічае ў пустаце, што першапачатковы пасыл не заўсёды павінен быць прачытаны паводле нашых адчуваньняў, што некаторыя жэсты выклікаюць рэакцыю, але яна можа ўвайсьці ў дыскусію, палеміку. Пры выхадзе з майстэрні, гэтай «бурбалкі ў рэчаіснасьці», мастакі дзейнічаюць у супольнасьці, якой ёсьць грамадзтва.

«Кавальня» мае й іншы аспэкт супольнасьці: штогод тут зьмяняецца група студэнтаў, навучэнцы вызваляюцца ад аўтарытэту прафэсара й сыходзяць, зьяўляюцца новыя. Але надыходзіць і кумуляцыя: «Кавальня» ў шырокім разуменьні — гэта й група выпускнікоў, якія — што нетыпова — адчуваюць повязь. Нават цяпер, калі амаль дзесяць гадоў «Кавальня» не зьяўляецца скульптурнай майстэрняй (бо прынцып свабоды выбару сродкаў прывёў да таго, што студэнты ўжо ў 1990-х абіралі такія сродкі, як фатаграфія ці фільм). Цяпер гэта заснаваная на новых выяўленчых сродках Майстэрня Аўдыёвізуальнай Прасторы. Падобную групу, дагэтуль павязаную сяброўствам і мастацтвам, у 1970-х стварылі выпускнікі майстэрні Янушкевіча ў межах галерэі «Repassage». Адной з галоўных постацяў таго асяродку быў Гжэгаж Кавальскі. Гэта ў «Repassage» адбываліся першыя паказы ягоных акцыяў-пытаньняў. Яны ўяўлялі сабой зборы адказаў на экзыстэнцыйныя пытаньні, якія Кавальскі ставіў перад сваімі сябрамі. У выпадку «Кавальні» мы можам гаварыць пра групавую творчую асобу. І гэта можа быць найважнейшым з элемэнтаў, якія Кавальскі перадае сваім студэнтам.

# Kowalnia. Grupowa osobowość twórcza

## Karol Sienkiewicz

▼

«Obszar wspólny, obszar własny», 1989–1990, namiot Pawła Althamera,
fot.: Archiwum Kowalni dzięki uprzejmości Muzeum Sztuki Nowoczesnej, Warszawa
«Сумесны абшар, уласны абшар», 1989–1990, намёт Паўла Альтгамэра, фота: архіў «Кавальні»

Paweł Althamer, Katarzyna Kozyra i Artur Żmijewski należą do najbardziej rozpoznawalnych polskich artystów. Poznali się w pracowni profesora Grzegorza Kowalskiego, zwanej Kowalnią, na Wydziale Rzeźby warszawskiej Akademii Sztuk Pięknych.

O pracowni mówiło się przynajmniej od początku lat dziewięćdziesiątych ubiegłego wieku, a naprawdę głośno zrobiło się o niej w 1993 roku, gdy wokół dyplomu Katarzyny Kozyry wybuchł medialny skandal. Jej rzeźba Piramida zwierząt składała się z ustawionych na sobie wypchanych zwierząt: konia, psa, kota i koguta. Konia artystka osobiście wybrała i zleciła jego uśpienie. Głosy oburzenia dotyczyły głównie praw zwierząt. Ale to święte oburzenie jeszcze bardziej ujawniło społeczną hipokryzję – traktowanie śmierci we współczesnej kulturze jako tabu.

W owym czasie właśnie ze skandalem kojarzono Kowalnię, bowiem przez ten sam pryzmat widziano wówczas tak zwaną sztukę krytyczną w ogóle. W nurt ten wpisywała się twórczość sporej grupy absolwentów Kowalni. Jacek Markiewicz, który dyplomu bronił w 1993 roku, tego samego dnia co Kozyra, jeszcze jako student „zasłynął" pracami z wykorzystaniem krwi miesięcznej, cyklem fotografii, na których się onanizował. Jego dyplom był konfrontacją z publicznością, wśród której byli pracownicy jego firmy i jego ojciec, z filmem przedstawiającym artystę uprawiającego miłość z krucyfiksem. Katarzyna Kozyra kilka lat po głośnym dyplomie przygotowała Łaźnię – film nagrany ukrytą kamerą, pokazujący kobiety w łaźni, oraz Łaźnię męską, pokazaną na Biennale w Wenecji, powstałą na podobnej zasadzie, ale z samą artystką ucharakteryzowaną na mężczyznę, z dolepionym członkiem, przechadzającą się wśród nagich mężczyzn w łaźni. Kontrowersje budziły także prace Artura Żmijewskiego, których ideą było nagrywanie i fotografowanie ludzi chorych oraz kalekich (Oko za oko, Karolina). Podobną tematykę, zwłaszcza dotyczącą „ciała i władzy", podejmowali też absolwenci Kowalni: Katarzyna Górna, Monika Zielińska, Jacek Malinowski.

W 2005 roku Centrum Sztuki Współczesnej Zamek Ujazdowski w Warszawie zaprosiło Pawła Althamera, Katarzynę Kozyrę i Artura Żmijewskiego do przygotowania indywidualnych wystaw, które otworzyłyby projekt „W samym centrum uwagi" – rozpisany na rok cykl prezentacji najważniejszych postaci na polskiej scenie sztuk wizualnych. Do [żadnej z ] trzech planowanych wystaw nie doszło. Kozyra pokazała projekt, który przyciągnął uwagę mediów – wielokanałową instalację wideo Kara i zbrodnia. Artystka filmowała grupę zapaleńców eksperymentujących ze środkami wybuchowymi, posiadanymi przez nich nielegalnie. Althamer i Żmijewski porozumieli się i zamiast swych pokazów indywidualnych zaproponowali powtórzenie zadania z pracowni Kowalskiego w salach Centrum, jednak na nieco zmienionych zasadach. Do udziału w nim zaprosili kolegów i koleżanki z pracowni. Projekt nazwano wybory.pl.

Zadanie, o którym mowa – „Obszar Wspólny, Obszar Własny" (w skrócie OWOW) – stało się znakiem rozpoznawczym Kowalni. Grzegorz Kowalski realizował je od początku lat osiemdziesiątych, na początku wspólnie z Wiktorem Guttem, gdy wykładał na Wydziale Wzornictwa Przemysłowego, a następnie w pracowni dyplomującej na Wydziale Rzeźby ASP w Warszawie, którą przejął po swoim mistrzu Jerzym Jarnuszkiewiczu i prowadzi do dzisiaj. OWOW to ćwiczenie wykonywane wspólnie przez wszystkich studentów, ale też profesora i jego asystentów. Nie jest obliczone na powstanie dzieła, nawet kolektywnego, a na sam proces, działanie. Proces ten opiera się na komunikacji pozawerbalnej. Podczas kilku sesji, kilkugodzinnych spotkań w pracowni, nie używa się słów, lecz gestów i wszelkich możliwych środków wizualnych, jakie przychodzą do głowy. Oglądając dokumentację tych działań, można porównać je czasem do performance'ów, czasem do grupowych happeningów, czasem do działań improwizowanych, a nawet teatru tańca. Za każdym razem zadanie ma zresztą inny nieprzewidywalny przebieg – zależny od założeń początkowych oraz, w większym stopniu, od indywidualnych cech uczestników i ich osobowości. Zadanie zakłada też, obok działania wobec grupy – w „obszarze wspólnym", możliwość zamknięcia się w „obszarze własnym", zarezerwowanym jako „prywatne pole", a także możliwość negocjowania relacji między jedną a drugą strefą.

OWOW świetnie oddaje podstawowe zasady dydaktyki Kowalskiego. Profesor, za Jarnuszkiewiczem, którego metodę twórczo rozwija, nazywa ją dydaktyką partnerstwa. Tak samo jak studenci uczą się od profesora – podkreśla Kowalski – tak profesor uczy się od swoich studentów, mimo że to on stawia oceny i wyznacza treść zadań. Podstawą jest więc równość wobec stawianych pytań, wolność światopoglądowa, swoboda wyboru środków. W centrum zainteresowania pozostaje tu bowiem człowiek, czy to ja-artysta [Ja-artysta], czy Inny. Jak podkreśla Kowalski, ludzkie doświadczenie jest zawsze ważniejsze od sztuki.

Ale Kowalnia to wyjątek na konserwatywnej uczelni, gdzie przez lata rzeźba pozostawała rzeźbą, a obraz – obrazem. W ostatnich latach nieco się to zmieniło, gdy powstał Wydział Sztuki Mediów i Scenografii, na którym również wykłada Kowalski. Kowalnia jednak wciąż pozostaje odosobnioną wyspą na oceanie akademizmu. Przeciwieństwem „dydaktyki partnerstwa" jest dla Kowalskiego pracownia mistrzowska. W kontekście swojej pracowni mówi o „kształceniu artystów", rozwijaniu twórczych osobowości, w kontekście pracowni mistrzowskiej – o „nauczaniu sztuki".

Przedsięwzięcie Althamera i Żmijewskiego w CSW – wybory.pl – było próbą przeniesienia OWOW w szerszy krąg oddziaływania. Przygotowania rozpoczęły się w grupie byłych studentów Kowalskiego na miesiąc przed otwarciem „wystawy" dla publiczności. Proces, pielęgnowany w pracowni, chroniony zasadą zakazu destrukcji (by podtrzymać komunikację), zaczął się rozpraszać. Dochodziło do zniszczeń za sprawą wprowadzania „żywiołów rzeczywistości" w postaci zapraszanych gości, którzy nie respektowali ani zasad, ani zastanej sytuacji. Jednym z takich „żywiołów" były dzieci z przedszkola, które niszczyły wszystko, co napotkały na swej drodze. W związku z tym wielu uczestników wycofało się z dalszej gry. Paradoksalnie „zwycięsko" wychodzili z tej sytuacji artyści, którzy zamykali się w „obszarach własnych", skupiali się na własnych doznaniach, na przykład Jacek Adamas – przez okres trwania wyborów.pl przechodził głodówkę, czy Monika Zielińska (Mamzeta) – pozostawiła po sobie ślad w postaci wydruku USG pokazującego jej nienarodzone jeszcze dziecko.

Po wyborach.pl na łamach „Piktogramu" wywiązała się dyskusja między Żmijewskim i Kowalskim. Żmijewski krytykował akademicką pracownię za zamknięcie na to, co na zewnątrz. Do tej krytyki używał określenia, które w jednym z wywiadów stworzył sam Kowalski – „bąbel w rzeczywistości". Dla Kowalskiego „bąbel", szczególnie w kontekście niesprzyjającej atmosfery lat osiemdziesiątych, stwarzał poczucie wolności i swobody działania. Dla Żmijewskiego – ograniczał poznawczo. „Zamknięcie działania na zniszczenie – pisał Żmijewski – upośledza naszą wiedzę o mechanizmach destrukcji – nie uczymy się niszczyć. Wypieramy złość i agresję, które zawsze wracają – ale już jako demony".

Althamera i Żmijewskiego uznać można za kontynuatorów myśli Kowalskiego, ale w szerszym kontekście. Chociaż artyści niejednokrotnie pracowali ze sobą, wydaje się, że ich postawy artystyczne znajdują się na skrajnych biegunach. O obu mówić można w kontekście sztuki opartej na partycypacji, ale Żmijewski bliski jest idei antagonistycznej wspólnoty czy demokracji, tak jak ją rozumie Chantal Mouffe, Althamer zaś zdaje się posługiwać utopijną, wyobrażoną ideą wspólnoty-nietożsamości, opisywaną przez Giorgia Agambena. Żmijewski kreuje sytuacje konfliktowe, jakby z góry skazane na porażkę. W 2007 roku na warsztatach opartych na pozawerbalnej komunikacji skonfrontował ze sobą cztery strony: lewicową młodzieżówkę, młodych Żydów, skrajnie prawicową Młodzież Wszechpolską oraz kobiety identyfikujące się z Kościołem katolickim. Doszło do wzajemnego poznania, ale nie do porozumienia – film Oni kończy się pożarem. Jednak gdy Żmijewski zdecydował się powtórzyć słynny więzienny eksperyment doktora Zimbardo, przeciwstawione sobie grupy więźniów i strażników zmówiły się ze sobą… przeciwko władzy artysty, który postawił ich w tej sytuacji.

Althamer jako artysta balansuje na cienkiej granicy, jakby poszukiwał równowagi między „obszarem własnym" a „obszarem wspólnym". W „obszarze własnym" odbywa mentalne podróże w głąb siebie. W czasie studiów były to często performance'y, polegające na odcięciu się od bodźców cielesnych, gdy niczym bałwan siedział przez kilka godzin na mrozie lub gdy jego ciało znajdowało się w plastikowym worku wypełnionym wodą. Do takiego odcięcia się od rzeczywistości służyły mu też narkotyki. W „obszarze wspólnym" Althamer działa niczym szaman, na przykład w swojej osiedlowej wspólnocie, ale nie jest przewodnikiem stada, raczej pomaga innym wyzwolić swe pokłady kreatywności lub spojrzeć na rzeczywistość z innej perspektywy.

Althamera i Żmijewskiego, a także wielu innych studentów Kowalni, chociaż w mniejszy lub mniej spektakularny sposób, łączy myślenie o swojej sztuce i jej odbiorcach lub uczestnikach jako o rodzaju wspólnoty. Etos sztuki, który przekazuje Kowalski, opiera się na przekonaniu, że sztuka jest jednym ze środków komunikacji, alternatywnym wobec tych używanych na co dzień, na przykład mass mediów, ale też otwierającym się na inne treści i intuicję. Tego uczy na przykład OWOW. Uwrażliwia na to, że sztuka nie działa w próżni, że pierwotnie zakładany przekaz nie zawsze musi być odczytywany zgodnie z naszymi intencjami, że niektóre gesty spotkają się z reakcją, ale też że z taką reakcją można wchodzić w dyskusję, w polemikę. Gdy wychodzą z pracowni, tego „bąbla w rzeczywistości", artyści działają we wspólnocie, jaką jest społeczeństwo.

Kowalnia ma także inny aspekt wspólnotowy – pracownia to zmieniająca się co roku grupa osób, studenci uwalniają się od autorytetu profesora i odchodzą, lecz przychodzą nowi. Ale następuje też kumulacja – w najszerszym rozumieniu Kowalnia to również grupa absolwentów pracowni, którzy – co nietypowe – często czują pokrewieństwo. Także teraz, gdy od prawie dziesięciu lat pracownia nie jest pracownią rzeźby (aczkolwiek zasada swobody wyboru środków powodowała, że studenci już w latach dziewięćdziesiątych sięgali po takie media, jak fotografia i film), lecz opartą na nowych mediach Pracownią Przestrzeni Audiowizualnej. Podobną grupę, do dzisiaj połączoną więzami przyjaźni i artystycznym pokrewieństwem, w latach siedemdziesiątych utworzyli absolwenci pracowni Jarnuszkiewicza w ramach Galerii Repassage. Jedną z czołowych postaci tego środowiska był Grzegorz Kowalski. To w Repassage'u miały miejsce pierwsze pokazy jego akcji-pytań. Stanowiły je zbiory odpowiedzi na egzystencjalne pytania stawiane przez Kowalskiego jego przyjaciołom. Formą takiej odpowiedzi było m.in. zapolowanie przed obiektywem aparatu. W przypadku Kowalskiego mówić bowiem należy o grupowej osobowości twórczej. I to być może najważniejszy z pierwiastków, które przekazuje swoim studentom.

# Пра пэрформанс у Польшчы пасьля 1989 — суб’ектыўна й фрагмэнтарна

## Паўліна Кэмпісты





Jerzy Bereś, performance, Warszawa, Zamek Ujazdowski, 1993
Ежы Бэрэсь, пэрформанс, Варшава, Замак Уяздоўскі, 1993

Інтрыгоўная ўласьцівасьць мастацтва пэрформансу — гэта ягоная няўлоўнасьць і немагчымасьць бесьперапыннага, сталага назіраньня за ім, што істотна ўскладняе ўсялякія спробы акрэсьліць гэтую зьяву з больш аддаленай часавай пэрспэктывы. Пэўны шанец на гэта даюць фэстывалі пэрформансу, якія маюць у Польшчы сваю традыцыю й дазваляюць зрабіць агляд, асьвяжыць успрыманьне, схіляюць да рэфлексіі над цяперашнім станам гэтай сфэры мастацтва. Зыходзячы з гэтага, тут я вырашыла засяродзіцца на апісаньні двух найважнейшых фэстываляў, якія праходзяць у Польшчы некалькі гадоў ці нават дзесяцігодзьдзяў.

### Сьціслы пераказ доўгай гісторыі

У 1990-х мы мелі за плячыма больш за дваццаць гадоў «жывога» мастацтва, цягам якіх адбываліся хэпэнінгі Тадэвуша Кантара, акцыі Зьбігнева Варпэхоўскага, маніфэстацыі Ежы Бэрэся, «Сынкрэтычныя паказы» Ўладзімежа Бароўскага, пэрформансы Кшыштафа Зарэмбскага, кантэкстуалізм Яна Сьвідзіньскага, «нэафлюксусная» дзейнасьць Анджэя Партума. Гэтыя творцы й заклалі асновы польскага эфэмэрыстычнага мастацтва. 1970-я — дзесяцігодзьдзе надзвычай цікавага, экспэрымэнтальнага мастацтва нэаавангарду й далейшага разьвіцьця польскага мастацтва акцыі. У 1978-м адбыліся вельмі важныя ў гісторыі польскага пэрформансу фэстывалі, бо дзякуючы ім тэрмін «пэрформанс» быў уведзены ў мову крытыкі й тэорыі, стала пасяліўшыся ў слоўніку польскага мастацтва. Першы фэстываль — «International Artists Meeting» — адбыўся ў галерэі «Рэмант» у Варшаве. Там выступіла міжнароднае кола мастакоў, якія тады займаліся між іншага й пэрформансам, прайшлі дыскусіі, сустрэчы й паказы. Другім фэстывалем былі Міжнародныя сустрэчы мастакоў «Performance and Body», арганізаваныя ў мастацкай галерэі LDK «Лябірынт» у Любліне. Гэта быў першы польскі фэстываль, у назьве якога паўстаў панятак «пэрформанс» і які быў цалкам прысьвечаны зьявам з гэтай сфэры мастацтва.

1980-я — час складанага выбару, ізаляцыі, «займаньня пазыцыі», час пакорлівасьці й рахманасьці, а з другога боку — бунту й альтэрнатывы. Польскі пэрформанс ужо на той час займеў сталае кола прадстаўнікоў. Апрача названых вышэй тады працавалі Януш Балдыга, Уладзіслаў Казьмерчак, Зьдзіслаў Квяткоўскі, Тэрэса Мурак, Зыгмунт Пятроўскі, Эва Сьвідзіньска, Артур Тайбэр, Эва Зажыцка, і гэта толькі некалькі імёнаў. І вось 1989 год, момант ісьціны й разьняволеньне, або, хутчэй разьяднаньне й пабудова ўсяго наноў... Таму можна прызнаць, што на пачатку 1990-х пэрформанс ужо ўгрунтаваўся ў Польшчы, хоць і надалей быў вядомы й ствараўся ў вузкіх колах мастакоў. Гэтае становішча зьмянілі фэстывалі, якія пачалі расьці, як грыбы пасьля дажджу, у розных гарадах Польшчы, больш ці менш вядомыя й значныя. Пералічу некаторыя з тых, у чыёй праграме важную або асноўную ролю адыгрываў пэрформанс: «Real Time, Story Telling» (Сопат, 1991 г.), «Audio Art» (Кракаў, 1993 г.), «WRO» (Уроцлаў, 1993 г.). Важным цыклічным мерапрыемствам быў «Замак уяўленьня», які праходзіў у 2003–2006 гг. першапачаткова на Памор'і, а потым зрабіўся вандроўным фэстывалем. Уладзіслаў Казьмерчак, ключавая фігура «Замку ўяўленьня», пісаў: «Чаму фэстывалі? Таму, што гаворка ідзе пра прыватны час гледачоў і творцаў. Таму, што на фэстывалях публіка надзвычай разнастайная. Тут ствараюцца важныя прасторавыя, грамадзкія, культурныя кантэксты. Тут вядзецца й пра тое, каб убачыць мастацтва іншых. Пра тое, каб некалькі дзён пабыць разам». За 13 гадоў у фэстывалі ўзялі ўдзел 352 мастакі з 33 краінаў. Іншым істотным фэстывалем, які праходзіў з 1993 году ў Кракаве, быў «Форт Мастацтва», заснаваны Артурам Тайбэрам — пэрформэрам, прафэсарам Кракаўскай Акадэміі мастацтваў. Кракаў, як і Люблін, адыграў важную ролю ў гісторыі разьвіцьця польскага мастацтва акцыі, перадусім дзякуючы Ежы Бэрэсю, Тадэвушу Кантару й некалькім фэстывалям, месцам і людзям, прыязным да гэтай сфэры. З апошняга «Форту Мастацтва» Кракаў не зрабіў уласнага сталага фэстывалю пэрформансу, аднак там рэгулярна праходзяць разавыя прэзэнтацыі (напрыклад, «Last minute performance» у Навуковай кавярні).

Цяпер у Польшчы рэгулярна праходзяць два фэстывалі пэрформэраў: Міжнародны фэстываль мастацтва акцыі «Інтэракцыі» ў Пётркаве Трыбунальскім і Эўрапейскі фэстываль мастацтва пэрформансу (EPAF) у Варшаве. Яны розьняцца як характарам, гэтак і прынцыпам падбору мастакоў, канструкцыяй праграмы, а таксама й публікай.

### Розныя аспэкты інтэрактыўнасьці

«Інтэракцыі» праходзяць з 1999 году, на сёньня гэта фэстываль з самай доўгай гісторыяй паказу пэрформансу ў Польшчы. Фэстываль адбываецца ў Пётркаве Трыбунальскім — невялікім горадзе прыкладна ў 200 км на паўднёвы захад ад Варшавы. «Інтэракцыі» паўсталі з ініцыятывы двух чалавек: Станіслава Пятра Гайды, мастака, арганізатара культурных імпрэзаў і старшыні Таварыства мастацкіх дзеяньняў «Галерэя» ў Пётркаве Трыбунальскім, а таксама Рышарда Пегзы, мультымэдыйнага творцы, арганізатара «Video Art Action» у Парыжы. Адпачатку «Інтэракцыі» ўзьніклі як фэстываль жывога, эфэмэрыстычнага мастацтва акцыі, якое адбываецца ў кантэксьце дадзенага месца й часу, ва ўзаемадзеяньні з атачэньнем і публікай. У «Маніфэсьце» фэстывалю, які склаў Мішэль Жыро ў 1998 годзе, напісана: «Разнастайныя акцыі адбудуцца ў месяцы траўні ў сэрцы Польшчы ў Пётркаве Трыбунальскім: акцыі, сумесна разыграныя ўдзельнікамі, акцыі, што

паўстануць з выпадковых сустрэчаў… акцыі ўнутраныя (у публічных месцах і ўстановах), акцыі дзённыя, акцыі начныя (у кватэрах і начных клюбах), акцыі тэлепатычныя, акцыі віртуальныя (у інтэрнэце), акцыі нябачныя, акцыі непасрэдныя, пасрэдныя, дармовыя акцыі й акцыі дарагія, акцыі тэарэтычныя, акцыі прагматычныя, акцыі старыя, сучасныя, праекты акцыяў, акцыі рэтраспэктыўныя, акцыі акцыі, акцыі бяз акцыі, акцыі прадбачаньня, трансфармацыі, акцыі трансу, акцыі перамены, акцыі трансакцыі».

Арганізатарам было важна стварыць супольную пляцоўку для абмену энэргіяй і досьведам ня толькі паміж самімі творцамі, але перадусім паміж пэрформэрамі й публікай. У гэтым палягае ідэя інтэрактыўнасьці, на якой заснаваны ўвесь фэстываль. Пра яе піша Ян Сьвідзіньскі, «настаўнік» і вядоўца пётркаўскага фэстывалю, прыводзячы словы гісторыка мастацтва Поля Ардэна, які «гаворыць пра кантэкстуальны характар сучаснага мастацтва й падкрэсьлівае важнасьць узаемнага кантакту й інтэрактыўнасьці; узаемадзеяньня паміж мастакамі, людзьмі розных культураў, паміж мастакамі й публікай, паміж тымі, хто прыяжджае на паказ, і мясцовымі, якія належаць да гэтай спэцыфічнай мясцовай супольнасьці… Невыпадкова, што амаль усе міжнародныя фэстывалі пэрформансу праходзяць не ў вялікіх мэтраполіях, дзе ананімнасьць грамадзкага жыцьця ўскладняе непасрэдны кантакт людзей міжсобку, а шукаюць месца для сябе ў меншых супольнасьцях. Тое, што пётркаўскі фэстываль штогод адбываецца ў адным месцы й у адзін час, паглыбляе ўзаемныя кантакты паміж творцамі й паміж мастакамі й публікай».

Ужо некалькі гадоў арганізатары запрашаюць на працу куратараў, якія складаюць праграму фэстывалю. Да гэтага часу куратарамі былі Аластэйр Макленан, Рычард Мартэль, Чумпон Апісук, Аляксандар Дэль Рэ, Малгажата Батэрвік супольна з Энджэлам Пастарам і Арці Грабоўскім. За трынаццаць гадоў праз Пётркаў Трыбунальскі прайшлі сотні мастакоў з усяго сьвету. Фэстываль звычайна праходзіць пяць дзён, абавязковымі пунктамі праграмы зьяўляюцца выступы Яна Сьвідзіньскага, Пшэмыслава Квека — ганаровага дарадцы фэстывалю — і групы «Рэстаран Эўропа», якая ўзьнікла ў Пётркаве. Пасьля такога інтэнсіўнага тыдню мастакі разьяжджаюцца па розных гарадах (у тым ліку ў Кракаў, Бельска-Бялую, у Лодзь), дзе фэстываль зьмяняецца й працягваецца. Па-за асноўнай праграмай адбываецца г. зв. «OFF Interakcje», у межах якой паказваюць сябе студэнты мастацкіх вучэльняў, рэкамэндаваныя выкладчыкамі зь некалькіх установаў з усёй Польшчы. Апрача пэрформансаў праходзяць канцэрты, прэзэнтацыі й сустрэчы са школьнай моладзьдзю й студэнтамі. Часта здараецца так, што мастакі спантанна захопліваюць розныя месцы ў публічнай прасторы, дзякуючы чаму фэстываль уваходзіць у структуру гораду, ажыўляе яе, вырываючыся з-пад кантролю арганізатараў. Адкрытая й свабодная формула, камэрная атмасфэра гораду, а таксама магчымасьць непасрэднага кантакту й інтэракцыі гледача з мастаком — несумненныя вартасьці фэстывалю. Фэномэнам і асновай пасьпяховага дзеяньня зьяўляецца вялікая колькасьць валянтэраў, перадусім маладых людзей. Дзякуючы гэтаму ўтварылася сталая публіка, «Interakcje» дачакаліся нават сваіх выхаванцаў, якія спрабуюць сілы ў пэрформансе. Усе гэтыя чыньнікі спрыяюць таму, што фэстываль мае свой спэцыфічны й выключны клімат.

Падчас апошняга фэстывалю выступілі амаль 40 мастакоў зь 17 краінаў. Куратарская праграма была пабудаваная на кантрастах, якія вынікаюць з культурных адрозьненьняў паміж гасьцямі й часам скрайне розных мастацкіх стратэгіяў. Праграма ўлучала як клясычныя, «чыстыя» пэрформансы, так і выступы, у значнай ступені заснаваныя на праекцыі й гуказапісе, аж да паратэатральных формаў. Выступілі такія мастакі, як Іштван Кантар, Stelarc, або Ніколя Франджыонэ. У адрозьненьне ад папярэдняга, гэты фэст выклікаў у публікі моцныя эмоцыі, перадусім з прычыны многіх нечаканых паваротаў акцыі.

**Канфрантацыя мастацкіх пазыцыяў не пагражае нікому — з умовай, што гаворка ідзе менавіта пра мастацтва**

Каб апісаць гісторыю Эўрапейскага фэстывалю пэрформансу, які ўжо шэсьць гадоў праходзіць у Варшаве, варта вярнуцца ў 2000 год, да фэстывалю «Art Kontakt», які адбыўся ў Любліне. Арганізаваны Вальдэмарам Татарчуком у супрацы са Зьбігневам Сабчуком, тагачасным дырэктарам галерэі «Конт», ён быў вынікам дзейнасьці Асяродку пэрформансу, што паўстаў за год да таго. Гэта быў першы фэстываль пэрформансу ў Любліне з 1978 году, калі ў галерэі «Лябірынт» адбыўся «Performance and Body» — фэст, які стаўся вяхою ў гісторыі польскага пэрформансу. У праграме выступілі мастакі з усяго сьвету — і прызнаныя, і пачаткоўцы. З прычыны фінансавых праблемаў толькі праз 4 гады ўдалося арганізаваць чарговы фэстываль, і гэта быў першы фэст з сэрыі EPAF, зладжаны з сапраўдным імпэтам. Фэстываль прайшоў у два этапы — у чэрвені й у верасьні. Тады Татарчук запрасіў выбітнае кола польскіх і замежных мастакоў. Важным аспэктам праекту была й тэарэтычная частка, сустрэчы й гутаркі з мастакамі. Як і на «Art Kontakt», праграма складалася зь дзьвюх частак — асноўнай і «адкрытай», дзе паказалі сябе маладыя мастакі. Гэтай жа формулы прытрымліваліся й іншыя фэсты EPAF, які з 2006 году пераехаў у Варшаву й з таго часу штовосень праходзіць у Цэнтры сучаснага мастацтва «Ўяздоўскі замак». Куратар Вальдэмар Татарчук узгадвае: «На першых фэстах дамінавалі клясыкі гэтага мастацтва. Бо адной з мэтаў фэстывалю была прэзэнтацыя творцаў, якія на пераломе 1960–70-х гадоў XX стагодзьдзя заклалі падмуркі новай сфэры мастацтва — пэрформансу. Другой, ня менш важнай, мэтаю была прэзэнтацыя маладых мастакоў». З кожным фэстам цэнтар цяжару перасоўваўся да «адкрытай праграмы». У 2010 годзе фэст быў цалкам прысьвечаны прэзэнтацыі мастацтва маладых пэрформэраў, народжаных пасьля 1975 году. Спэцыяльным госьцем фэстывалю быў Найджэл Рольфэ, які завяршыў усю імпрэзу цудоўным пэрформансам. І ў 2011 годзе праграма фэстывалю абапіралася на адкрыты конкурс «Open call». На падставе дасланых экспілікацыяў былі абраныя 10 маладых мастакоў. Такая адкрытая форма дапамагае пераламаць звычай выбудоўваць праграму на знаёмствах куратара з мастакамі, якіх ён сустрэў раней на розных імпрэзах. Гэта шанец пазнаць цікавых, але невядомых творцаў, якія да таго часу ня мелі нагоды паказацца шырокай публіцы. У 2008–2009 гадах выступілі запрошаныя да супрацоўніцтва куратары-госьці: Сэрджыа Эдэльштайн прапанаваў групу ізраільскіх мастакоў, праз год Нікі Мілікэн прывезла шэраг брытанскіх мастачак. У 2010 годзе кожны з пэрформэраў выканаў дзьве акцыі — ва Ўяздоўскім замку й у публічнай прасторы Варшавы. У 2011 годзе фэст грунтаваўся на ідэі дыялёгу культуры й мастацтва Ўсходу й Захаду, іх узаемных уплываў, інсьпірацыі й адрозьненьняў. Апрача маладых творцаў, выбраных праз конкурс, выступілі мастакі з Кітаю.

З 2009 году ў Любліне праходзіць фэстываль «Performance Platform Lublin», які, магчыма, стане пастаяннай падзеяй у сфэры пэрформансу ў гэтым горадзе.

**У галерэях большая верагоднасьць сустрэцца з мастацтвам, але гарантыі гэтага няма**

Важнай для папулярызацыі пэрформансу зьяўляецца дзейнасьць некалькіх галерэяў, якія апошнія 20 гадоў рэгулярна прэзэнтуюць гэтую сфэру мастацтва. Да іх належаць сярод іншых галерэя «Лябірынт» у Любліне, дзе ўжо з 1970-х абавязковым пунктам праграмы ёсьць пэрформанс, галерэя «Арсэнал» у Беластоку, дзе, між іншага, у 2009 годзе адбыўся «Performance Arsenal», «Усходняя галерэя» ў Лодзі ці галерэя «Энтрапія» ва Ўроцлаве — яны прэзэнтуюць пэрформэраў індывідуальна.

Цікавай ініцыятывай, адасобленай і ад фэстывальных, і ад галерэйных структураў, ёсьць «Клюб Пэрформанс», які працуе ў Варшаве з 2004 году. Ідэя нарадзілася з патрэбы рэалізацыі й рэгістрацыі эфэмэрыстычнага мастацтва. Ейнымі аўтарамі ёсьць Пшэмыслаў Квек, Ян Рыльке, а таксама памерлы ўжо Ян Пякарчык. Гэтыя моцныя асобы ў значнай ступені вызначылі характар клюбу — нефармальны, таварыскі й трохі элітарны. Клюб дачакаўся публікацыі, выдадзенай дзякуючы настойлівасьці творцаў, у якой Ян Рыльке згадвае: «Мы прапанавалі… «Клюб Пэрформанс», спадзеючыся, што слова «клюб» у назьве дазволіць больш свабодныя праявы інтэрактыўнасьці, экспэрымэнту й наватарства сярод пэрформэраў і больш вольныя формы саўдзелу гледачоў». Стваральнікі клюбу з дапамогай адкрытай, нефармальнай праграмы выступілі супраць застаялых фэстывальных схемаў, у якія ўпісалася мастацтва пэрформансу. Сваёй нічым не абмежаванай дзейнасьцю яны выйшлі за абсяг інстытуцыйных структураў, нягледзячы на тое што — парадаксальна — сустрэчы клюбу адбываліся ў галерэях. Клюб зьбіраўся час ад часу ў дзьвюх суседніх галерэях у Варшаве. Сустрэчы праходзілі паміж выставамі, калі галерэі былі пустыя. Ян Рыльке падсумоўвае: «Абедзьве галерэі не прэзэнтуюць у сваіх праграмах пэрформанс і знаходзяцца непадалёк адна ад адной… Іхныя прасторы вельмі адрозныя. Галерэя крытыкаў «Паказ» недаступная з вуліцы, ня мае вокнаў і пафарбаваная ў чорнае. Галерэя «Кандэгарда» адкрытая на вуліцу, мае вялікія вокны й пафарбаваная ў белы колер». Удзельнікаў або запрашалі, або прымалі, калі тыя выказвалі ахвоту выступіць. Ніхто нікому нічога не плаціў. Цяпер клюб пад гэтай назвай не працуе.

***

З 1989-га прайшло 22 гады. Якое значэньне яны мелі для разьвіцьця пэрформансу? Напраўду ўсе самыя важныя падзеі адбываліся цягам першага 20-годзьдзя пасьля ўзьнікненьня гэтай сфэры. У 1990-х зьявіліся некалькі мастакоў-пэрформэраў маладога пакаленьня, якія сёньня выступаюць па ўсім сьвеце, аднак яны ня ўнесьлі ў гэтую сфэру нічога новага.

Апрача згаданых у гэтым тэксьце фэстываляў, засяроджаных на прэзэнтацыі «жывога» мастацтва, праходзіць шмат імпрэзаў, якія спалучаюць розныя мастацкія формы й у праграме якіх усё часьцей зьяўляецца пэрформанс. Гэта сьведчыць пра ўспрымальнасьць маладых мастакоў, ды й гледачоў, да гэтага віду мастацтва — хаця й надалей сярод вузкага кола. Праходзіць усё больш дыскусіяў, паказаў дакумэнтацыі й сэмінараў, прысьвечаных пэрформансу. На мастацкіх факультэтах у Познані, Кракаве й ад нядаўняга часу ва Ўроцлаве праводзяцца заняткі па мастацтве пэрформансу. Выкладчыкамі зьяўляюцца творцы, вядомыя ў гэтай сфэры: Януш Балдыга, Арці Грабоўскі й Эва Зажыцка, якія «ўводзяць» маладых мастакоў у досыць гермэтычны асяродак пэрформэраў. Зусім іншая праблема — факт, што маладым мастакам няпроста адпавядаць «чаканьням» крытыкаў і больш заслужаных мастакоў.

**Паўліна Кэмпісты** — *гісторык мастацтва, старшыня Фонду пэрформансу. Супрацоўнічала з Цэнтрам пэрформансу пры фэстывалях EPAF, «Performance Platform Lublin». Куратарка-пачаткоўка й аўтарка тэкстаў пра сучаснае мастацтва, перадусім пра сфэру пэрформансу. Цяпер працуе ў галерэі «Лябірынт» у Любліне.*

Zbigniew Warpechowski, performance, Warszawa, Zamek Ujazdowski, 1990
Зьбігнеў Варпэхоўскі, пэрформанс, Варшава, Замак Уяздоўскі, 1990

# O sztuce performance w Polsce po ‘89 – subiektywnie i wybiórczo

Paulina Kempisty

▼



Intrygującą właściwością wpisaną w charakter sztuki performance jest jej nieuchwytność i niemożność regularnej, stałej obserwacji, co przysparza niemałych trudności wszelkim próbom podsumowania tego zjawiska z większej perspektywy czasu. Pewną szansę dają festiwale sztuki performance, które mają w Polsce swoją tradycję i stwarzają możliwość przeglądu, odświeżenia spojrzenia i skłaniają do refleksji nad aktualną kondycją tej dziedziny sztuki. Z tych względów postanowiłam skupić się w niniejszym tekście na prezentacji dwóch najważniejszych festiwali, odbywających się w Polsce od kilku i kilkunastu lat.

### Krótka opowieść o dłuższej historii

W latach dziewięćdziesiątych mieliśmy już za sobą ponad dwadzieścia lat historii sztuki „żywej”, na przestrzeni których miały miejsce: happeningi Tadeusza Kantora, akcje Zbigniewa Warpechowskiego, manifestacje Jerzego Beresia, „Pokazy Synkretyczne” Włodzimierza Borowskiego, performance’y Krzysztofa Zarębskiego, kontekstualizm Jana Świdzińskiego, „neofluxusowa” działalność Andrzeja Partuma. Wszystkie te osobowości artystyczne stworzyły podwaliny polskiej sztuki efemerycznej. Lata siedemdziesiąte to dekada niezwykle interesującej, eksperymentalnej sztuki artystów neoawangardowych i dalszy rozwój polskiej sztuki akcji. W roku 1978 odbyły się dwa bardzo ważne dla historii polskiego performance’u festiwale, ponieważ to dzięki nim „termin «performans» został wprowadzony do języka polskiej krytyki i teorii, zadomawiając się na dobre w słowniku polskiej sztuki”. Pierwszy festiwal – International Artists Meeting – odbył się w Galerii Remont w Warszawie. Pojawiło się tam międzynarodowe grono artystów, tworzących m.in. sztukę performance, odbyły się dyskusje, spotkania i pokazy. Drugim festiwalem były Międzynarodowe Spotkania Artystów „Performance and Body”, zorganizowane w galerii sztuki LDK Labirynt w Lublinie. Był to pierwszy festiwal w Polsce, w którego nazwie pojawiło się pojęcie „performans” i który w pełni był poświęcony zjawiskom związanym z tym obszarem sztuki.

Lata osiemdziesiąte to czas trudnych wyborów, izolacji, „zajęcia pozycji”; a więc, z jednej strony, trochę uległości i potulności, z drugiej – buntu i alternatywy. Performance polski miał już wówczas stałą grupę przedstawicieli. Oprócz wymienionych artystów działali: Janusz Bałdyga, Władysław Kaźmierczak, Zdzisław Kwiatkowski, Teresa Murak, Zygmunt Piotrowski, Ewa Świdzińska, Artur Tajber, Ewa Zarzycka, wymieniając tylko kilkoro. I rok 1989 – chwila prawdy i rozprężenie, czy raczej rozproszenie i budowanie wszystkiego od nowa… Można więc uznać, że na początku lat dziewięćdziesiątych sztuka performance była już w Polsce zadomowiona na dobre, choć w dalszym ciągu znana i uprawiana raczej w wąskich kręgach. Zmieniły to festiwale, które zaczęły wyrastać jak grzyby po deszczu w różnych miastach Polski, mniej lub bardziej udane i znaczące. Oto przykłady tych, w których programie ważną lub główną rolę odgrywał performance: „Real Time, Story Telling”, Sopot 1991; Audio Art, Kraków 1993; WRO, Wrocław 1993. Ważnym wydarzeniem cyklicznym był „Zamek Wyobraźni”, odbywający się w latach 1993–2006 początkowo na Pomorzu, później stał się festiwalem „wędrującym”. Władysław Kaźmierczak – kluczowa postać „Zamku Wyobraźni” – pisał: „Dlaczego festiwale? Ponieważ chodzi o prywatny czas widzów i artystów. Ponieważ na festiwalu publiczność jest mocno zróżnicowana. Ważne są nowe konteksty przestrzenne, społeczne, kulturowe. Chodzi też o zobaczenie sztuki innych artystów. Bycie razem przez kilka dni”. W ciągu trzynastu lat w festiwalu uczestniczyło 352 artystów z 33 krajów. Kolejnym istotnym festiwalem odbywającym się od 1993 roku przez kilkanaście kolejnych lat w Krakowie był „Fort Sztuki”, zainicjowany przez Artura Tajbera – artystę performance, profesora krakowskiej Akademii Sztuk Pięknych. Kraków, podobnie jak Lublin, odegrał istotną rolę w historii rozwoju polskiej sztuki akcji, głównie za względu na postać Jerzego Beresia, Tadeusza Kantora oraz za sprawą kilku festiwali, miejsc i osób przyjaznych tej dziedzinie. Od ostatniej edycji „Fortu Sztuki” na początku XXI wieku Kraków nie ma cyklicznego wydarzenia performance, lecz regularnie odbywają się tam jednorazowe prezentacje performance (na przykład „Last minute performance” w Kawiarni Naukowej).

Aktualnie w Polsce regularnie odbywają się dwa festiwale sztuki performance: Międzynarodowy Festiwal Sztuki Akcji „Interakcje” w Piotrkowie Trybunalskim oraz Europejski Festiwal Sztuki Performance EPAF w Warszawie. Różnią się zarówno charakterem, jak i sposobem wyboru artystów, konstrukcją programu, inna jest również publiczność.

### Różne aspekty interakcyjności

„Interakcje” odbywają się od 1999 roku i jest to festiwal o najdłuższej tradycji prezentowania sztuki performance w Polsce. Miejscem festiwalu jest Piotrków Trybunalski – niewielkie miasto oddalone około dwieście kilometrów na południowy-zachód od Warszawy. „Interakcje” powstały z inicjatywy dwóch osób: Stanisława Piotra Gajdy – artysty, organizatora życia kulturalnego i Prezesa Stowarzyszenia Działań

